


ВЫПУСК 29

Паліна Качаткова

# МАТЫЛІ

ёсць словы, якія не варта казаць. ёсць рэчы, пра якія лепш не ведаць

Навелы

МІНСК
«КНІГАЗБОР»
2012

УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
К12

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 29.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Качаткова, П.**
К12 Матылі : навелы / Паліна Качаткова. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 144 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 29).
ISBN 978-985-7007-80-6.

Паліна Качаткова атрымала вядомасць дзякуючы напісанню сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Зараз вы трымаеце ў руках яе першую кнігу мастацкай прозы. Чытайце — і здзіўляйцеся.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7007-80-6**

# НАЧНЫЯ РАЗМОВЫ ПРА МАТЫЛЁЎ

Ёсць словы, якія не варта казаць.
Ёсць рэчы, пра якія лепш не ведаць.

Давайце пагаворым пра матылёў.

Матыль — гэта матыль, прыгажосць. Ён ніколі не сядзе ні на што брыдкае.

Ці матылі нейкім чынам звязаныя з тым, з іншым светам?

Крылатая Душа-Псіхея? Не ведаю. Магчыма. Паэты так лічылі, не людзі. Душа-матыль? Наўрад ці.

А што вы ведаеце пра матылёў?

Некаторыя віды матылёў могуць пераляцець цераз мора. Ёсць такія матылі — пралятаюць тысячы кіламетраў. А ёсць матылі — жывуць адзін дзень — аднадзёнкі. Празрыстыя самотныя душы.

Ці дажываюць да вясны тыя з іх, хто хаваецца восенню?

Дажываюць? Восенню яны лезуць хавацца. Лезуць ва ўсе цёмныя месцы — пад драўляны ложак, пад канапу, за шафу. Іх шмат-шмат набіваецца. Бывае, яшчэ цёпла, а яны ўжо залазяць.

А да вясны дажываюць?

Думаю, што некаторыя з іх — маладыя. Маладыя — дажываюць.

Неверагоднае мноства матылёў апынулася ў кватэры на вуліцы Алтайскай у Мінску — на выспе маёй часовай незалежнасці. Там я жыла, памятаеце? Матылі былі паўсюль — у пад’ездзе і ў кватэры. Сядзелі як прыклееныя на стале і сценах. І ў ваннай. Спалі, склаўшы крылы.

Калі я адчыняла вам дзверы, матылі зрываліся з месцаў і кружыліся, кружыліся. Узляталі пры кожным нашым руху. І зноў нерухомелі на сценах і століі. Ціха складвалі і раскладвалі пяшчотныя крылы, разгортвалі і згортвалі, як кніжныя старонкі. Толькі тады я не ведала, што напісана ў той кнізе.

І куды яны пасля падзеліся? Восень, кастрычнік. Матылі маглі забіцца куды-небудзь і схавацца. А маглі вылецець праз вокны і паляцець далей. Яны маглі паляцець далей, але гэта была восень, кастрычнік. Куды яны падзеліся. Куды? Інсекты добра ўмеюць маскавацца. Я цяпер вельмі часта думаю пра гэта.

Яны пражылі пэўны час у той кватэры. Я таксама пражыла там пэўны час. Памятаеце, я радавалася, калі набыла лямпу з аранжавым абажурам? Лямпа стаяла на падлозе побач з кілімам брэсцкай вытворчасці з выявамі паўлінаў. Яшчэ былі канапа і тэлефон на зэдліку. Фіялетавая пуховая коўдра, новыя махровыя ручнікі. Апошні паверх. Пад балконам дрэвы з жоўта-чырвоным лісцем. Цёплая восень. Краявід з электрастанцыяй.

І паўсюль матылі. Вядома, рэдкае відовішча ў наш час. Незвычайнае. Гронкі матылёў. А можа, гэта было перасяленне ў вырай?

Мы гаварылі, рухаліся, матылі лёталі.

Помню вас у дзвярах і помню матылёў — яны маглі заляцець у вітальню следам за вамі ці, наадварот, вылецець у пад'езд, калі вы сыходзілі.

Цяжка паверыць, што не вернемся туды.

Матылі, якія ўвосень залятаюць у кватэры і пад'езды, шукаюць схованкі... У красавіку, калі цяплее, яны ажываюць. Некаторыя за зіму знікаюць, паміраюць, высыхаюць, астатнія пачынаюць вылятаць. Калі дастаткова цёпла, я ім акно расчыняю і выпускаю на сонейка. А бывае, што і зімой, калі горача, яны вылятаюць і пачынаюць біцца ў шкло раней часу.

— Гэта тыя самыя, якія восенню схаваліся за шафу, пад ложак?

— Так, калі цяплее, яны вылятаюць.

— Вы хочаце сказаць, што яны могуць перазімаваць?
— Так, яны могуць перазімаваць.
— Ну, некаторыя паміраюць, напэўна?
— Напэўна.

Матылі вылятаюць вясной, калі пах сырой зямлі робіцца невыносны — адтала зямля і ўсё, што ў зямлі.

Паветра вільготнае, вецер...

Вецер варушыць валасы, дакранаецца аднолькава да ўсяго — жывога і нежывога. А ў паветры з'яўляюцца прыгожыя вясёлыя матылі. На людзей тымчасам проста страшна глядзець — выходзяць на вуліцы з шэрымі тварамі — быццам усю зіму правялі ў зямлі.

Бываюць такія вясна-лета-восень, калі матылёў асабліва шмат. А бывае — амаль няма. Памятаю, у жніўні — у двары і на верандзе — іх было процьма. Про-цьма, цьма і цьма. Я чытала кнігу ў крэсле, яны на мяне сядалі і махалі крыльцамі, я была ціхая і нерухомая, таму яны так рабілі.

Цяпер распавяду, як мяне ўразіў вялікі чорны матыль з блакітнай каёмкай — антыопа. Так атрымалася...

Калі праводзілі класіфікацыю матылёў, некаторым з іх дасталіся імёны міфалагічных істотаў. Вялікі чорны матыль атрымаў імя антыопа ў гонар адной са шматлікіх каханак Зеўса, якая пакутавала і ад усіх хавалася. Па-руску антыопу называюць «траурница», беларуская назва мне невядомая. Хто мне сказаў, што матыль так называецца? Мама. Так і засталіся гэтыя назвы на ўсё жыццё, як у дзяцінстве вывучыла, — адмірал, крапіўніца, лімонніца, махаон. Адмірал такі ўрачысты, чорна-чырвоны, буйны. Цяпер рэдка яго ўбачыш. Яго яшчэ называюць ванэса. Махаон — вялікі жоўты з чорным, яшчэ большы за адмірала, — буйны матыль, напэўна, буйнейшага няма ў нас. Назвы матылёў, як назвы кветак, — тыя, якія ў дзяцінстве назвалі, запомніліся назаўжды, а цяпер вывучыць што-небудзь цяжка.

Так, я распавяду пра жалобнага матыля. Убачыла там, дзе мы праводзілі лета, калі мне было шэсць гадоў. Там лёталі розныя матылі. Але чорны матыль быў не разам з усімі на той палянцы, дзе яны ўсе мільгацелі. Антыопа з'явілася перада мною за акном пакоя, дзе мы жылі. Яна сядзела на дрэве.

На бярозе. Самотная, склаўшы крылы — ледзь заўважная рыса на белым тле. А пасля разгарнула крылы. І я здзівілася. Чорны матыль выглядаў вельмі кантрасна на белым. Можа, я і раней бачыла антыопу, але да таго выпадку не звяртала ўвагу. А тут мой позірк сфакусаваўся на незвычайным чорным матылі. Матыль зварухнуўся, расправіў крылы. І вось яго ўжо няма — толькі мільгануў цень. Антыопа знікла ў гарачым летнім паветры. Засталася хваля расчаравання.

У агорнутых цемрай садах жывуць начныя матылі — аксамітныя, важкія, з чырвонымі вачыма. У ясны дзень яны хаваюцца дзе могуць. А цёплымі летнімі начамі б'юцца ў шыбу.

Яны падлятаюць да вокнаў у той самы час, калі мы падаем у цёмную бясконцую бездань сну, калі ў душу пачынае пранікаць незямное. Начныя матылі прыносяць з цемры трывожную таемнасць. Шолах іх крылаў зліваецца з прыглушанымі начнымі ўскрыкамі, шэптам дрэваў, шамаценнем шын і перамовамі сабак. Зранку, калі сонца працягне па падлозе бліскучыя, рухомыя палосы святла, заўважыш — некаторыя з начных матылёў памерлі. Ляжаць на падваконні без руху — з крылаў абляцеў пылок, яны празрыстыя.

*Травень 2003 года, Мінск*

# ЖАХЛІВЫЯ РЭЧЫ

У вечары 29 верасня 2002 года чытаю фрагменты дакументальнай кнігі — пра жыццё, каханне і смерць — рэальныя гісторыі ў электронным выглядзе. Гудзе вентылятар у старым камп'ютары, спальвае пыл. На клавіятуру ўпаў жоўты ліст з кітайскага клёніка, што расце ў керамічным вазоне на стале. Клёнік з аранжавымі кветкамі-ліхтарыкамі стварае ілюзію адчыненага ў сад акна. За балконнымі шыбамі — восеньскі змрок. Туман паўзе праз жоўтую гліністую пустку на Маскоўскія могілкі, адтуль — на праспект Скарыны.

Рэальныя гісторыі заўсёды цікавыя. Цікава збіраць, запісваць перажыванні, думкі, страхі. І ўсё — не сваё. Збіральнік хаваецца за чужаніцай — не выдае ўласных эмоцыяў, уводзіць у зман, сядзіць насупраць, а дыктафон ловіць словы.

**СТРАХ**

Жывы чалавек, жывая кніга. Самыя жудасныя, скіраваныя ў бясконцасць страхі — дзіцячыя: «Мне было шэсць гадоў. Бацькі вырашалі між сабой пытанне: выпраўляць мяне ў школу ці не. А я стамілася ад няспыннага сузірання магілаў. У той дзень, калі гэта пачалося, я зранку была на могілках са сваёй стрыечнай сястрой Тасяй. Там я зусім не баялася, мы проста гулялі, як у парку. А калі лягла спаць, пачалося: магілы, магілы, магілы. Было такое трызненне: няясныя, размытыя груды. Але я ведаю, што гэта магілы, і з пакорай чакаю, калі яны раскрыюцца... Удзень я спакойна гуляла каля лесу, дзе якраз і былі гэтыя няясныя груды (сапраўды старыя магілы, але мне пра гэта ніхто не казаў). Там было добра — вельмі шмат прыгожых вясёлых матылёў, але я ведала, што прыйдзе вечар... Я нікому не казала пра свае страхі, была перакананая — гэта бессэнсоўна, нават нель-

га — будуць сварыцца. Усё гэта адбывалася ў пяцідзясятыя гады ў Барысаве. Мы жылі ў той частцы горада, якая называлася Стары Барысаў.

Недалёка ад нашага дома, насупраць Старога Барысава, на беразе Бярэзіны знаходзіліся Батарэі — умацаванні расійскай арміі часоў вайны 1812 года — зарослыя старымі соснамі штучныя груды. Мы хадзілі туды гуляць, а зімой катацца. У мяне было цыгейкавае футра, і проста на ім я з'язджала з горак.

Такая была забава. У 80-я гады мне прывезлі кнігу Юркі Віцьбіча, і з гэтай кнігі я ўпершыню даведалася пра тое, што на Батарэях расстрэльвалі людзей — удзельнікаў страйку на запалкавай фабрыцы. Мяне гэта ўразіла, таму што Батарэі ніяк не асацыяваліся ні з чым такім... І я падумала: прырода не захоўвае памяць пра пакуты і смерць чалавека. Хаця я ведаю іншы выпадак, калі прырода ўсё ж захавала жах. Мы з бацькамі і іншымі сем'ямі афіцэраў ездзілі на машынах адпачываць за горад, на рэчку ў вельмі маляўнічае месца, якое ўсім падабалася. Лічылася, што яно нагадвае вядомы краявід Шышкіна — рэчка, лес, пясок. Недалёка Палік — таямнічае возера сярод балотаў, нейкім чынам звязанае з партызанскім рухам. А яшчэ там быў гліністы яр. І вельмі мне гэты яр не падабаўся. Адчувалася ў ім штосьці такое — нядобрае. А пасля я даведалася, што там забівалі габрэяў.

Нашая зямля прапітаная вялікім жахам, толькі не ў кожнай душы жыве страх.

**АПОШНЯЕ ДЫХАННЕ**

Страх — эмоцыя, звязаная з імкненнем пазбегнуць непрыемнай сітуацыі. Варыяцыі пачуцця — ад самага слабога хвалявання да жаху. Нават у старажытнагрэчаскай міфалогіі адрознівалі некалькі багоў, адзін Фобас — бог страху, другі Дэймас — бог жаху. А яшчэ быў бог лесу Пан, які таксама мог наганяць на людзей страх, — адсюль слова паніка. Калі мы з сяброўкай Таняй Рэвяка рыхтавалі дакументальную кнігу пра трагедыю на Нямізе, здавалася, што за падзеямі 30 траўня ў Мінску стаіць штосьці страшнае, тагасветнае, не-

вытлумачальнае, але шчыльна звязанае з лёсамі, існаваннем, пакутамі і радасцямі людзей.

Некаторыя фрагменты выпалі з кнігі, але засталіся ў памяці камп'ютара, а галасы — на касетах: «Не ўсе, канечне, у гэта вераць. Але ў мяне такое адчуванне, што там была нячыстая сіла нейкая. Таму што і адбылося ўсё ў адзін момант, імгнення, ненатуральна. Калі мы там знаходзіліся, то адчуваўся вельмі дзіўны ціск. Паветра ціснула і, як прэс, апускалася на галаву. Я не ведаю, што гэта было. І сам момант, калі ўсё гэта здарылася, быў настолькі імклівым — крутанула, кінула — і ўсё... Далей пацягнуліся хвіліны незразумелага чакання. А перад гэтым у мяне было адчуванне, што мы падаем у прорву.

Як віхор мяне раскруціў і перавярнуў у зусім незразумелае становішча... Я толькі помню крык у гэтым тунэлі. І ўсё. Як каго шпурнула, так і прыціснула. Мяне неяк вельмі дзіўна павярнула, прыўзняло, і я апынулася тварам уверх, а ногі заціснутыя людзьмі. І ў мяне аднекуль узнікла малітва «Ойча наш». Ціск нарастаў не толькі на тыя часткі цела, якія былі заціснутыя. У мяне было такое адчуванне, што цісне на галаву нейкая звышнатуральная сіла. Я малітву шапчу, шапчу і раптам правальваюся і не магу зразумець, чаму я перастала малітву шаптаць. Цяпер я разумею, што губляла прытомнасць»...

**СОН**

Засынаць таксама можна ў пакутах: «Ведаеш, я цяпер зусім не ўжываю транквілізатары-соннікі. Нават не магу глядзець на белыя таблеткі. На любыя таблеткі не магу глядзець. Спазм сціскае горла — і каб нехта прымушаў — не магу... А раней усё спрабавала адмовіцца — і безвынікова. Кожны вечар думала — засну. Натаўку лімон з цукрам у кубку... Узгадай, як пахне толькі што расціснуты лімон, заліты кіпенем. Такі пах лагодны, хатні, амаль навагодні. Лімон прыгожы ў брунатным гліняным кубку. Здаецца, хтосьці родны і блізкі зрабіў табе напой з адной мэтай: супакоіць, каб ты спала пад нагрэтай пуховай коўдрай.

Зазіраеш у гліняны кубак і ўзгадваеш... Памятаеш, як было добра? Цёплая вада ў басейне Дома афіцэраў. У пятніцу на апошнім сеансе пах спіртнога над вадой перабівае пах хлоркі.

Стомленая маладая жанчына-інструктар са спартовай залы спяшаецца — да малой дачкі, гнуткай і прыгожай, як і маці.

Бел-чырвона-белы сцяг у святле пражэктара. Святло ліхтароў і мокрае лісцё пад нагамі. Дваццаты аўтобус вязе дамоў...

Вось так глядзіш на дно глінянага кубка, п'еш лімонны напой і думаеш: «Усё будзе добра!» А пасля зрываешся: «Усё будзе добра, усе так кажуць, калі ведаюць дакладна — будзе дрэнна, кепска і яшчэ горш!» І глытаеш белую дробную таблетку. Усё, пасля болей нічога — толькі сон, з якога ніхто не выцягне.

Цяпер я так не зраблю, зразумела — трэба жыць. Нават у снах працягваць жыць, а не правальвацца ў чарнату, дзе няма нічога і нікога, апрача цёмна-сіняй прорвы, якая зацягвае з кожным сном усё далей і далей».

Страхаў існуе вялікае мноства, сярод іх агульны страх жыцця, калі чалавек баіцца ўсяго.

**ГАЛЮЦЫНАЦЫІ**

Не ўсе валодаюць сабой, псіхапаты не належаць сабе, прыслухоўваюцца да «галасоў», што зыходзяць невядома адкуль.

Адзін Студэнт шмат часу праводзіў за камп'ютарам. Блізкія не заўважылі той момант, калі ён упэўніўся, што вынайшаў схему, якая дапаможа зрабіць усіх багатымі і шчаслівымі. Адначасова з вынаходніцтвам неверагоднай схемы хлопец зразумеў, што за ім сочаць. Спачатку з'явіліся некалькі іншапланецянаў, пасля прыбылі яшчэ — з кожным днём усё болей і болей жахлівых істотаў, якія прагнулі пазбавіць яго жыцця, а ўсё чалавецтва таямніцы шчасця.

Студэнт пабег у царкву — верыў, што там дапамогуць, уратуюць ад тых, хто палюе на яго. Студэнт усё сказаў святару.

Прасіў даць ахову. Выклікалі міліцыю. Маладыя супрацоўнікі ветліва прапанавалі Студэнту сесці ў машыну (яго інфармацыя мае дзяржаўную значнасць, трэба ехаць да прэзідэнта). У псіхіятрычнай клініцы хлопец спытаў: «Дзе я?» — «У прафілакторыі», — адказалі яму. І вось ужо студэнта наведвае маці — інтэлігентная перапалоханая жанчына. Сын у байкавай бальнічнай піжаме ў сіне-зялёную клетачку, гаворыць гучным шэптам: «Мама, я зразумеў: тут усе псіхі. Мама, прынясі мне вялікія навушнікі, я не хачу чуць псіхаў, я буду слухаць музыку».

Відаць па ўсім — маці не ведае, што рабіць. Між тым яе сын сапраўды не адзін. Псіхапатаў тут хапае, сярод іх Алкаголік.

Вось ягоная гісторыя: «Спачатку я піў, пасля двое сутак не спаў. А пасля пайшлі галюцынацыі. Што я бачыў? Змрок. Розную лухту. Фантастычныя фільмы глядзелі? Ну вось накшталт гэтага я бачыў — глядзіш на адно, а бачыцца зусім іншае. Можна глядзець на чалавека, а бачыць на яго месцы іншага. Адчуваў, што заблытаўся ў электрычным дроце, які сыпле іскрамі і шугае мяне токам.

Сярод ночы я пабег у паліклініку, папрасіў вартаўніка выклікаць псіхбрыгаду. Спрабаваў растлумачыць, што ў мяне галюцынацыі. Ён выклікаў замест псіхбрыгады міліцыю. Я папрасіў, каб яны адвезлі мяне ў псіхбальніцу. Яны спыталі: «Дзе жывеш?» Завезлі мяне дамоў. Я аднаго з іх з сабой пацягнуў, папрасіў, каб патэлефанаваў у «хуткую», выклікаў мне псіхбрыгаду. Ён спачатку кажа: «Я не буду!» Я прашу: «Звані, інакш я ўскрыю вены — так мне кепска!» Ён патэлефанаваў і зваліў. А я ўзяў скальпель і пачаў чыркаць па венах. Болю не адчуваў. Мне падалося, што скальпель тупы, што кроў цячэ павольна — спачатку фантанам лінула, а пасля марудна пайшла. Таму я адкінуў скальпель і ўзяў лязо — пачаў рэзаць лязом, каб кроў хутчэй ішла. Вось тут і прыехала «хуткая», мяне перавязалі, забралі ў псіхбальніцу. Там быў працяг галюцынацыяў. Адначасова са мной прывезлі яшчэ аднаго пацыента. Я спачатку не звярнуў на яго ўвагу. Раптам чую, ён кажа: «Ну што, дапіўся?!» Я паглядзеў на яго — ён, здаецца, маўчыць. Я адвярнуўся,

і зноў чую: «Дапіўся. Вось цяпер цябе прывезлі выразаць мазгі, печань, ныркі — і ўсё гэта за мяжу». Я гляджу на яго — ён не раскрывае рот».

Алкаголік і Студэнт сустракаюцца ў клініцы. Студэнт хоча курыць. Маці не прывезла цыгарэты — не ведае пра шкодную звычку сына. Студэнт просіць цыгарэту. Алкаголік ужо адышоў ад глюкаў, сумна, хочацца цікавостак.

— Добра, — пагаджаецца ён, — я дам табе нават тры цыгарэты, толькі ты спачатку зробіш адну рэч.

— Якую?

— Вось табе папера. Напішы на ёй свае думкі.

— Мае думкі!!! — Студэнт у жаху. У яго хочуць забраць адзінае, што мае — дарагое і істотнае. — Я не буду пісаць мае думкі.

Застаецца без цыгарэтаў. Не пажадаў раскрыць сваю душу. І ў гэтым сэнсе Студэнт падае добры прыклад.

* * *

Страшна выдаць свае эмоцыі, падзяліцца думкамі. Гэта слабасць, якую могуць скарыстаць нядобразычліўцы. Падумай, вылучы чорным усё, што напішаш пра сябе, і хутчэй націскай на кнопку «Delete». Так захаваеш таямніцу, калі пашчасціць, калі толькі не з'явіцца паляўнічы на тваю душу — цётачка з пячаткай суперажывання на твары і дыктафонам у торбе. Плюхнецца ў крэсла насупраць і прапануе распавесці пра каханне і смерць, а дыктафон будзе лавіць твае словы.

Добрая забаўка. Так у дзяцінстве я выцягвала аранжавую лямпу праз акно ў ахутаны змрокам сад, глядзела на начных матылёў — тлустых совак, чакала, калі з празрыстай цемры ночы вылеціць бражнік «Мёртвая галава».

*Верасень 2002 года*

# РОВАР ДЛЯ ДАРОСЛАЙ ЖАНЧЫНЫ

Красавік.

У красавіку яшчэ горш, чым заўжды. Я гэта ведаю. Так яно і ёсць. У красавіку прыходзяць кепскія навіны.

У красавіку сонца з неба пасылае шкодны ультрафіялет. А калі што здарыцца, ніхто не дапаможа.

Калі ніхто не дапаможа, то трэба самому нешта зрабіць.

Можна спаць. У красавіку ўвесь час хіліць у сон. Душа імкнецца хаця б часова пакінуць сваю абалонку — цела, каб, змяніўшы форму і вобраз, наведаць розныя мясціны, накіравацца ў іншы свет, адрозны ад нашага, сустрэцца з душамі памерлых. Так падчас трызненняў жывая душа адлятае на больш ці менш працяглы тэрмін і не спяшаецца вяртацца. Таму ў красавіку не варта сумнявацца ў рэальнасці сноў.

Што можа быць прыемнага ў красавіку? Тое, што вяртае да жыцця.

Ровар. Варта набыць ровар. Трэба набыць ровар на рынку ў ветлівага хлопчыка — прадаўца ровараў. Вакол яго іх шмат — вялікіх і маленькіх, «горных». Рознакаляровых.

Хлопчык запытваецца:

— Што вас цікавіць?

— Ровар для дарослай жанчыны.

— Вось два гэтыя ровары для дарослых жанчын, — вецер варушыць яго светлыя валасы.

— Чырвоны і сіні?

— Так.

— А астатнія?

— Яны не для жанчын, але калі вы хочаце...

Выбрала чырвоны.

— А як я яго адвязу дамоў?

Прадавец абяцае, што заўтра роўна а дзясятай раніцы яго калега, такі самы ветлівы хлопчык, даставіць ровар куды трэба.

— Ён прывязе гэты самы ровар? — дакранаюся да руля. — Ці такі самы але не гэты?

— Гэты самы. Зранку ён будзе ў вас.

Яшчэ раз дакранаюся. Мой ровар! Ноч ён пераначуе недзе тут на складзе, а зранку будзе ў мяне. Увечары, як сцямнее, паеду на ім уздоўж канала, на якім узімку дзеці катаюцца на каньках, — вельмі прыгожа. Прыемна і радасна назіраць за дзецьмі на каньках на блакітным лёдзе канала. А ў красавіку ад канала цягне вясновай вільгаццю, вада ў ім каламутная, дна не бачна, але з'явіліся адбіткі ўсяго, што побач. І неба.

У красавіку свеціць шкоднае сонца і з усіх бакоў дзьме здрадлівы ветрык. Паўсюдна. Нават у кватэры — ад неабачліва адчыненай форткі да вентыляцыйнага люка. Дакранаецца да сурвэткі на лядоўні, варушыць яе.

Сталае ўражанне, што нехта незразумелы і нябачны ходзіць за табой след у след. Крок за крокам. Ён не чужы, не, толькі я дакладна не ведаю, хто ён. Зашасціць, прашамаціць дзесьці за спінаю. Павернешся, а нікога няма. Адчуеш рух паветра — і быццам уздыхне нехта.

І вечаровы холад у красавіку. Такі... як ніколі. Пранізлівы. Зямля аддае зімовы холад. Усё, што пад зямлёй, адтайвае. Вецер хістае дрэвы разам з іх ценямі. Дрэвы рыпяць і стогнуць. Асабліва ўначы.

*Красавік 2004 года, Мінск*

# РУСАЛКІ

— Такое лета выдалася няўдалае. З самага пачатку. Хоць ты зусім не выходзь на бераг і не глядзі на ваду, — гаварыла бабуля, зачыняючы аканіцы сваёй спальні, вокны якой выходзілі на бераг, якраз на месца здарэння. — Дзве дзяўчынкі ўтапіліся, — уздыхнула бабуля. Аканіцы шчыльна зачыніліся, і ў спальні зрабілася зусім цёмна.

Для дома, які стаіць на беразе ракі, тапельцы — не навіна.

Начныя крыкі над вадой, усплёскі. Зранку вадалазы. Слёзы. Пытанні: як і чаму?

А таму што ідзе час, і гадзіннікі ў розных мясцінах адбіваюць хвіліну за хвілінай, пакуль не надыходзіць астатняя, і ўсё, што было заблытана, разблытваецца.

— Дык як ты даведалася пра ўсё?

— Вельмі шмат машын каля нашага дома сабралася. А пасля гляджу — машына і цягне трупавозку. Тут я выйшла за браму.

— Трупавозка?

— Міліцэйская машына, а за ёй тарахціць такі вазок — труну нагадвае.

— Вазок, як труна? Труна на колах?

— Можа быць... Я выйшла на вуліцу, а тут жанчына з берага бяжыць і крычыць: «Дзяўчаты ўтапіліся!»

— І што?

— «І што?» — гэта стандартнае пытанне псіхааналітыка. Адказ — нічога. Я зразумела спачатку, што там зусім маленькія дзяўчынкі.... І такі жах мяне апанаваў. А пасля ўжо кожны расказваў па-свойму. Дапляткарыліся да таго, што адна з іх была цяжарная. Другія гаварылі, што ў яе вялікі жывот, бо яна вады наглыталася.

— А як усё было?

— Адна плавала, пачала тануць, другая яе пачала ратаваць. Крыку шмат было. Але ўсе, як заўсёды, думалі, што яны вяселяцца. Пішчаць.

— Пішчаць...

— Так, піск — гэта эмоцыі, якія нельга выказаць словамі. Толькі тут, на беразе, не заўсёды зразумееш, ад чаго пішчаць: ад захаплення ці ад...

— Значыць, лепей сыходзіць на дно моўчкі.

— Значыць, лепей... Піск не дапамагае.

— І што, іх адразу выцягнулі?

— Амаль адразу. Прыехалі медыкі, пачалі адкачваць і не адкачалі.

Ужо некалькі дзён прайшло, калі мы ўбачылі на тым месцы хлопцаў, якія сядзелі ўсе ў чорным. Потым сабраліся і па сцежцы сышлі — моўчкі, адзін за другім. У той жа дзень бачыла я і жанчыну, якая прыйшла з півонямі і пускала іх па вадзе. У чорным строі. І камень у той жа дзень скацілі з гары на бераг — на купальнае месца. Белы. Мужчына з гары скаціў уніз камень.

Зусім халодны чэрвень. Моцны вецер. Няма цеплыні. Халодна.

Позна ўвечары ідзём гуляць з Рокісам на старыя акопы — частку ўмацаванняў Усходняга Вала, якія Гітлер загадаў пабудаваць пасля правалу аперацыі пад Курскай дугой. Так вакол Оршы атрымалася тры лініі абароны — глыбока эшаланаваная абарона праціўніка.

У цемры Рокіс знікае, а пасля нечакана з'яўляецца і дакранаецца вільготным носам да рукі, гэта яго пяшчота... А пасля зноў знікае ў высокай траве і ў цемры... Нямецкія аўчаркі здольныя зліваецца па колеры з зямлёй, лістотай, травой і знікаць. А пасля раптоўна і зусім бязгучна з'яўляцца перад табой.

Акопы асыпаліся, зараслі травой. Вяртаецца Рокіс, ён неспакойна і чуйна ўглядаецца ў бок ракі: штосьці там не тое...

Але я адчуваю толькі водар вады, травы, кветак. І страх.

Працягваю руку да сабакі:

— Хто там?

Рокіс сеў ля ног.

— Паглядзі, як пражэктар ад катэджа асвятляе, — гавару яму я. — Як сцэну. Гэта сцэна. Жудасная сцэна. Залаты пясочак адсвечвае пад плыткай вадой. Ён вабіць нават уначы. А днём там добра бултыхацца, над жоўтым пясочкам вада празрыстая, зусім побач — вада цёмная, там глыбіня. Гэта ў

рацэ. Цяпер паглядзі на бераг. Вытаптаная сцежка спускаецца праз яр да вады. І вядзе гэтая сцежка да месца, дзе ляжыць белы камень на траве. Белы пясок. Белы камень. І з гары падае чорны злавесны цень... Ведаеш, калі яны топяцца, усе ведаюць, і адразу збіраецца шмат людзей...

Рокіс падымаецца на лапы і ўздымае вушы.

Там, па-мойму, нехта сядзіць.

— Я таксама заўважыла нейкі рух на тым беразе. Так, там нейкія людзі каля гэтага белага каменя.

Іх шэсць. Можа, яны збіраюцца зваліць камень у ваду? Не, яны сыходзяць. Яны, здаецца, нешта панеслі. Так. Так? Яны нешта панеслі такое... Яны штосьці хацелі скінуць у ваду ці забраць? Дакладна. Нешта хацелі зрабіць. І можа, яны сышлі таму, што мы пачалі на іх глядзець. Яны сышлі. А мы засталіся.

Сышлі і панеслі штосьці цёмнае, даўгое...

— Жах які! — гэта мае словы. — Ты ведаеш, хто такія русалкі?!

Гэта тапельніцы. Пакрыўджаныя на мужчынаў. Некаторыя з іх маюць ненароджаных дзяцей. Жывуць у вадзе і зрэдку выходзяць на бераг. Сядзяць на камянях, на дрэвах, расчэсваюць косы, могуць зачараваць, зацягнуць, заблытаць у сваіх валасах... Калі яны выходзяць на бераг, мала хто бачыць...

Рокіс раптоўна зрываецца з месца.

— Кот!

Ён заганяе ката на дрэва. Кот злосна зіркае на нас зялёнымі вачыма і шыпіць.

— Хадзем дахаты, — я адцягваю сабаку.

І вось застаецца толькі сон пра чэрвеньскую ноч. Салодкі, цяжкі сон ахоплівае нас, накрывае, як века дамавіны.

*Чэрвень 2003 года, Орша*

## ТРАФЕІ

Пад старымі шатамі ліпаў свецяцца вокны веранды. Упарта і аднастайна крычыць за ракой невядомая і незразумелая мне начная птушка. Вакол лямпы лятаюць начныя матылі і, апаліўшы крылы, роспачна трапечуць імі і бегаюць па абрусе з выявай мапы Аўстраліі. Цёмны сад спавіты водарам язміну.

Маці чакае нас у фатэлі з кніжкай у руцэ. Я здымаю з Рокіса ашыйнік і шворку, вешаю на цвік. Рокіс ідзе на сваю канапу. Ён ужо немалады пёс і не спіць на халоднай падлозе. Холад даймае яго. Чэрвеньскі, вільготны.

Зараз будзем есці, трэба пачакаць, пакуль астыне сабачая ежа і падагрэецца мая.

І я сядаю да стала і пытаюся ў маці пра трафеі.

— Ці былі ў нас трафеі з Германіі?

— У нас быў трафейны пёсік, — адказвае мама. — Можа быць, мне памяць здраджвае, але, па-мойму, яго нам падаравала генеральша Набокава. Наш Марсік паходзіў ад нямецкага шпіца. Сабачка быў адданы на рэдкасць. Маленькі быў, але плыў за мамінай лодкай з апошніх сілаў. Ведаеш, мая мама мела лодку і ездзіла на ёй на той бераг купацца. Марсік плыў за ёй усю дарогу, толькі вушы бачныя былі і хвост пушысты, як у лісы. Людзі крычалі: «Ліса плыве!» А назад Марсік вяртаўся ў лодцы.

— А што яшчэ трафейнае?

— Цацкі. У мяне быў мішка. Я не ведаю, адкуль ён быў прывезены ці ў каго набыты. Яго звалі Гілька. Ён у мяне быў, пакуль я ва ўніверсітэт у Маскву не паступіла. Я яго памятаю толькі з дзвюма лапамі і адным вокам. Ён быў такі калмаценькі. Былі яшчэ лялькі трафейныя. Спачатку я іх убачыла ў сваёй сяброўкі Соні, у першым класе. Яе тата, напэўна, з вайны прывёз. З імі нельга было гуляць. Яны сядзелі на канапе толькі для прыгажосці. На палічках канапных. І мы на іх глядзелі. Часам дарослыя дазвалялі іх здымаць, каб разгледзець бліжэй.

Яны лёгка біліся.

А былі дзеці, якія мелі шмат трафейных лялек. Я ніколі не забуду адзін пакой, куды трапіла. Там былі адны лялькі. Гэта быў асобны пакой для лялек. Мы жылі ў Барысаве, там стаяла армія, і мяне хацелі падружыць з дачкой генеральскай. У яе было піяніна, і генеральша хацела, каб яе дачка паглядзела, як я граю на піяніна, і таксама захацела вучыцца. Мы прыйшлі ў катэдж, пабудаваны немцамі падчас вайны для сваіх афіцэраў. Там быў хол вялізны. Высокі асабняк за плотам, дзе жыў генерал са сваёй сям'ёй. Туды мяне і прывялі ў госці да гэтай дзяўчынкі. Я вельмі любіла лялькі. Берагла ўсе свае, нават разбітыя і безгаловыя. І вось прывялі мяне ў пакой, дзе была вялікая аксамітная канапа. Чорная. І на гэтай канапе было безліч лялек. Ты можаш сабе ўявіць. Уся канапа ў ляльках. Там былі і вялікія, і маленькія. І ўсё гэта былі нямецкія лялькі, прывезеныя з Германіі. Не савецкія. Хаця гэта ўжо былі 50-я гады. Так што, можа быць, гэта і не былі трафеі самой вайны. Можа быць, яны былі сабраныя пасля вайны ў Германіі.

А трафеі нашых суседзяў былі зусім незвычайныя. Мы жылі ў барачным доме, таксама нямецкім. Звычайны барак, драўляны, з бярвення. Там былі двухпакаёвыя кватэры. І мы жылі з імі ў адным калідоры. Я памятаю, што ў пакоі ў іх стаяла псеўдаготыка. Высокія крэслы, чорныя, з разнымі спінкамі. Гатычныя, як я зараз разумею. Было поўна посуду. Лыжачкі, кубачкі. На кожны дзень нараджэння мне і сястры выдавалі кубачак з лыжачкай. Яшчэ ў нашых суседзяў было вельмі шмат літаграфій у рамачках. Наогул, шмат было бытавых рэчаў. А адзін раз яны пачалі скідаць з гарышча вялікую колькасць карцінак у рамачках. Чаму іх так шмат было? Не ведаю. Яны хацелі знайсці рамку для нейкага фотаздымка. Я з такой вялікай цікавасцю стала, каб паглядзець, але мяне мама прагнала: «Няма чаго глядзець». І мяне тады ўразіла: адкуль столькі і навошта? Уяўляеш, у іх уся кватэрка была завешаная гэтымі карцінкамі нямецкімі. А яшчэ і на гарышчы — ворах. А самае цікавае было, калі ім даслалі куфар з нямецкім посудам. І гэты посуд альбо цалкам, альбо часткова пабіўся ў дарозе. І яны высыпалі ў

яму каля нашага дома шкельцыневерагоднай прыгажосці. А дзеці тады збіралі чарапкі. Але нам з сястрой таксама бацькі не дазволілі лазіць і збіраць. Нямецкага посуду ў іх, канечне, быў поўны дом. І пасля яшчэ было шмат дробязяў. А ў іх заўсёды якія-небудзь куфэрачкі, скарбоначкі. Я памятаю, нехта з іх падараваў мне такі маленькі драўляны куфэрачак. Я, як цяпер помню, падумала: «Як так? У людзей у доме столькі ўсякіх рэчаў. А ў іншых дамах нічога няма».

*15 траўня 2005 года, Мінск*

# ЛЯЛЕЧНЫ КУТОК

— Ёсць рэчы, за якімі хаваецца жах. Самыя звычайныя рэчы, але за імі стаіць неверагодны жах.

— Напрыклад?

— Сцежка, якая вядзе ў цёмны сад. Яе край асветлены з акна дома, а далей усё... губляецца. Ці невядома кім адчыненыя дзверы на гарышча.

— І яшчэ?

— Лялькі.

— Чаму?

— Магічны прадмет. Як і кожная цацка.

— Так яно і ёсць. Усе гліняныя дзіцячыя цацкі першапачаткова былі паганскімі скульптурамі. Выкарыстоўваліся ў абрадах. Лялькі таксама выкарыстоўваліся ў абрадах. У чорнай магіі, ты ж ведаеш, пратыкаюць лялькі чым-небудзь, калі хочуць нанесці шкоду іншым людзям. Альбо наадварот. Маніпулююць лялькамі, маючы на ўвазе пад лялькамі чалавека.

Лялечны тэатр. Таксама старажытны. І ў антычныя часы быў лялечны тэатр. Там лялькі ажывалі, гэта чараўніцтва такое было.

— Для мяне лялькі — нешта страшнае.

— Гэта не толькі для цябе. Ведаеш колькі розных страшылак ёсць пра лялькі? А фільмаў жахаў з лялькамі? Памятаеш фільмы, дзе ажываюць жахлівыя лялькі?

— Так, вось і ў мяне такое ўражанне.

— Не толькі ў цябе. Шмат хто гаварыў, што не любіў у лялькі гуляць. Нейкі час нават модна было. Калі я вучылася ў Маскоўскім універсітэце, дзяўчаты любілі казаць, што яны «цярпець не маглі лялек». Але не, мяне лялькі ніколі не палохалі, наадварот, я іх шкадавала. Асабліва я шкадавала іх, калі яны былі паламаныя ці пабітыя. Я магла сама цэлымі днямі з лялькамі вазіцца. У 1958–1959 гадах, калі мы жылі ў Барысаве, мне было чатырнаццаць, і ў мяне ў кішэні заўсёды ляжала маленькая лялька, з ёй я сябе ад-

чувала лепей. І пасля ўвесь час звяртала ўвагу на лялькі. Мне падабаліся этнаграфічныя лялькі, калі я стала дарослая, японскія лялькі «для сузірання». А калі я была зусім маленькая, то ў некаторых дамах таксама былі лялькі «для сузірання», гуляць з якімі было нельга. У маёй сяброўкі на канапе, на палічках... Ведаеш, такія старыя канапы з палічкамі? Там на адной палічцы і на другой сядзелі трафейныя лялькі нямецкія, але іх нельга было кранаць. Гуляць з імі нельга было. А якое захапленне я адчула, калі ўбачыла ў генеральскай дачкі, да якой мяне запрасілі ў госці, вялікую канапу з лялькамі... На канапе сядзела незлічоная колькасць лялек. І ўсе нямецкія, пачынаючы ад вялікіх і заканчваючы маленькімі. Гэта была вялікая аксамітная канапа ў абсалютна пустым пакоі генеральскага катэджа. Яны качавалі... генералы. І ў іх таксама не хапала мэблі, каб адразу заставіць усе пакоі. У катэджы пакояў было дастаткова шмат, напэўна. І так атрымаўся пусты пакой з канапай і лялькамі.

— Ці можна сказаць, што лялькі былі прыкметай раскошы?

— Былі і народныя лялькі... Самаробныя. Але ўсё ж лялькі былі прыкметай дабрабыту. Цацкі звычайна як дарылі? На Новы год. Я памятаю, як мой плюшавы мядзведзь стаяў пад ёлкай, быццам бы Дзедам Марозам ён быў падараваны. Альбо тата набываў мне ляльку ў бальніцу. Альбо на дзень нараджэння. Калі я была маленькая, тата на кожны дзень нараджэння дарыў каробку цукерак «Мішкі ў сасновым лесе», там былі такія шчыпчыкі, каб цукерку браць. І кожная цукерка была ў папяровых карунках. Канечне, гэта быў прадмет раскошы. Калі я была маленькая, захоўвалася яшчэ старая мода, каб дзеці мелі лялечныя куткі. У пакоі выдзяляўся куток для лялек. Лялечныя куткі — старая традыцыя. Дзецям дазвалялі за ложкам ці чым-небудзь на падлозе рабіць лялечныя куткі. Лялечная мэбля, лялечны посуд. Можна было рабіць такое жытло для лялек. І гэта не прыбіралася ні ў якія куфэркі, а так і стаяла — лялечны куток.

Калі мы жылі ў Барысаве, мае лялькі жылі ў вялікіх скрынях. Калі мы ў Оршу ехалі надоўга, то я грузіла лялькі ў скрынку і везла іх з сабой. Канечне, вельмі мала было адзен-

ня і абутку для лялек. Але посуд быў і мэбля. У мяне была печка, зробленая немцамі, — вялікая пліта, якую можна было па-сапраўднаму запальваць. Тата яе прывёз з Балбасава. Там палонныя немцы такія рэчы выраблялі, каб зарабіць. Мела таксама набытую ў краме савецкую маленькую плітачку. На рынках таксама часам прадавалі гліняны лялечны посуд. Былі і парцалянавыя лялечныя наборы.

— Якія ў цябе лялькі былі?

— Я не выкідвала бітыя і ламаныя лялькі, нават калі ў іх не было галавы, усё адно яны ў мяне жылі да самага канца. Самая першая мая цацка паходзіць з тых часоў, калі ў мяне памяці яшчэ не было. Ведаеш, звычайна дзеці памятаюць усё з пяці гадоў... а да гэтага абрыўкі... Вось з гэтага часу быў у мяне Гілька — мядзведзь, як я падазраю, трафейны. Калі я яго памятаю, ён ужо быў без лапы, і адно вока было блакітным. Гэта мая самая ранняя цацка — адразу пасля вайны. Тата мне яго прынёс і падараваў. Потым у мяне быў яшчэ адзін мядзведзь. Яго мне падаравалі ў пяць гадоў. Чорны, плюшавы. Ён менш мне падабаўся. Быў эскімос без галавы. То бок спачатку была ў яго галава, знікла кудысьці непрыкметна. Была ліса ў сарафане. Быў вялікі заяц у клятчастых нагавіцах з дзіркай для хваста... вушасты, набіты ватай.

І яшчэ ў мяне былі лялькі... Было шмат галышоў. Былі маленькія галышыкі і вялікія. Быў вялікі галыш, але ён мяне нерваваў, бо я не мела для яго вопраткі. Усіх прасіла пашыць для яго адзенне, але ніхто не шыў, толькі абяцалі. Адно з распаўсюджаных імёнаў для лялек было Нона. Таму што я ведала, што ў мяне была сястра Нона, якая памерла да майго нараджэння, тата мне расказваў. І абавязкова адна лялька, якую звалі Ліда, як маю маму. Апошняя мая Ліда — гэта лялька ў сукенцы з белым каўнерыкам і косамі, якую мне падаравалі ў дзесяць гадоў. Я папрасіла тату ў дзесяць гадоў, каб ён мне набыў ляльку, яна прадавалася ў краме. Яшчэ была лялька Таня. Мне яе прынеслі ў бальніцу, калі я цяжка захварэла. Мяне забралі ў бальніцу, думалі, што ў мяне менінгіт, і рабілі пункцыю. Але гэта быў не менінгіт, а вельмі цяжкі грып. Я табе расказвала ўжо, што былі лялькі з гліняныімі галовамі, але яны вельмі хутка разбіваліся.

А вось гэтая, Таня, наадварот, не білася. У яе замест твару была цырата размаляваная, а сама яна набітая ці то ватай, ці то пілавіннем. Такая лялька вельмі доўга жыла. Памятаю яшчэ дарагіх лялек з керамічнымі галовамі і ручкамі, вочы заплюшчваліся-расплюшчваліся, і «мама» яны пішчалі, але вельмі хутка разбіваліся. У адной вельмі прыгожай лялькі вельмі хутка адбілася галава.

Ты ўжо зразумела, што, куды б я ні ехала, я заўсёды вазіла з сабою лялькі. І аднойчы я прывезла з сабой у Оршу такую маленькую лялечную кампанію. Гэтыя лялькі былі вельмі разнастайныя. З аднаго боку, там быў нямецкі, падараваны генеральшай галышык (ён быў ужо больш сучасны, зроблены з матэрыялу, падобнага на той, з якога робяць лялькі цяпер). Гэта з аднаго боку, а з другога боку, там былі самаробныя лялькі і проста савецкія галышыкі. Я іх апранала. І ўяўляла яшчэ ў Барысаве, як я іх пасялю ў дупле ліпы, і яны там будуць жыць. Я пасадзіла іх у дупло... А ў гэты час дзеці, якія жылі ў бараку, стаялі на гары і за ўсім назіралі. Там была мая цяперашняя сяброўка Валя, яе брат ды іншыя дзеці. Яны ўсё бачылі. Потым я прыходжу, гляджу — няма маіх лялек. Але валяецца адзенне. І я пайшла па гэтым адзенні, спадзявалася, што яны выкінуць самаробныя лялькі ці танныя. Але чамусьці яны ні адну з лялек не выкінулі. Але адзенне іх раскідалі па сцежцы. Шкада мне іх было. Лялечкі маленькія... Галышыкі ў ванначках. Я пасля, калі ездзіла ў Венгрыю на экскурсію, убачыла такія лялькі на вітрынах у антыкварнай краме. Цацачныя звяркі рабіліся падобнымі да людзей — абавязкова ў адзенні і на задніх лапах. Аднаго такога зайчыка мне тата набыў у краме ў Оршы, там, дзе цяпер кінатэатр «Перамога». Там раней была плошча, а на гэтай плошчы — дарэвалюцыйны дамок, у ім крама, дзе ўсё на свеце прадавалася. Цукеркі-падушачкі. Помню, тата пасадзіў мяне на прылавак у краме і купіў мне зайца ў клоўнскім строі. Потым, калі мы жылі ў Барысаве, адзін час з маёй сяброўкай мы захапляліся папяровымі лялькамі — з кардону, з паперы. Прычым у маёй сяброўкі быў талент маляваць. І мы збіралі кішэнныя грошы і набывалі часопісы мод. І па гэтых часопісах малявалі лялькам сукенкі. І такіх

лялек у мяне таксама назбіралася шмат. Мне было ўжо чатырнаццаць гадоў, і ў мяне былі такія лялькі.

— Што з тымі лялькамі здарылася пасля?

— Калі я скончыла школу, яны былі ў асноўным на гарышчы. Я памятаю, што ўвесь час хацела з імі нешта зрабіць. А што пасля адбылося, я не ведаю. У мяне ёсць цьмяны ўспамін, пра які я нават не ведаю, ці гэта ўспамін, ці то гэта падманлівая памяць. Быццам бы я летам прыехала, і нейкія з маіх лялек валяліся проста на вуліцы. Ужо так — пабыўшы пад дажджом. Яны, напэўна, доўга там ляжалі. Гэта такі абрывачны ўспамін. Я нават не ўпэўненая, бачыла я гэта ці не. Ці чула пра тое, што іх раскідалі. А пасля, напэўна, сабралі і знішчылі. Яны павінны былі неяк загінуць.

*Снежань 2005 года, Гомель*

# ВУЧНІ

Апошні дзень лістапада быў надзвычай цёплы, без снегу. У двары красавала прымула. Наіўная. Яна і ранняй вясной першая вытыркаецца, калі яшчэ невядома, што да чаго. Але не толькі прымула здзіўляла неабачлівасцю — сад не пазбыўся колераў: з-пад плоту вызіралі фіялетавыя лясныя пралескі, дый трава зусім зялёная. І гэта ў той час, як гіяцынты, касачы і яшчэ некаторыя галандскія цыбульныя расліны надзейна схаваныя пад дробным драўляным пілавіннем — падрыхтаваныя да зімы: ужо час. Кажуць, у гэты год і пчолы падмануліся восеньскім цяплом — вылецелі шукаць мёд. А мёду няма. Шмат з іх загінула. Таксама наіўныя.

На цёплай кухні пад каньяк з персікавай гарбатай мы гаварылі з дасведчанай настаўніцай пра жыццё і вучняў. Ці можна сказаць яшчэ — пра жыццё навучальнай установы, якую наведваюць выключна хлопцы.

У газавай калонцы шугала полымя, на буфеце ляжалі белыя кот і котка — маці і сын з пухнатымі хвастамі. Я глядзела, як гайдаецца адбітак верхавіны вярбы ў буфетным шкле, і слухала...

— На ўроку яны нешта чытаюць і чытаюць, і так ім весела. Я доўга не звяртала ўвагі, але гляджу, што яны так знарок чытаюць, каб я пабачыла. Урэшце мая цікаўнасць узяла верх. Я забрала гэты сшытак. Паглядзела, а там такое... Напісана пра маю каляжанку — паважаную настаўніцу біялогіі. Крывымі літарамі напісана, што б ён хацеў з ёй зрабіць і як бы ён яе хацеў. Я, вядома: «А-а-а-а...» Як выглядае мая каляжанка настаўніца біялогіі? Высокая жанчына, пышная, з тонкай таліяй, на моцных нагах. Такая супержанчына пад пяцьдзясят.

— А той, хто пісаў крывымі літарам, ён хто?

— Нехта з іх. Магу толькі здагадвацца адносна аўтарства. Я, безумоўна, абурылася і спытала: «Хто напісаў?» Яны яшчэ больш развесяліліся і паказалі на дробнага хлопчы-

ка — сына майго былога вучня. Бацьку яго я добра памятаю. Яны з бацькам вельмі падобныя. Увесь час іх блытаю, называю малога «Віцем», а ён крыўдзіцца і кажа: «Я Саша, а Віця — гэта мой бацька». Тата ў яго быў харошы хлопчык, праўда, таксама сядзеў на ўроках і ўсё нешта ці то пісаў, ці то маляваў — незразумела было, што адбываецца ў гэтай галаве, бачыць ён рэчаіснасць, ці яму мроіцца нешта далёкае, але прыемнае. Так я спытала: «Хто гэта зрабіў?!» Яны ўзрадаваліся і ўсё звярнулі на таго маленькага Сашу. Я сказала, што яны напэўна яго «падстаўляюць».

Падазрэнне ў мяне было на аднаго хлопца з вёскі. Карацей, я з імі пагаварыла, яны быццам бы супакоіліся. Але чорт мяне ўзяў паказаць сшытак настаўніцы рускай мовы. А яна заявіла: «Мяне як варам абварыла, гэта асабістая абраза і для мяне як для жанчыны». Сказала, што бачыла, як яны ўсе гігікалі ў сталовай і, відаць па ўсім, зноў абмяркоўвалі ўсё гэта. Карацей, яна запатрабавала выклікаць тату. Тата (цяпер тоўсты п'янаваты дзядзька) прыйшоў і сказаў: «Мы з ім разабраліся, гэта не ён. Сапраўды, яны яго падставілі».

Але скандал разгарэўся вялікі, я пашкадавала, што не змоўчала.

На наступны дзень мне ісці на працу, першы ўрок у гэтай групе, а ў мяне ўвесь твар апух, на наступны дзень я па дарозе падвярнула нагу. Працаваць не магла. Распавяла пра гэта настаўніцы рускай мовы, а яна вельмі своеасабліва адрэагавала: «А ты не думаеш, што гэта той хлопчык табе такое падстроіў?» Цікава, якім чынам? Але, калі б я гэты сшытак не паказвала нікому, усё сышло б на тым узроўні, што пагігікалі і толькі. Але яна сказала, што яе абразілі як жанчыну, сказала «я не дазволю». Я ўпэўненая, што такія фантазіі ў іх часта нараджаюцца на занятках. Яшчэ і як нараджаюцца! Іншы раз нават не ведаеш, калі яны ў іх нараджаюцца. Яшчэ і якія! Але яны ж звычайна гэта хаваюць. Толькі часам нешта выяўляецца. Любяць шакаваць настаўніц якімі-небудзь малюначкамі. Аднойчы прынеслі бірульку ў выглядзе пэўнага органа. Круцілі яго. Яны думаюць, што мы ад гэтага будзем нервавацца. І ў адносінах да настаўніц ёсць фантазіі. Ёсць, вядома. Але ж яны не паказваюць. Яны

скрытныя. Вось з гэтым сшыткам я ўлавіла першы раз. Зразумела, самае цікавае тут — аб'ект.

А яшчэ ў нас ёсць настаўніца — Булачка — так яны яе называюць. Яна ўвесь час гаворыць, як яны яе «абагаўляюць», — «яны хочуць наблізіцца да мяне, хочуць да мяне дакрануцца. Я так і адчуваю, як яны прагнуць да мяне дакрануцца». Ёсць тут, напэўна, нешта... А раней, калі не было адпаведных часопісаў, яны малявалі. Так, на шкле ў адной з аўдыторый з'явіўся сілуэт палеалітычнай Венеры. Як у першабытнай пячоры. У іх усе малюнкі ў духу палеалітычнай Венеры. Такія Венеры ў эпоху палеаліту былі шырока распаўсюджаныя ад Сібіры да Заходняй Еўропы — выявы жанчын з падкрэсленымі прыкметамі полу, галава практычна адсутнічае, ручкі — калачыкам, але ўсё астатняе падкрэслена — ці то сімвал урадлівасці, ці то праява эратычных памкненняў першабытных паляўнічых. Аднойчы я выявіла чарговы малюнак і кажу: «Вам яшчэ не надакучылі гэтыя пышныя формы?» А яны кажуць: «Гэта ў вас няма пышных формаў, таму вы зайздросціце». А самы першы малюнак на шкле зроблены ў нашай установе амаль трыццаць гадоў таму... Ён ужо ледзь заўважны, але шкло захавалася, а на ім абрысы Венеры. Я табе кажу, іх малюнкі — тыповы палеаліт...

*1 снежня 2003 года, Орша*

# ЗНАЁМСТВА З РОБЕРТАМ КАНГАСАМ

*Паводле электронных лістоў дзвюх жанчын,*

*Беларусь–Швецыя*

Не надта і хацелася сустракацца, але прапанавалі ў такой форме, што зрабілася смешна, а калі смешна — ужо добра. Сказалі «давай з табой пасустракаемся». І гэта маючы на ўвазе аднаразовую сустрэчу. Так не кажуць пабеларуску — можна сказаць: «Давай «сустрэнемся» альбо «пабачымся», «пагутарым» і яшчэ рознае «па, па, па...» Але толькі не «пасустракаемся».

І мы сустрэліся пад таполяй на беразе Свіслачы. І пайшлі.

У кватэры нічога не змянілася за той час, пакуль я там не была, — цёплы паркет, канапа амаль упоравень з падлогай, антыкварны фатэль у стылі мадэрн (я раней так любіла ў ім сядзець), пляшка каньяку на стале, за акном клёны — пакуль без лісця. Але я ведаю, што клёны. Бачкі са смеццем. Усё гэта бачыла — раней — даўно, можна сказаць, зусім даўно. Хаця час такі адносны.

Села ў фатэль, сапраўды, антыкварны. Заўсёды казала, што яго можна завезці ў музей — мадэрн набудуць.

І тут пачалося...

Пачалося якраз у тым месцы, калі трэба было гаварыць пра тое, «а што ў нас новага». Я не хацела: якое можа быць новае?

— Ведаеце, усё гэта мне нешта нагадвае, — сказала я.

— Мы правялі тут шмат часу. Час быў вельмі добры. Я часта згадваю.

— Зусім не гэта, не пра тое. Амаль усё забыла, мала што памятаю з таго. Я пра іншае, іншае. Ведаеце, у мяне ёсць сяброўка Лена — перакладчыца са шведскай мовы.

— Што яна перакладае?

— Прозу. Лена перакладае творы Роберта Кангаса, які жыве ў Гётэборгу — горадзе, дзе на Хэлоўін у 1998 годзе дзеці падпалілі дыскатэку, 63 знаёмыя, незнаёмыя, ма-

лазнаёмыя падлеткі згарэлі. Але гэта пра горад... А я пра пісьменніка, які ў ім жыве... Роберт Кангас піша навелы — псіхалагічныя, эратычныя — розныя. Напрыклад, пра пошук душаў у неадушаўлёных прадметах — у камянях на ўзбярэжжы. У Кангаса ёсць навела «Сустрэча». Пачынаецца ўсё з таго, што жанчына прапануе аўтару, ці можа і не аўтару, сустрэчу. Пры гэтым кажа, што сустрэчы «ўзбагачаюць». Мы з Ленай спрачаліся. Я гаварыла, што слова «ўзбагачае» не можа ўжывацца адносна інтымнай сустрэчы. Лена сказала: «Па-шведску гэта менавіта так». А я: «Мы не ў Швецыі!» Сэнс там такі, што жанчына прапануе, а мужчына пагаджаецца сустрэцца, хаця не надта хоча... Але не супраць. Відаць па ўсім, што гэта жанчына, якую ён не першы дзень ведае. Магчыма, бачыць кожны дзень. Можа, яны працуюць разам. І яны ідуць у кватэру да мужчыны. Кватэра недзе зусім недалёка. Па часе гэта, хутчэй, не вечар, а дзень — можа, абедзенны перапынак. Альбо адразу пасля працы. Ён не надта хацеў... Але ўсё атрымліваецца лепш, чым ён думаў... І жанчына без адзення — лепш, чым у строі.

Яны быццам бы задаволеныя, толькі ён губляе цікавасць — не хоча ад яе ўжо нічога, думае, што яна гатова «запэцкацца». Пра гэтае слова мы з Ленай таксама спрачаліся, бо я не зразумела, якое пэцканне маецца на ўвазе. Лена меркавала, што, хутчэй за ўсё, эмацыйнае — жанчына хоча працягу адносінаў, хоча новых эмоцый... Але пасля мы падумалі, што, магчыма, размова ідзе пра нешта больш канкрэтнае і фізіялагічнае. Бо мужчына адразу ідзе мыцца і думае ўжо толькі пра тое, чаму дагэтуль не прыдумалі прыстасаванне, якое б дазваляла курыць пад душам.

— Гэта доўгая навела? — спыталі мяне.

— Не, дзве старонкі.

— А ты цэлыя паўгадзіны яе пераказваеш.

— А што вы мне скажаце?

— Што пад душам можна курыць.

— Як?

— Вельмі проста. Уключаеш душ. Прыкурваеш цыгарэту. Трымаеш на выцягнутай руцэ. Становішся пад душ. І час ад часу курыш. Я так рабіў неаднойчы.

— Пакажаце?

— Пакажу, але пасля... Дык ты не верыш, што сустрэчы ўзбагачаюць?

— Паверу, калі пабачу, як кураць пад душам.

Пабачыла.

Усё роўна гэтыя сустрэчы не ўзбагачаюць. Усё наадварот. Таму так добра пасля чакаць таксі ля пад'езда пад дробным дожджыкам. Цешыцца, што ты ўжо не ўнутры, а звонку. Глядзець на асветленыя вокны кватэры, дзе рухаецца цень — мужчына прыводзіць кватэру ў парадак пасля сустрэчы. Так добра ведаць, што вернешся ты сюды не хутка, калі вернешся...

Таксі прыедзе і забярэ цябе, таксіст адвязе туды, куды скажаш.

Пад дажджом.

А ў гэты час мая сяброўка Лена праходзіць стажыроўку ў Швецыі, удасканальвае веданне мовы, каб перакладаць новыя навелы. Ад'язджаючы ў Швецыю, яна планавала сустрэцца з Робертам Кангасам. І я вырашыла даведацца, што з гэтага атрымалася, і адаслала ліст: Лена, напішы, калі ласка, падрабязна пра сваю сустрэчу з Кангасам, калі яна адбылася...

Мне б хацелася падрабязна распавесці табе пра сустрэчу з Кангасам, але цяпер гэта асабліва цяжка, таму што шмат уражанняў і пачуццяў. Мне будзе прасцей, калі ты задасі мне пытанні, якія цябе асабліва цікавяць. Дзякуй за матэрыялы, якія ты даслала на англійскай мове, я прачытаю іх крыху пазней. Напішы, калі ласка, як твае справы, і не толькі на працы. Самае галоўнае пытанне пра Кангаса — як вобраз, які жыў у тваім уяўленні, спалучыўся з рэальным чалавекам. Звычайна, прынамсі для мяне, такія сустрэчы нясуць пачуццё цяжкага спусташэння (калі яно можа быць цяжкім). Здавалася, нешта ёсць, а яго няма... Так і жывеш, атрымліваецца, тым, што сам сабе выдумаеш — а ты пытаешся, як жыццё. Што выдумаем, тым і жывём.

Дурное, канечне, пытанне, як жыццё. Падзеі па-за межамі працы. Творчасць па-за межамі падзеяў... Засумавала, таму і

пытаюся. Напэўна, максімум, якога можна дасягнуць шляхам шматгадовых намаганняў, — гэта ведаць, што ёсць невялікае кола людзей, якія цябе разумеюць, прымаюць і любяць. У гэтым коле могуць дзейнічаць правілы дабрыні і даверу (пэўны час), бо жыццё ідзе і ўсё мяняе. А ўвесь астатні час трэба трымаць абарону, быццам бы сядзіш у засадзе. І рабіць выгляд, быццам бы ўсё яшчэ не раскрыліся на жыццё і вочы, і вушы. У суботу бачыла ў Мальмё дэманстрацыю супраць вайны ў Іраку. Тысячы людзей крочылі па вуліцах старога горада. Я ішла насустрач, і ў мяне было такое адчуванне, што гэтая плынь не скончыцца ніколі. Яны агрэсіўна скандавалі лозунгі і ў такт выкідвалі кулакі. Амерыканская амбасада знаходзіцца ў Стакгольме. Я вярнулася з Гётэборга. Два дні была ў Кангаса. Ён сустракаў мяне на вакзале, і я так хвалявалася, што ў мяне падгіналіся ногі, калі я ішла па пероне. Калі я ўбачыла ягоныя вочы, у мяне адразу ўзнікла пачуццё духоўнай блізкасці і даверу. Дарэчы, ён сказаў, што кожнага пісьменніка, які толькі пачынае пісаць, наведвае пачуццё, што пра ўсё ўжо напісана. Гэта падманлівае пачуццё, таму што тваіх кніг за цябе ніхто не напіша. Кангас, створаны маім уяўленнем, супаў з рэальным чалавекам бліжэй, чым я чакала. Творчасць — ідэнтыфікацыя асобы, нават калі ў жыцці чалавек гуляе ў хованкі. Я ўдумваюся ў тое, што ён напісаў, — гэта вялікая блізкасць. Што мяне здзівіла, дык гэта тое, што ў яго ціхі голас. Ён сказаў, што ад яго ўсё жыццё патрабуюць гаварыць грамчэй. Голас вельмі прыгожы, і вялізныя вочы. Высокі, худы. Жонка Сара — мастачка. Дарэчы, мы згадвалі навелу «Сустрэча», можа быць, ты яе крыху памятаеш. Ён сказаў, што гэта напісана на асабістым досведзе. А Сара сказала: «Уф! Жахлівая рэч!» Мы вельмі шмат гаварылі, добра, што частка ёсць у мяне на стужцы.

Я вельмі добра памятаю «Сустрэчу». Я на адну такую сустрэчу пагадзілася толькі дзякуючы падабенству сітуацыі з перакладзенай табой навелай Кангаса. Я нават пераказвала яе пры аналагічнай сустрэчы. Пачала пераказваць навелу і нашую з табой спрэчку. Як ты пераклала «сустрэчы ўзбагачаюць», а я прапанавала напісаць, што «сустрэча — гэта штосьці большае». «Большае, чым што?» — спытала

ты. Большае, чым проста сустрэча. Я пачала пераказваць, і зноў узнікла спрэчка, мне сказалі, што ўсё ж такі сустрэча сапраўды «ўзбагачае». Ніколі ў гэта не паверу. Але твой варыянт быў прызнаны больш слушным. Я пераказвала, пераказвала... Пакуль у мяне не спыталі: «Гэта, напэўна, вельмі доўгая навела?» Я адказала, што яна займае дзве старонкі. І мне сказалі: «Дзіўна. Ты яе цэлыя паўгадзіны пераказваеш. Пасля быў праведзены эксперымент — высветлілася: пад душам можна курыць.

Хто ж гэта праз Кангаса так пацярпеў? Трэба паведаміць пра гэта Кангасу, у «Сустрэчы» гэта адзінае, што перашкаджае ціхаму мужчынскаму шчасцю.

Навела вельмі кароткая. У чым яе сакрэт? Ён піша толькі навелы, ці ў яго яшчэ ёсць які-небудзь занятак, які прыносіць яму грошы? Нядаўна гаварыла са сваім сябрам-літаратарам па тэлефоне. Ён сказаў, што таленавіты заўсёды багаты.

Дарагая, што тычыцца навелы, думаю, яе сакрэт у стылі і аўтарскай інтанацыі. Таленавіты чалавек часам багаты, часам бедны — тут нават гаварыць няма пра што, — твой сябра, напэўна, быў з пахмелля.

У Кангаса была навела, дзе ён шукае душу ў камянях? Прывітанне, сонейка! Навела, канечне, была. Пра камяні і душу, усё ты правільна памятаеш, чым невыказна цешыш маё самалюбства. Я тут захварэла крыху. Сяджу і слухаю, як галава кружыцца.

Лена, давай узгадаем яшчэ адзін твой пераклад Кангаса. Апавяданне «Прота». «Прота» — гэта мянушка дзяўчыны. У перакладзе значэнне слова крыху губляецца, таму што мянушка паходзіць ад слова «пратэз», бо апавяданне пра аднаногую дзяўчыну, якая жыла ці то ў вёсцы ці то ў невялікім мястэчку, і яе ўсе ведалі. Яна спакушала, як магла, мясцовых хлопцаў. Яны яе ціскалі, а пасля яна іх кідала і ўцякала. Яе пратэз быццам бы нікому і нічому не перашкаджаў. Аповед вядзецца ад імя аднаго з хлопцаў, у якім сарамлівасць і сентыментальнасць вельмі моцна перамяшаныя з нахабствам і жаданнем самасцвердзіцца. Але факт, што ён да аднаногай дзяўчыны ставіцца някепска. Яна яго, як і іншых хлопцаў,

прываблівае... Аднойчы ўвечары, вяртаючыся не памятаю адкуль, яны чуюць у полі дзіўныя гукі. Бачаць, што гэта іх сяброўка Прота качаецца па зямлі і, звяртаючыся невядома да каго, ці то да хлопцаў, ці то да Прыроды-маці, стогне, просіць «узяць яе». Яна аголеная. І адзін з хлопцаў наступае на яе мыском чаравіка і плюе. Яны сыходзяць. Але пасля ўсе хлопцы ў мястэчку думаюць толькі пра адно — пра Прота, пра тое, што яна рабіла.

Усё наваколле напружваецца, атмасфера згушчаецца. Ніхто не можа думаць ні пра што іншае. І вось яны, а гэта адзінаццаць чалавек, ловяць Прота, заводзяць у лодачны гараж, дзе ўсе па чарзе гвалцяць яе. Жорстка. У тым ліку і хлопец, ад імя якога вядзецца аповед. І ён таксама. Не лепшы за іншых. Пасля гэтага Прота не варушыцца. А хлопец выходзіць на свежае паветра. Стаіць пад лодачным гаражом. Шкадуе яе. А яна зусім не варушыцца. Ты мне тады патлумачыла, што яна зняможаная і зняважаная, таму і нерухомая. А я думаю, што яна наогул нежывая. Але ты ж перакладчык, мела справу з арыгіналам, напэўна, маеш рацыю. Але сэнс у тым, што жанчыны, якія б яны ні былі, усё ж правакуюць мужчын. І хлопцы не такія ўжо і кепскія.

Я распавяла Кангасу, як ты ўспрымаеш яго навелы. Калі хочаш, можаш яму напісаць, а я перакладу. Калі ласка, пішы.

Абдымаю, Лена.

Калі ты распавяла Кангасу пра маё ўспрыманне навелаў, то ён, напэўна, нешта адказаў. Ці маўчаў?

Ён вельмі саромеўся і часам чырванеў.

Ты што, сур'ёзна? Ці жартуеш? Гётэборг, дзе жыве Кангас, — прыгожы горад? А газеты ты там, у Швецыі, чытаеш?

Не жартую. Гётэборг — вельмі прыгожы горад. Дашлю табе здымкі. Што тычыцца газет, то я іх амаль не чытаю. Апошні артыкул, які я прачытала, быў пра міні-свінняў. Яны ў Швецыі цяпер вельмі папулярныя ў якасці хатніх жывёлаў.

Іх выгульваюць на шворках, а ў доме лёгка прывучваюць да туалета. Адзіная праблема заключаецца ў тым, што яны імкнуцца вырасці. Хутка вяртаюся дадому.

Калі?

Мая дарагая, прабач за маўчанне, было шмат усяго. Я вярнулася са Швецыі і цяпер перажываю разнастайныя распытванні — усе выказваюць спачуванне і здзіўляюцца, навошта я вярнулася. А мне здавалася, што я гатовая да гэтага... Зараз іду ў выдавецтва з кнігай Карла Юхана Вальгрэна — сентыментальная гісторыя кахання. Перакладаю, збіраюся прапанаваць нашаму выдавецтву, хаця мясцовыя пісьменнікі патлумачылі мне, што гэта нікому не патрэбна. І грошай на гэта ўсё роўна няма. Як у цябе з тваімі навеламі, напішы. Як ты сама, сонца?

З навеламі ў мяне ніяк, затое ёсць сентыментальная гісторыя кахання «ў натуры» (не да чалавека, які курыў пад душам) і пальцы, якія нарываюць пад пазногцямі — боль дзікі.

Сонейка, у цябе панарыцый? Схадзі да доктара, калі ў яго не была, гэта небяспечная штука. «Каханне ў натуры» заўсёды прыемней, чым літаратура, але зранку можна занатоўваць тое, што было ўвечары, і так паступова складзецца твая навела. Ты жывеш самым натуральным чынам, не супраціўляйся прыродзе і эмоцыям. Імі як ні кіруй — толькі марнуеш час, а мяне Швецыя падмарозіла. Я і раней эмоцыямі не вызначалася, а цяпер і зусім — у нуль. Усе мае знаёмыя шведы цяпер чытаюць Кангаса.

Наогул я прынесла яму адчувальную карысць, прычым на яго гістарычнай радзіме. Не магу спаць па начах — усё баліць. А палове другой ночы стаю на балконе з цыгарэтай — і апошнім часам для мяне гэта норма.

Усё гэта не дарэмна — і цыгарэта, і балкон, і ноч... Уяўляеш, якая ў цябе наперадзе свабода?

*Сакавік–ліпень 2003 года, Мінск*

# ЧУЖОЕ ГНЯЗДО

Заалагічная крама «Прырода». Вось акварыумы — 30-літровы, 60-літровы, 120-літровы і на 200 літраў — з падсветкай і падагрэвам. Каб было ў мяне ўсё добра, я б купіла сабе стадвaццацілітровы, падрыхтавала б глебу, пасадзіла водарасці ды запусціла б у празрыстую ваду рухавых і мірных рыбак. Рухавых — каб яны хутка плавалі і здавалася, што іх больш. А мірных — бо бываюць і драпежныя, яны ядуць іншых рыб, а я так не хачу. Па дне майго акварыума поўзалі б залацістыя сомікі...

Вось пацукі, хамякі, папугаі. У адной клетцы сядзяць шмат папугаяў, і яны танныя, а ў другой — мала і дарагія. Тыя, што танныя, — самкі, яны каштуюць амаль у тры разы меней за самцоў. Іх амаль ніхто не набывае, бо «не ўмеюць гаварыць».

Але ж вось гэтая самачка — пяшчотна-блакітная з белай галавой — такая кранальная істота! Ашчаслівіла б якога-небудзь зялёненькага хвалістага, калі б яе купілі... Усё адно — наўрад ці каму спатрэбіцца. Тыя, хто трымае гэтых птушак дома, ведаюць: ледзьве з’яўляецца самка, папугайчык перастае гаварыць.

А вось сабачыя ашыйнікі. Прыгожыя — мяккія, скураныя — і «строгія» — металёвыя з шыпамі. Каб быў сабака, ніколі б не надзела яму на шыю «строгі». Купіла б прыгожы — плецены са светлай скуры.

Зноў вяртаюся да акварыумаў з празрыстай вадой і рухавымі рыбкамі — вось што трэба. Згадваю, што ўжо мела акварыум, але маленькі — 11 літраў (вядро вады). Там жылі кардыналы і сомікі. Гэты акварыум нават адлюстраваны ў беларускай паэзіі — адна паэтка напісала верш пасля таго, як заначавала ў нас дома каля акварыума. Верш такі: «У водарасцях схаваўся слон, мне цёпла». Праўда жыцця вымагала б напісаць «сом», а не «слон». Але што тады рабіць з праўдай вымыслу і паэтычным успрыманнем? Паэтка пас-

ля сварылася са мною, папракала, што я «жыву на Зямлі» ў адрозненне ад яе, што «жыве ў аблоках на Небе», — так метафарычна намякнула яна на мой бедны духоўны свет.

Акварыум з сомікамі я падаравала дзяўчынцы, у якой не было бацькі, а маці спявала ў царкоўным хоры.

Вада, вада. Не заўсёды яна спакойная, як у акварыуме, бывае хуткаплынная, бурлівая — тая, што ўсё зносіць, як у вершы Максіма Багдановіча: «Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве».

Але забываецца і сплывае хутчэй вясёлае і бадзёрае. Застаецца сумнае і змрочнае.

Ля заалагічнай крамы «Прырода» я сустракаюся з чалавекам, які казаў мне: «Нягледзячы ні на што, ведай, што ёсць на зямлі той, хто цябе заўсёды памятае і любіць». Я чакаю яго. Сёння па тэлефоне ён паабяцаў мне сказаць яшчэ штосьці істотнае. Што можа змяніць маё жыццё. Памятаю, як аднойчы трапіла да яго ў госці.

Апынулася ў чужым гняздзе. У ванным пакоі вісеў халат ягонай жонкі — паркалёвы, у дробныя рознакаляровыя кветачкі — у такім зручна завіхацца на кухні: не страшна, што з'явяцца плямы — сыдуць за новыя кветкі. Кветкі трывалага кахання, вернасці і дабрабыту. Што там было яшчэ? Шампунь «Крапіва», крэм «Ласкавыя рукі», дэзадарант «Сакрэт». Сакрэты ёсць у кожнага. І тут я зніякавела, прачытаўшы на парфумерным флаконе «дзярмо». Лацінкай. Не адразу сцяміла, што гэта «Derma» — скура. Дэзік рабілі ў Грэцыі, туды выпраўляў ён сваю сям'ю на адпачынак.

Пасля мы пагаварылі:

— Бачыла ў вас дэзік з вельмі цікавай назвай. Вам яго...

— Так, падаравала жонка — «намажашся гэтым зранку, мілы, і хадзі так цэлы дзень». А цяпер уяві, як яна выбірала падарунак, як з сяброўкамі гігікала...

— Адарвіце назву.

— Хай будзе. Як ёсць, хай так і будзе.

— Садамазахізм?

— Не, жыццё такое. Ведаеш, на дваццацігоддзе нашага шлюбу я кінуў аб падлогу паднос з шасцю чэшскімі крыш-

тальным keліхамі. І ты ведаеш, што зрабіла мая жонка на мой дзень нараджэння?

— Адпомсціла Вам! Таксама нешта пабіла?

— Падаравала мне дакладна такія келіхі. «На твой дзень нараджэння, — сказаў я тады ёй, — я падарую табе спінінг».

— Добра Вам.

— Што добрага?

— У вас склаўся жыццёвы пасьянс: Дама адпаведнай масці легла на Караля. У мяне так не атрымаецца, як ні круці.

— Чаму?

— У мяне быў момант прасвятлення. Памятаеце, як я ездзіла адпачываць у Балгарыю? Тады яшчэ прывезла Вам у падарунак запальнічку з выявамі трох рознакаляровых рыбак з хвастамі? Там я выразна зразумела, што мяне чакае, акурат у той дзень, калі вырашыла наведаць былую дачу Тодара Жыўкава — «Перліна», ці як яна там звалася. Дзень быў змрочны — цёмнае неба, страшнае мора. Высокія хвалі наляталі на бераг, разбіваліся і пускалі белую пену. Толькі жоўты пясок цешыў вока, але перашкаджаў ісці — ногі патаналі, таму я хутка стамілася і прысела адпачыць на рэшткі ахоўнага збудавання. Азірнулася і пабачыла далёкія постаці. Мужчына і жанчына, вакол іх скакаў сабака. Аўчар. Яны набліжаліся. І тут я зразумела: вось яно, шчасце — шчаслівы мужчына, шчаслівая жанчына і шчаслівы сабака. Ім ніхто не патрэбны тут, на жоўтым пяску пад цёмным небам. Можа, яны маўчаць, можа, гавораць... Ім усё адно добра. І яшчэ я падумала, што мне не дадзена будзе ні з кім ніколі прайсці вось так, як ідуць яны. У адным я памылілася — вакол шчаслівай пары скакаў ірландскі сетэр, а не аўчар. Чырвоны ірландскі сетэр. А можа, я памылілася не толькі адносна сабакі...

Выходжу з крамы «Прырода» на вераснёвы праспект Скарыны, дзе мяне чакае мужчына з экзатычнай фіялетавай кветкай, назвы якой я не ведаю.

— Я пачаў ужо думаць, што ты не прыйдзеш.

— Разглядала рыбак.

— А да мяне ўжо падыходзілі маладыя прыгожыя дзяўчаты. Пыталіся: «Мужчына, ці не нам вы хочаце падараваць гэтую прыгожую кветку?»

— І што Вы адказалі?

— Не, гэтая кветка не для вас. А што я яшчэ мог сказаць? «...забудзецца, умрэ, з вадой сплыве, ды потым у спомінах устане, ажыве...»

*15 лістапада 2001 года, Мінск*

# СЯРОД УСЯГО

Чаго толькі няма ў Свіслачы!

Паглядзі!

З моста ўсё ўбачыш.

Тут ёсць: рэшткі электрагітары са струнамі, шыны, зусім цэлая з выгляду рыдлёўка (яе можна паспрабаваць выцягнуць), пляшкі самыя розныя. Зялёныя цяжкія сметніцы патрапілі ў ваду з прысадаў парку, паламаная лаўка — таксама адтуль.

Што яшчэ? Шмат таямнічага ды неспазнанага!

Вось нешта белае і брыдкае зачапілася на дне і цяпер калышацца, выгінаецца, трапечацца ў вадзе. Нават не хочацца казаць, на што яно падобнае.

Вось куртка, яна таксама зачапілася і не можа плысці далей. Думаю, гаспадар не будзе шукаць яе на дне ракі. Напэўна, яна яму ўжо не патрэбная.

Пільна ўзіраюся ў па-зімоваму празрыстую ваду: можа, прагляне сярод усяго бледны твар чалавека, які страціў у Свіслачы не толькі куртку, але й жыццё.

І ўсё гэта можна назіраць кожны дзень па дарозе на працу.

Ідзеш праз мост — і глядзі сабе колькі заўгодна, любуйся, калі толькі не холадна і не сорамна, што прымуць за шызу.

Ёсць яшчэ пад мостам нешта накшталт снараду ці бомбы. Дакладней, гэтая незразумелая рэч там была да нядаўняга часу. Кажу «ёсць», бо ўвесь час забываюся, што яе там няма. Так мы звыкліся з ёю. Тры гады мы спрачаліся з-за яе, бо кожны з нас хаця б раз на дзень пераходзіў мост. Сакратарка Люда казала:

— Гэта не снарад, а вялікая рыбіна. У яе хвост.

— Такія рыбы ў Свіслачы не водзяцца, — пераконвала я яе, — гэта бомба альбо снарад, паглядзі нармальна.

— Рыба, — настойвала Люда, — яна прыплыла аднекуль, але не здолела жыць у Свіслачы, таму і здохла.

— А чаму яна так добра захавалася?

— Таму што вада халодная.

— Яе б даўно з’елі іншыя рыбы.

— А калі яны не хочуць яе есці?

— Ты лепей згадай кінахроніку. Помніш, як там паказваюць? З самалётаў падаюць вось такія самыя хвастатыя бомбы.

— Дык гэта бомба ці снарад?

— Нешта такое...

Мы глядзім з моста ў ваду, а людзі, якія праходзяць міма, глядзяць на нас. Робіцца няёмка. Яны думаюць, што мы дурныя.

— Усё адно, гэта бомба, — кажу я.

Люда маўчыць, і мы ідзём куды ішлі.

Тое, што гэта ўсё ж не рыба, высветлілася. Вясной і летам вада была каламутная, а восенню зноў празрыстая. Вось тады мы і ўбачылі, што тая штука пад вадой як ляжала, так і ляжыць. Ляжала яна там, ляжала да сакавіка 1996 года, а пасля знікла. Куды? А хто ведае? Аднойчы гляджу — быццам усё на месцы, але няма самага галоўнага — бомбы. Знікла. Няма пра што казаць.

Перад святам перамогі над фашыстамі пайшлі з дзецьмі — Адасём і Янаю на Свіслач. Хацелі паглядзець жабаў. Адразу ўразіла мноства вялікіх і шырокіх маціцовых ракавінаў. А жабаў не было.

— Дзе жабы? — пытаўся Адась.

— Павінны быць.

Мы ішлі ўздоўж бруднага берага. Двухгадовая Яна з радасцю шпурляла ў ваду каменьчыкі. А жабаў не было. Мне пашчасціла ў іншым — знайшла манету.

— Глядзі, Адась, манета!

— Дзе?

— Вось, — я паказала сямігадоваму Адасю знаходку, — і тут яшчэ арол.

— Арол?!

— Расійскі.

— А... — расчараваўся Адась.

Цікава, а якога арла ён хацеў пабачыць?

— Гэта пяць расійскіх рублёў, — патлумачыла я.

— А дзе жабы?

— Будзем шукаць... Хадзем, Яна, давай руку. А можа, жабы яшчэ не нарадзіліся...

І ў вадзе, і на беразе хапала рознага... Не было толькі таго, што мы шукалі.

— Во, Адась, глядзі: яшчэ адна манета, — я падабрала з пяску зусім чорны круглячок.

— Зноў расійская?

— Савецкая. Пятнаццаць капеек, за іх можна было тэлефанаваць у іншы горад. А вось і жаба.

— Дзе?

— Вось, на кавалку пенапласту.

— Дзе?

— Зараз пабачыце...

Жаба была зусім невялічкая і занадта спакойная, на нас зусім не рэагавала. Звычайна яны толькі пры набліжэнні адразу плюхаюцца ў ваду.

Азіраюся, шукаю, чым бы прагнаць жабу, каб яна скочыла. Знаходжу дубец, варушу ім жабку — сядзіць, як прыклееная. І колер у яе нейкі металёвы. Можа, нежывая? Выцягваю з вады пенапласт разам з жабай — як сядзела, так і сядзіць.

— Яна памерла, — канстатуе Адась.

— Не, яна дыхае, паглядзі на яе горла.

— Жаба, жаба! — радуецца Яна.

— Зараз пабачым, ці можа яна плаваць, — кажу я і спіхваю жабку з пенапласту. Плыве!

З трафеямі — маціцовымі ракавінамі і дзвюма манетамі — пакідаем бераг Свіслачы.

Дарогай згадваю манету 1570 года з «Пагоняй», якая дзесяць гадоў таму на даўгім срэбным ланцужку вісела ў мяне на шыі. Манета страчаная — шкада, мне падаравала яе маці.

У 1986 годзе ў Мінску на раскопках Дамініканскага касцёла тым, хто знаходзіў манету з «Пагоняй», даплочвалі пяцьдзясят савецкіх капеек за штуку — такая была прэмія. Маладыя людзі, якія зараблялі на адпачынак у Крыме, знаходзілі па тры за змену. А я за пяць месяцаў — ніводнай. А як хацелася! Не для таго, каб атрымаць пяцьдзясят капеек, а проста, каб знайсці!

Аднойчы ўбачыла нешта круглае ў пяску, думала, усё — знайшла. З «Пагоняй»! Узяла, а там манета, але на ёй — усё той самы двухгаловы арол. І што з ім рабіць?

Манеты, знойдзеныя праз стагоддзі, нагадваюць пра тое, што існавала, пра дзяржавы, якія знікалі, каб не адрадзіцца. І вось я думаю пра тое, што ніхто не знойдзе дробнай беларускай манеты нашага часу на беразе ракі.

*Чэрвень 1996 года, Мінск*

# САБАЧАЯ ГАВОРКА

Чым далей, тым горш.

Думала: прыйдзе час, і авалодаю сабачаю моваю.

Няма надзеі.

Я не збіралася размаўляць на ёй.

Не трэба. Ведаю: вымаўленне цяжкое. Хацела разумець. Больш нічога.

Не атрымалася.

Мне дваццаць сем гадоў, а ўсё па-старому...

І гэта пры тым, што людзі звычайна жывуць даўжэй за сабак.

Няма ў свеце дваццацісямігадовага сабакі...

Ці вы ведаеце такіх?..

Да сямі гадоў я жыла ў бабулі з дзедам.

Мела рудую сучку-аднагодку — Ляльку. Лялька была падобная да лісы, бабуля сцвярджала: «Шпіц». Цяпер ведаю — у шпіца даўжэйшыя лапы. Лялька нагадвала шпіца, змяшанага з таксай.

Мы паўсюль хадзілі разам. Мне казалі: яна разумее словы.

Каб праверыць гэта, я прыдумала эксперымент. Лепей бы не рабіць гэтага... Травеньскім вечарам сядзелі мы на цёплай трубе, па якой ліўся ў рэчку бруд з горада. Усё навокал было жоўта-зялёнае — маладая трава і дзьмухаўцы. Я сказала ёй: «Ты хутка здохнеш, Лялька!» Лялька заплакала. Глядзела на мяне, і з вачэй каціліся слёзы.

Яна зразумела!

Чаму плакала? Хіба не ведала гэтага без мяне? Я адкрыла таямніцу? Не можа быць: хутчэй за ўсё — не! Проста не чакала такога ад мяне. Кожны мог пакрыўдзіцца. Але ж мы засталіся сябрамі. Дрэнна, калі крыўдзяць сябры, але горш за ўсё, калі няма на каго крыўдаваць. Гэта ўжо — самота. Даводзіцца злаваць на сябе.

Зімою мне споўнілася сем гадоў, набліжаўся час вучобы — восенню ў школу. Трэба было вяртацца да бацькоў. Усё засталося на сваіх месцах: бабуля, дзед, Лялька, дом,

сад, рэчка... Толькі я з’ехала. Адбылося развітанне... Але я ведала: вярнуся, і Лялька першая сустрэне мяне.

Я прыехала ў іншы горад, пра які бабуля казала «сапраўдны» і «прыгожы». Анічога іншага яна і не магла сказаць, бо гэта быў яе родны горад. Там на могілках, ператвораных у сквер, засталіся магілы яе бацькоў і першай дачкі, якая памерла зусім маленькая...

А мой родны горад бабуля называла «вялікая вёска».

Затаптаных магіл не знойдзеш, колькі ні шукай. Яны незаўважныя, бо сквер — не могілкі.

У родны горад бабулі прыехалі позна ўвечары. Уразіла ілюмінацыя — дамы зіхцелі, як навагоднія ёлкі. На дахах і сценах мігцелі, пераліваліся агні, спалучаліся колеры, зыркія і незвычайныя.

Бацькі жылі на кватэры — у цагляным пяціпавярховым доме.

Жалезная брама вяла з вуліцы ў дворык, дзе былі тоўстыя таполі, укапаныя ў зямлю зялёныя лаўкі і шырокі стол. Былі кантэйнеры для смецця, прыхаваныя вельмі старанна за рогам дома.

Маці павяла ў парк. Пра парк я ўжо ведала. Бабуля распавядала, што раней кожную зіму яго залівалі вадой — рабілі суцэльны каток. Паміж дрэваў развешвалі рознакаляровыя ліхтарыкі. Гучала музыка.

Было вельмі прыгожа. Моладзь бавіла час. Сяброўка маёй бабулі скатала снежку і з’ела, бо было горача, хацелася піць. У снежцы жылі мікробы, сяброўка памерла ад заразнай хваробы, накшталт тыфусу. Пасля перасталі рабіць суцэльны каток, бо ў парку раслі каштоўныя дрэвы, якія пачалі гінуць па вясне.

Маці павяла мяне да двух валуноў, на адным з іх выбіты надпіс «Лорд», а на другім (меншым) — «Марко». Гэта былі старыя сабачыя магілы. Яшчэ пабачылі высокі чорны пень, з якога выглядаў выразаны з дрэва твар самотнай кабеты. Чорнай кабеты. Лепш бы я на яе не глядзела.

Мы пайшлі да палаца з вежаю. Маці хацела паказаць мне вітражы ў час, калі заходзіць сонца. Пунсовы прамень прабіўся скрозь каляровае шкло галерэі — момант злоўлены!

У вежы быў музей, а ў музеі — выстава гадзіннікаў. Самых розных. А пятай гадзіне яны пачалі біць і звінець, а некаторыя — хрыпець. Ім адгукнуўся цяжкі вежавы гадзіннік.

У школе я вучылася дрэнна — нічога не разумела. Настаўніца спеваў зламала мне аб галаву драўляную ўказку. Дакладней, не аб галаву, а аб парту, бо я паспела адхіліцца.

Перад восеньскімі вакацыямі прыехала бабуля. Сустрэлі яе з маці на вакзале. Бабуля расказвала пра ўсіх, але пры гэтым нечага недагаворвала. Лялька? «Лялька мяне зусім засмуціла перад ад'ездам», — адказала бабуля. Як? Яна ж вельмі паслухмяная і разумная. «Я сама нічога не ведаю...» — працягвала бабуля, выразна гледзячы на маці.

Пайшлі ў госці да бабулінай сястры, яна жыла ў тым самым доме, дзе яны ўсе нарадзіліся. Я гуляла з катом і пачула: «Лялька здохла. Я нават не стала глядзець, дзед сам ужо разбіраўся. Поленька няхай пакуль не ведае нічога, яе трэба падрыхтаваць. Пасля завядзём новага сабаку, але думаць цяпер пра гэта не хочацца». Мне таксама не хацелася думаць пра тое, што Лялька не сустрэне мяне ніколі, што не ўбачу яе, бо час незваротны.

У лістападзе тое лісце, што не апала з дрэваў, — чарнее.

Застаецца трохі мерзлых яблыкаў. Я глядзела ў сад праз акно, здавалася, што там, у самым канцы, мільгае штосьці рудое — прывід Лялькі. Выйсці ў сад страшна. Але вакацыі кароткія, і я ведала, што павінна паспець зрабіць.

Знайшла тое месца, дзе закапалі Ляльку, — пад белым налівам. Знайшла кафлю ад разабранай печкі. Зрабіла магілу — па баках кафля брунатная, а ўсярэдзіне — белая. На белай кафлі здолела напісаць імя і даты...

У свае дваццаць сем гадоў я працую ў музеі загадчыкам экспазіцыйнага аддзела. У бабулі жыве нямецкая аўчарка — Рокіс. Я прывезла яго з Мінска, куды з'ехала адразу пасля заканчэння школы. Бываю ў сваім родным горадзе, размаўляю з Рокісам так, як умею. Баюся пакрыўдзіць, таму часам недагаворваю. Але ж і мне ўсё жыццё недагаворвалі таго, пра што сама здагадвалася.

*Травень 1995 года, Мінск*

# КАВАЛАК ЖЫЦЦЯ

Двухпавярховы дом у стылі «мадэрн» адрэстаўравалі і зрабілі ў ім музей.

Зімою, калі падае снег, музей нагадвае калядную паштоўку. Вечарам аранжавае святло ў музейных вокнах вабіць да сябе. Хочацца зазірнуць у дамок праз акно ці зайсці. Зайсці можна праз цэнтральны ўваход, а можна і праз службовы, націснуць кнопку званка, пачакаць крыху — і нехта адчыніць, тады трэба сказаць, да каго ты ідзеш... Вось і ўсё. Патрапілі на калядную паштоўку.

Людзі, якія працуюць тут, — добрыя і ветлівыя, шмат гадоў аддалі яны музейнай справе. Усіх нас, хто працуе тут, яднае любоў да літаратуры, да падзеяў мінулага і адно забойства, якое адбылося ў гэтым доме паўстагоддзя таму. Тут забілі класіка нашай літаратуры.

Забойцу так і не знайшлі. Засталіся здагадкі, версіі ды меркаванні — спажытак для даследчыкаў. У тым ліку і для мяне.

Можна сказаць, што ў мяне ўсё добра, але часам розныя сны і прадчуванні не даюць спакою. Я не звязваю іх са сваёй працай, хутчэй гэта праблемы майго характару. Вось і сёння зранку, калі выйшла з кватэры, кнопка ў ліфце так здрадліва мігцела, так пульсавала і палохала сваім ненатуральна памаранчавым колерам... Кнопка ў ліфце папярэджвала пра нядобрае. Таму я пайшла па прыступках. Пакуль ішла, мне не спадабаўся пад'езд. У пад'ездзе ўсё: сцены, вокны, святло — такое — не разабрацца, што там на вуліцы — лета ці зіма, вясна ці восень. Толькі часам снежны след, занесены на падэшве чаравіка, жоўты кляновы ліст ці змятая кветка паказваюць, што там, на двары.

Калі я хвалююся, дык вельмі часта падыходжу да акна свайго кабінета — гляджу: што там? У мяне часам пытаюць: каго ты чакаеш? А я нікога не чакаю, проста думаю, што прыйдзе дзень, калі ўсё зменіцца.

Цяпер на вуліцы падае снег. Падае і растае на бруку. Толькі на дахах снег не растае. Белы снег на чырвоных дахах абяцае змены ў жыцці. Я вяртаюся да стала, дзе стаяць вельмі тонкія парцалянавыя кубак і сподачак. З гэтага кубка піў каву ды яшчэ што-небудзь класік нашай літаратуры. Я вымяраю дыяметр донца. На фондавым бланку запісваю: «Філіжанка. Белая, з залатой аблямоўкай. На донцы выява галавы лася. Знак брунатнага колеру».

Пахне старымі кнігамі і крышку — кавай. У кабінеце ціха, але гэтая цішыня нядоўгая — у дзвярах з'яўляецца наш супрацоўнік Алесь, ён запрашае мяне пайсці папаліць. І я адстаўляю кубак з залатой аблямоўкай і галавой лася і выходжу ў цёмны калідор. Гэты калідор вядзе ў мемарыяльны пакой, дзе адбылося забойства класіка нашай літаратуры. Забойства адбылося ноччу, таму на калідоры заўсёды ноч, дакладней, імітацыя ночы, каб найлепш перадаць атмасферу падзеі. Але мы цяпер не ідзём у памятнае месца.

Спускаемся ў сутарэнне музея, там можна папаліць. Старыя сцены доўга захоўваюць тытунёвы дым ды рэшткі размоваў.

— Ты ведаеш, — кажа Алесь, — я апошнім часам нічога не магу рабіць, толькі думаю. Ты толькі не шукай у маіх словах ніякага сэнсу, але я цяпер згадаў Ларысу Геніюш. Яна пісала пра тое, што ўдзячны француз робіць з прастытуткі каралеву, а рускі — з каралевы прастытутку.

— Хочаш сказаць, што ты не француз?

— Так, — уздыхае Алесь, — але і не рускі.

— Значыць, ты не ведаеш, што табе рабіць?

— Так.

— Табе можна толькі пазайздросціць, што ты думаеш пра гэта. Значыць, моц тваіх захапленняў не слабне. — Так кажу я. А што тут яшчэ скажаш, калі добра ведаеш, хто і што стаіць за гэтымі словамі пра каралеву і прастытутку?

— Стань сама сабою! Адкінь усе комплексы! Паводзь сябе натуральна! — раіць мне Алесь.

А хто ведае, што будзе, калі кожны стане сабою? А што, калі не хочацца «рабіцца сабою»?

«Гэты пакой — самае дарагое, што ёсць у нас, — з лесвіцы даносяцца тупат ног і голас Тані, маёй каляжанкі. — Мы з вамі падыходзім да месца, дзе былі напісаныя неперарўзыдзеныя ўзоры нашай літаратуры. І ў гэтым жа месцы быў забіты іх творца. Тут створаная атмасфера ночы, бо ноч была часам для творчасці. Удзень класік нашай літаратуры ахвяраваў сябе грамадскай дзейнасці, і толькі ноччу надыходзіў час для дзейнасці творчай».

У сутарэнні я добра ўяўляю, як экскурсанты падымаюцца наверх, да кабінета класіка нашай літаратуры. Падымаюцца па прыступках, якія памятаюць іншыя крокі — крокі забойцы. Я чую, як Таня звяртае ўвагу наведнікаў на музейныя рэліквіі: «На стале вы бачыце гадзіннік, які адлічыў апошнія хвіліны жыцця класіка нашай літаратуры і пачаў адлік яго несмяротнай славы». Роўным, глыбокім голасам Таня гіпнатызуе тых, хто яе слухае: «Паглядзіце, фатэль ад стала крыху адсунуты. Здаецца, творца толькі што ўстаў з-за стала і вернецца праз некалькі хвілінаў. Вы памятаеце? У яго асобе было шмат прыцягальнага і загадкавага. Шчырым быў ён у жыцці, непрадказальнай і пакутніцкай была яго смерць». Для большага эфекту і ўздзеяння варта было б казаць іншае: «Уявіце сябе забойцам, які заходзіць у кабінет, каб назаўсёды спыніць творчы працэс...» альбо «Уявіце сабе, як вы седзіце і пішаце, у коле святла настольнай лямпы з'яўляецца цень. І гэта не змрочныя цені вашых фантазіяў, а цень рэальнага чалавека — забойцы. Вы не заўважаеце нічога да апошняга імгнення, а пасля — смяротны жах і пасмяротная слава». Але так нельга казаць, мы мусім выклікаць у людзей станоўчыя эмоцыі. І наогул, прафесійнае правіла кожнага экскурсавода — казаць не больш за адну траціну ад таго, што ведаеш.

Пасля экскурсіі Таня заходзіць да мяне.

— Цікавая філіжанка, — яна бярэ ў рукі кубак з выявай галавы лася.

— Што ў ёй цікавага? Такая самая стаіць у мемарыяльным пакоі каля лямпы. Ты яе кожны дзень паказваеш людзям. Гэта ўсё адзін сервіз, дарэчы.

— Цікавае ў гэтай філіжанцы тое, што з яе мы можам зараз выпіць кавы. А тая — прымацаваная да стала. З яе ўжо ніхто нічога піць не будзе.

— Не будзем гэтага рабіць, — кажу я. — Бо нельга.

— А чаму нельга? Раней у гэтым доме з яе пілі каву. І мы паўторым.

— Раней у гэтым доме шмат чаго рабілі. Гэта не значыць, што мы ўсё мусім паўтараць. Ты ніколі не думала пра тое, чаму людзі ходзяць да нас? Ты можаш зараз сказаць, што гэта чытачы і аматары гісторыі. А раптам не так? Ты заўважыла, як дзеці любяць глядзець на пахаванні? Зразумела, што не ўсе. Некаторыя баяцца. А большасці — падабаецца. Таму што міжволі цягнуцца да ўсяго жудаснага, незразумелага. З той самай прычыны людзі ходзяць у музей. Таму мы тут. А ты падумай: чым мы тут займаемся цэлымі днямі? Па сутнасці, выклікаем духаў. Ведаеш, выклікаць духа вельмі проста. Варта толькі ўявіць яго і надаць ягонаму абліччу моц сваёй душы. І вось ужо прывід з'явіўся, як з'яўляецца адбітак у люстэрку... Таня, што ты адчуваеш кожны раз, калі заходзіш у мемарыяльны пакой і расказваеш пра забойства? Паміраеш ці забіваеш?

— Нічога такога. А што, трэба кожны раз паміраць самой? Можа, раней такое і было... Калі мы толькі пачыналі працаваць. Але ты сказала, што дзецям падабаюцца пахаванні? Дзе ты такое бачыла? — пытае Таня.

— Калі памерла наша суседка. Дзеці беглі з усяго раёна глядзець, як яе будуць выносіць. Беглі і крычалі. А яе дачка ішла за трунной з жуйкай у роце і выдзімала пузыры. Дачцэ восем гадоў.

— Пра што ты гаворыш?

— Я табе расказвала пра гэтую суседку шмат разоў. Яна казала, што пераможа смерць.

— Рак?

— Так. Яна марыла спачатку пра трохпакаёвую кватэру і дзіцёнка — дачку. А пасля ў яе была іншая мара — перамагчы смерць. Яна змагалася за жыццё да апошняга дня.

— А пра што марыла ты? — пытаецца Таня.

— Спачатку — працаваць у музеі. Мне здавалася, што тут я знайду супакой. Прыходзіш, звоніш. Дзверы адчыняюцца... Кнігі — маўклівыя сябры. Лямпа гарыць. Больш нічога не трэба. А цяпер я не магу, я не знаходжу супакою, мне здаецца, мы ўсе тут займаемся не тым.

— Ты думаеш, што ты сыдзеш, і нешта зменіцца?

— Зменіцца. Прыйдзе дзень, і ўсё зменіцца, але дзень гэты прыйдзе незалежна ад нас. А цяпер трэба ісці зачыняць музей. Яшчэ раз прайсці па пакоях і праверыць, ці ўсё на месцы, пагасіць святло, зачыніць форткі, запячатаць дзверы, уключыць сігналізацыю і здаць ключы вартаўніку.

*Снежань 1992 года, Мінск*

# ЛЯСНОЕ

І загадка стала перад загадкай.
Мы ізноў тут ні пры чым.
Мы разумеем: лес — раздолле,
І з дзікай таямніцай спім.

*Янка Юхнавец*

## РАНАК

— Час перад сенакосам — найлепшы час, — гаворыць гаспадар хутара.

Які жах — час перад сенакосам! Трава высокая, густая, у ёй раскашуюць земляныя жабы, ніводнаму фіялетаваму званочку яшчэ не адсеклі галавы. Падумаеш пра ўсё гэта — і міжволі ўзгадаеш сваю хваробу, якая зёлкамі не лякуецца.

— Мне таксама даспадобы час перад сенакосам, — адказваю я, — але, здаецца, летась трава тут была вышэйшая...

Роўна год таму тут, на хутары, я страціла каханага. Страціла назаўсёды — ён ператварыўся ў звярка і ўцёк у лес. Звярок быў белы і пухнаты. Вось і ўсё.

## ДЗЕНЬ

Праз год мы вярнуліся на хутар, каб адзначыць вяселле нашай сяброўкі. Пакуль я тут адна, трэба падрыхтавацца да прыезду гасцей. Яны думалі — буду баяцца. Чаго? Што тут страшнага? Ведала аднаго хлопца, ён пісаў вершы пра каханне і свабоду, боль і нянавісць. Я бачыла, як ён зваліўся ў ліўневую каналізацыю... І яго не стала... Гэта ўсе ведаюць! Што з таго?

Думаю, майму каханаму добра ў лесе. Ён заўсёды пачуваўся няўтульна сярод людзей... Ён быў няздольны ні на што людскае. Было ў ягонай істоце штосьці цяжкое і панурае...

Ваду, каб мыць падлогу, цягаю вёдрамі ад стаўка — «чароўнага возера». Іду з вядром па лесе і думаю, што амаль нічога апошнім часам не чытаю. Затое памяць палепшала, калі ўжо што прачытала, то не забуду. Напрыклад: «Істота з абліччам чалавека, пазбаўленая ўсялякай духоўнасці і маралі... Вы не хочаце ведаць і чуць пра яго? З жахам уяўляеце, што ваша дачка можа сустрэцца з такім? Не заплюшчвайце вочы! Ён ёсць...»

Гэта з артыкула пра маладую беларускую літаратуру. Я згодная з аўтарам: нашмат прыемней напаткаць чалавека ў абліччы лясной істоты. І бацькі не будуць у жаху.

Букетам палявых званочкаў у цёмна-зялёнай пляшцы з-пад алжырскага віна ўпрыгожваю пакой для маладых. Пляшку адмыла ад пылу ў стаўку.

Не ведаю, можа, там сапраўды чароўная вада? А пляшка засталася з мінулага года. Помню, як набывалі алжырскае віно ў мястэчку, у краме каля габрэйскіх могілак.

Выношу з хаты і раскладаю на траве матрацы — хай прасохнуць, пакуль сонца...

Вось так.

**ЧАС ЗМЯРКАННЯ**

Змрок паўзе да хаты з лесу. Уяўляю: у гэты час мой каханы выходзіць на лясную сцежку, прыслухоўваецца, прынюхваецца і выпраўляецца ў начныя паходы. Праз акно бачу нашых сяброў, яны праходзяць адзін за адным у густой, высокай траве.

Прыехалі. Нарэшце. Зараз пачнецца свята. Свята на хутары. Усім будзе добра.

**НОЧ**

Што там ляснула?

Гэта мае сябры Філін з Казлом саскочылі з шафы. Шафа — не печка, на ёй не кожны спаць можа. А што рабіць, калі месца ўсім не хапае? На стале дагарае зялёная свеч-

ка. Хочацца паліць, ды няма чаго. Казёл паказвае на мяне пальцам:

— Паглядзі, я яе з дзявятага класа ведаў. Тады яна здавалася мне анёлам.

— Я і цяпер анёл.

— А дзе твае крылы? — пытаецца Філін. Філіны ведаюць, у каго павінны быць крылы, а ў каго — не. Разбіраюцца.

— Пачакайце, зараз прадэманструю, — я выходжу з хаты.

Хто не быў хворы — не ведае... Хвароба, як неадчэпны сцень. Цёмна, зусім цёмна. Крапіва каля ганка — увасабленне мужнасці, уся змятая ды прытаптаная. А на забытым у траве матрацы сядзіць звярок — брудны і калматы. Выйшаў з лесу. Цяпер сядзіць на матрацы ды мыецца: трэ лапкамі нос, вушы, аблізвае поўсць. Так хутка-хуценька чысціцца, нават не зірне на мяне... Ні разу.

Час перад сенакосам — цудоўны час. Час, калі спаўняюцца жаданні.

*Чэрвень 1991 года, Мінск*

# КОЖНАЯ ЖЫВЁЛІНА

З-пад лапухоў вылезла белая сучка — хвост апушчаны, вочы дурныя. Яна прынюхвалася, бо ўжо чула сваю ежу — суп з рыбных галоваў. Суп вынесла на двор гаспадыня. «Зараз, Капачка, зараз, — гаварыла яна сучцы, — пачакай трошкі, хай прастыне». Гаспадыня паставіла рандэлак з супам на высокі зэдлік і пайшла адчыняць аканіцы.

Дом стаяў на самым беразе возера, з усіх бакоў яго абступалі вербы. Уначы дом з зачыненымі вокнамі хаваўся пад вербамі і зусім знікаў у цемры. Вербы выклікалі ў гаспадыні глухое, але звыклае раздражненне: яны забіралі ўсё святло, яны не прапускалі сонца, не давалі выспець трускалкам і памідорам, і нават у самы гарачы дзень у доме панавалі змрок і прахалода.

Канец жніўня. Першае лісце ўпала на халодную зямлю пад вербы. Хутка яно ляжа тут шчыльным жоўта-брунатным тлом, за зіму лісце счарнее, гаспадыня зграбе яго ў груд, праз год — гэта перагной ужо. А цяпер апалае лісце наводзіла на думкі пра непазбежную зіму, доўгія ночы, дровы і дом, які, як бы ты ні паліў у печы, усё роўна стаіць халодны.

Сучка не пабегла за гаспадыняй, яна паставіла пярэднія лапы на зэдлік, узіралася на рандэлак і нюхала паветра. Сучка была маладая, амаль шчаня, але не было ў яе той абаяльнасці, што ўласціва шчанятам і наогул усім маладым жывёлінам. Яна нават не была смешная — проста страшная. Вылецеўшы знянацку на вуліцу, яна палохала людзей пранізлівым брэхам. Больш за ўсё ёй падабалася капаць глыбокія норы і душыць жаб.

Гаспадыня паставіла перад сучкай рандэлак з ежай. Але цяпер сучка не глядзела на яго, адварочвалася. «Ты паглядзі, які суп! — гаварыла гаспадыня, — паглядзі, што тут ёсць, што я табе зварыла». Яна апусціла руку ў рандэлак, перамешвала варыва, падсоўвала пад нос сучцы галаву ад рыбы.

Сучка абнюхала працягнутую руку з рыбай і без асаблівага жадання ўзялася есці. Нарэшце. Гаспадыня стаяла і глядзела на сучку, потым павярнулася і пайшла ў дом.

У доме не было прахадных пакояў, дзверы кожнага выходзілі ў даўгі, вузкі калідор. На калідоры стаяла люстра — ад падлогі да столі. У чорнай раме, з ножкамі ў выглядзе крывых лапаў невядомай пачвары. У цёмным калідоры люстра свяцілася сваім унутраным срэбна-зеленаватым святлом. Люстра было старое, як дом, а дом стары, як вербы. У канцы калідора — спальня з шырокім ложкам, гарой падушак і коўдраў. Кожную раніцу гаспадыня старанна прыбірала ложак, засцілала яго посцілкай з буйнымі сінімі кветкамі. Але цяпер, калі яна толькі ўзяла падушку, з наўлечкі вывалілася жаба. Чорная, сухая, пляскатая. Гаспадыня апусцілася на ложак. Дохлая жаба. І яна спала з жабай. Цэлую ноч, а можа, і не адну... Але не, не можа такога быць, учора яна выносіла падушкі сушыць. Жаба, усё ясна... Усё проста стала на свае месцы, усё, аб чым за апошнія гады можна было толькі здагадвацца. Яна ўспомніла сваю дачку і той час, калі тая штодня плакала ў сваім пакоі, калі абвінавачвала яе ў тым, што яна, маці, ніколі не думала пра будучыню. Гаварыла, што яе «не навучылі добра апранацца, не навучылі жыць сярод людзей, што на яе глядзелі, як на рэч, гадавалі з сабакамі. Цяпер яна нялюдская, і людзі не ўспрымаюць яе». Маці адказвала з годнасцю, казала, што нікога спецыяльна не вучаць жыць сярод людзей, людзі проста жывуць — і ўсё. А адносна сабак нагадала стары англійскі афарызм: «Кожная жывёліна павінна мець свой дом, але не ў кожным доме можа быць свая жывёліна». Толькі добрыя людзі любяць і шкадуюць жывёлін, і жывёліны плацяць ім тым жа.

Потым гэтыя размовы скончыліся. Дачка ўжо дарослая, самастойная, дзесяць гадоў адпрацавала пасля ўніверсітэта, вечарамі чытае, бывае, сходзіць у кіно. І вось прычакала.

Дачка вярнулася ў гэты дзень рана, па дарозе дадому яна паспела купіць ліверкі.

— Мама!

Ніхто не адгукаўся. Можа, у садзе?

— Мама, я ліверку для сабакі прынесла!

Ціха.

Дачка разбірала торбу з прадуктамі: масла, малако, ікра мінтая, ліверка для сучкі — калі адчула, што на яе глядзяць. У дзвярах стаяла маці.

— Мама?.. Я сёння рана, бачыш — ліверку паспела купіць.

Маці ледзь прыкметна падціснула вусны і прайшла праз веранду, нічога не сказаўшы. Вакол дачкі скакала шчаслівая сучка.

Ноччу аканіцы засталіся адчыненыя, адно акно свяцілася ў доме пад старымі вербамі — акно спальні. На святло зляталіся тлустыя начныя матылі — белыя і шэрыя. Маці сядзела ў фатэлі ля акна, на каленях у яе ляжаў альбом з фотаздымкамі. За тонкім, ненадзейным шклом варушылася цемра, рыпела старое дрэва, падала паціху лісце і плёхалі аб бераг азёрныя хвалі. І здавалася, з глыбіні саду да дома набліжаўся нехта — вялікі, у высокіх чорных ботах, у штармоўцы з капюшонам... Зараз ён падыдзе, зазірне ў акно, прыцісне да шыбы бляклы твар.

Трывожна і дробна загрукатала на верандзе. Дзе сучка? Яна павінна падаць голас. Але ўсё ціха...

Ложак дачкі стаяў каля кніжнай паліцы, кнігі чорнай масай навісалі над ім. Калі доўга глядзець на іх знізу ўверх, пачынала здавацца, што паліца хіліцца, хіліцца і падае, абвальваецца на ложак. І яшчэ маці заўсёды казала, што кнігі, калі іх шмат, выпраменьваюць вельмі шкоднае для чалавека рэчыва, таму людзям нельга жыць побач з кнігамі. Мабыць, яны выпраменьваюць свінец? А можа, што-небудзь іншае? Горшае?

Напрыклад, дурныя, старыя і, самае страшнае, чужыя думкі?

Бялізна звыкла і прыемна пахла лавандаю. Дачка ўзгадала, як у школе, калі шылі фартухі, яна прынесла з дому чырвоны паркаль з дробным малюнкам — беленькімі парасончыкамі.

Тканіна пахла лавандаю, і гэты тонкі, кволы пах быў такі недарэчны ў школе, сярод чужых людзей. А цікаўнай

аднакласніцы яна сказала: «Гэта звычайная лаванда, маці заўсёды кладзе яе ў бялізну».

Сучка ў сне перабірала лапамі, чмыхала носам — ці то капала нару, ці то душыла жабу.

Маці прачнулася рана — яе пабудзіла сучка — заскочыла ў ложак, скуголіла, шкрабала лапамі па падушцы. Маці ўстала, і Капа, трохі пакруціўшыся пад нагамі, павяла да лядоўні. Маці кінула ёй кавалак ліверкі і адчыніла дзверы на двор. Было яшчэ холадна, жоўтае лісце свяцілася на цёмным тле зямлі. Ля ганка — ружовыя флёксы, свежыя і ціхія, як ранішняе паветра.

Маці стаяла пры дзвярах, глядзела на кветкі, дрэвы, сучку, якая ўжо шукала ў мокрай траве чарговую ахвяру, і думала: НІЧОГА НЕ ЗДАРЫЦЦА. Нічога кепскага ці добрага проста не можа здарыцца тут, у доме, поўным кнігамі, выцертымі дыванамі, таямнічымі люстэркамі, шафамі, прапітанымі лавандавым пахам. Дом, у якім начамі ажывалі прывідныя стварэнні, проста не мог дазволіць зменаў, не мог дазволіць і нічога, што магло б зашкодзіць гаспадыні.

*1988 год, м. Лоск Валожынскага раёна*

# ЦЕНІ

*Экскурс, напісаны былой музейнай супрацоўніцай*

Здаецца, што дні твае працякаюць скрозь пальцы, нічога не даючы і нічога не пакідаючы, а вось тут так блізка, за гэтай агароджай, жывое жыццё, жывое шчасце.

Максім Багдановіч. «Стары Крым». 1915 год

Летам 2003 года падсвядомыя сілы абудзілі ў маёй душы музейнага супрацоўніка. Вельмі дзіўнае адчуванне. Асабліва калі ўлічыць, што апошнія пяць гадоў я знаходзілася ў сферы, далёкай ад музейнага жыцця, — працавала ў грамадскай арганізацыі і па меры магчымасці спрыяла «фармаванню ў Беларусі грамадзянскай супольнасці». Калі хто не ведае, што гэта такое, то і не трэба, бо ўсё адно супольнасць гэтая яшчэ не сфармавалася... Летам 2003 года адчуванне ў мяне было вельмі дзіўнае — быццам бы нехта выцягнуў штэпсель з адной разеткі і пераключыў у другую. У выніку пераключэння ў ліпені я накіравалася па маршруце Феадосія — Стары Крым — Кактэбель — мясцінах, дзе разгортваўся курортны раман Максіма Багдановіча і было напісана тое, што цяпер называюць «інтымным дзённікам паэта».

**САМАСТОЙНАСЦЬ**

Летні адпачынак Максіма Багдановіча 1915 года меў наступствы:

1. «Паездка дала добры вынік: ён прыехаў бадзёрым і вясёлым», — так сцвярджаў бацька паэта ў «Матэрыялах да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча».

2. Падрыхтаваныя тры нарысы — «Феадосія», «Стары Крым», «Паездка ў Кактэбель», упершыню надрукаваныя ў часопісе «Рускі экскурсант» № 1–3. Нарысы змястоўныя, але не надта папулярныя. Можа, таму, што напісаныя на рускай мове і адлюстроўваюць дастаткова далёкую ад Беларусі рэальнасць — поўдзень.

3. Уласнаручна занатаваныя інтымныя падрабязнасці курортнага рамана паэта, так званы «Інтымны дзённік паэта», на рускай мове. Тэкст выклікае расчараванне ў таго, хто прачытаў, і вялікую цікавасць таго, хто ведае пра існаванне тэксту, але не чытаў. Варта адзначыць, што нарысы «Феадосія», «Стары Крым», «Паездка ў Кактэбель» адлюстроўваюць той жа самы час і прыкладна тыя ж самыя падзеі, што і дзённік. У нарысах згадваецца і адчуваецца прысутнасць жанчыны — той самай. Толькі чытаць трэба ўважліва. Уражвае, што ўсе архітэктурныя і прыродныя помнікі, убачаныя Багдановічам, захаваліся.

4. Верш «Забудется многое, Клава» на рускай мове. У апошні час набывае ўсё большую папулярнасць у сувязі з тым, што аб'ект у інтымным дзённіку і вершы адзін — Клава.

5. Партрэт Максіма Багдановіча, зроблены невядомым мастаком.

Лета 1915 года — фактычна адзіны перыяд дарослага жыцця паэта, які распісаны літаральна па днях (ёсць аналогія — дзіцячы адпачынак у Вяззі, адкуль маці амаль што кожны дзень пісала лісты бацьку, фіксуючы ўсе дробязі, дэталі і падрабязнасці побыту і асаблівасць стасункаў у сям'і і па-за ёю).

Падзеі лета 1915 года Максім Багдановіч занатоўваў уласнаручна. Ён быў дарослы 23-гадовы студэнт-юрыст. У матэрыялах да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча бацька паэта Адам Багдановіч пісаў, што Максім «у 1915 годзе ездзіў самастойна ў Крым і вельмі ўдала абраў месца для пасялення ў Старым Крыме: гэта адна з лепшых кліматычных станцыяў. І ў лістах, і ў аповедах ён вельмі хваліў кліматычныя ўмовы гэтага месца і таннае жыццё. Нават напісаў артыкул па гэтым пытанні ў «Рускі экскурсант» П. А. Крыцкага... Паездка дала добры вынік: ён прыехаў бадзёрым і вясёлым».

Звычайна калі гавораць пра Крым і Багдановіча, то адразу згадваюць пра апошнія дні і магілу ў Ялце, а Феадосію і лета, пасля якога ён быў «бадзёрым і вясёлым», забываюць. Радасць жыцця выцясняецца самотнай смерцю ў Ялце... Ці гэта павярхоўнасць, ці, наадварот, — штосьці глыбокае? Чаму не ўваходзяць Феадосія, Стары Крым і Кактэбель у

сферу нашай культуры? Ці толькі таму, што не ўведзеныя ў культурны зварот? Калісьці і Кактэбель быў месцам, вядомым толькі тым, што там збіралі сердалікі, а пасля ў рускай культуры стаў культавым месцам, бо там дом Валошына, там жыла маладая Цвятаева і г. д.

## ФЕАДОСІЯ

Па Феадосіі Максім Багдановіч гуляў, падрабязна разглядаў і занатоўваў свае ўражанні ад помнікаў і музейных экспанатаў, людзей, калі яшчэ не ведаў, што наперадзе ў мястэчку Стары Крым яго чакае летняе каханне. А ўжо нарысы «Стары Крым» і «Кактэбель» напісаныя пасля таго, як...

Калі параўноўваць нарысы «З летніх уражанняў» і так званы «Інтымны дзённік», то атрымліваецца, што мы маем два тэксты, у якіх паралельна апісваюцца (альбо, наадварот, прапускаюцца і недагаворваюцца) адны і тыя ж рэчы і з'явы.

Так атрымалася, што ў сваім жыцці Максім Багдановіч напісаў шмат — рэпартажы з залы суда, нарысы, публіцыстыка, рэцэнзіі, сацыяльныя эцюды, апавяданні — цэлы том. Тыя ж падарожныя нарысы «З летніх уражанняў» — вельмі цікавыя, але ці шмат хто з тых, хто любіць і ведае паэзію Багдановіча, чытаў яго нарысы пра Крым? Не шмат. Дзіўна, тым больш, што цяпер падарожныя нататкі вельмі модныя. Можа, непапулярнасць нарысаў звязана з тым, што напісаныя яны для спецыялізаванага выдання «Рускі экскурсант» з прагматычнай мэтай — зацікавіць патэнцыйных турыстаў пачатку мінулага стагоддзя і распавесці ім, што і дзе трэба глядзець?

Але калі напачатку нататкі мелі прыкладны характар, то для нас цяпер істотна і цікава тое, што сам Багдановіч бачыў у Феадосіі.

Можна прыехаць у Феадосію і заўважыць розныя рэчы — для кожнага Феадосія будзе свая. Можна сказаць, напрыклад: «сімпатычны маленькі гарадок, ракавінкі на пляжы» ці «тыповы савецкі горад з пяціпавярховікамі». Можна ўбачыць пяціпавярховікі, а можна глядзець на дамкі з чырвонай патрэсканай дахоўкай і паўднёвымі ўнутранымі

дворыкамі, у якіх працякала бурлівае жыццё. Ёсць яшчэ варыянт — паставіць сабе за мэту паглядзець тое, што прыцягнула ўвагу Максіма Багдановіча, тое, што ён апісаў у сваіх падарожных нарысах. І сёння мы маем магчымасць абысці ўсе мясціны, якія выклікалі захапленне ў Багдановіча ў 1915 годзе. У Феадосіі захавалася амаль усё: старыя вуліцы, якія вядуць да мора, дамкі, белыя, з гарбатай дахоўкай, музейная экспазіцыя, Генуэзская крэпасць, армянскія цэрквы XIV стагоддзя.

Можна спакойна дакрануцца да мармуровых ільвоў з адшліфаванымі спінамі, пра якіх Багдановіч напісаў так: «Ля самага ўвахода ў музей ляжаць два мармуровыя львы, грэчаскай работы і вельмі старажытнай эпохі». Львы, якія ляжалі ля ўвахода ў музей, цяпер ляжаць ва ўнутраным дворыку музея. Толькі раней музей стаяў на Мітрыдатавай гары, як Парфенон, — гэта ідэя папулярнага мастака Айвазоўскага — фундатара музея.

Будынак музея быў зруйнаваны падчас Другой сусветнай вайны, а экспанаты захаваліся, як і мармуровыя львы, якія перажылі шмат эпохаў і цывілізацыяў, перажылі Багдановіча і нас перажывуць. Гэта факт. Крым заўсёды быў закрануты цывілізацыямі і заселены людзьмі. І ў Багдановіча была падобная думка, ён разважаў, як змяняліся народы і культуры.

«І калі патрэбны «рэчавыя доказы» гэтай гістарычнай чарады, то звернемся па іх у музей». А словазлучэнне «рэчавыя доказы» яшчэ раз нагадвае нам, што Максім Багдановіч быў юрыстам па адукацыі.

Побач з ільвамі бачым грэчаскае надмагілле, калоны самыя розныя — з арабскай вяззю, грэчаскімі і армянскімі надпісамі, пліты з гербамі Генуэзскай рэспублікі. Музейная калекцыя перанесеная з Мітрыдатавай гары ў невялікі будынак на галоўнай вуліцы Феадосіі, якая вядзе да мора. Экспанаты захаваліся добра, хаця, відаць, у той час, калі музей наведаў Багдановіч, экспазіцыя была большая.

У феадасійскім музеі Максіма Багдановіча ўразіла дробная пластыка, ён занатаваў: «Дастаткова ў музеі і старажытнагрэчаскіх статуэтак, праўда, дробных, але цікавых, напрыклад, хаця б па выразнасці твараў». Яны і

дагэтуль тут — маленькія тэракотавыя статуэткі — жанчыны, дзеці, мужчыны.

Мармур і бронза ў грэкаў выяўлялі звычайна гераічныя постаці, а тэракотавыя былі бытавога характару, пры пахаваннях іх часта клалі ў магілы. Сярод статуэтак асабліва ўражвае Актор без галавы — ён зняў маску і трымае ў руцэ. Галава адкалолася і страчаная незваротна ў невядомыя часы, аднак маска ў руцэ ў безгаловай постаці выглядае вельмі выразна.

Ёсць у музеі рэчы, датычныя культураў іранамоўных качэўнікаў, сярод іх статуэткі сармацкіх багоў — з адсутнымі тварамі. Качэўнікі пакінулі на Поўдні і вялікіх каменных баб, адна з іх сустракае нас пры ўваходзе ў музей. Ёсць у экспазіцыі і дзверы з чорнага дрэва з армянскай царквы, якія ўразілі Багдановіча.

Тым, хто не выносіць музейнага паветра, можна наведаць Генуэзскую крэпасць у Феадосіі, у якой з часоў Багдановіча мала што змянілася. Хіба што шырокія муры страцілі яшчэ некалькі камянёў, але асноўны выгляд такі самы. Крэпасць зарасла дзікай геранню.

Мы агледзелі чатыры армянскія царквы, якія Багдановіч таксама бачыў. Армянскія цэрквы складзеныя з мясцовага каменю жаўтавата-брунатнага колеру, які надае ім абаяльнасць. Вельмі сціплыя, але ўражваюць старажытнасцю, годнасцю і натуральнасцю ў краявідзе на фоне мора і гор. Прычым адна з іх, крыжова-купальная, цяпер дзейнічае як руская праваслаўная, але ля ўвахода ляжаць старажытныя армянскія пліты — Хачкары, а замест Царскіх варотаў — армянскі алтар з разбой па камені. Астатнія цэрквы — маленькія прамавугольныя базілікі без купалоў. Яны стаяць замураваныя, уверсе жывуць стрыжы, якія залятаюць і вылятаюць — туды-сюды. Адна з цэркваў — Іаана Багаслова, другая — святога Стэфана. Каля аднаго з храмаў унутраны дворык з базамі калонаў.

Генуэзскія крэпасці (Феадосія, Судак) не папулярызаваліся ў Савецкім Саюзе. Я падазраю (не ведаю гэтага дакладна), што ў Савецкім Саюзе існавала субардынацыя помнікаў. Узяць хаця б Мірскі замак — таксама першакласны помнік,

але таксама не папулярызаваўся. Ці храмы Вільні. Галоўнымі былі рускія помнікі, як і гісторыя СССР была гісторыяй рускага народа, усе астатнія згадваліся ў некалькіх абзацах. Так і тут — навошта ўслаўляць Генуэзскую крэпасць, калі можа славіць, напрыклад, Пскоўскую?

Ад армянскіх цэркваў мы пайшлі да мора, бачылі затанулыя караблі — іржавы металалом, які развальваецца ў марской вадзе. Прайшлі рыбгас з адметнай назвай «Волна революции». Выйшлі да лодачных гаражоў, дзе ржавыя рэйкі сыходзяць у ваду, пакрытыя водарасцямі. Там на металёвым зэдліку сядзеў распрануты да пояса чалавек і глядзеў удалячынь. І такое ўражанне было, што сядзіць ён тут вельмі доўга. Я спытала: «Можа, у вас ёсць запальніца ці запалкі — прыпаліць?» Ён моўчкі ўстаў, пайшоў, нічога не адказаўшы, вярнуўся і вельмі ветліва даў запаліць, пры гэтым не сказаўшы ні слова. Зноў прысеў і стаў глядзець удалячынь.

Добра. Больш я не буду параўноўваць тое, што бачыў Багдановіч, і тое, што бачылі мы. Гэта трэба адчуць, як адчуваеш марское паветра і паўднёвую цеплыню. Гэта трэба пабачыць, як бачыш вялікага бліскучага на сонцы смарагдавага жука, які залятае ў закінутую келлю старажытнага армянскага манастыра ў гарах.

У каго ёсць жаданне апынуцца ў атмасферы курортнага рамана Максіма Багдановіча, можа наведаць Феадосію, Стары Крым і Кактэбель.

**ЛЕТНЯЕ КАХАННЕ**

Мы часам лёгка раздзяляем блуд (бруд) і каханне і робім памылку. Разважаем на ўзроўні штодзённай свядомасці. Вядома, лягчэй уявіць чысты раман з кузінай ці з сястрой гімназічнага сябра, чым паэта на пляжы з Клавай. Гэта першапачатковы погляд. Чысты, платанічны раман з кузінай — ідэалізацыя. Рэальнасць — курортны раман з Клавай. Але мы не мусім засмучацца, тым больш, што курортны раман Максіма Багдановіча на тле некаторых узораў сучаснай беларускай эксгібіцыяніскай прозы выглядае высокай паэзіяй.

Ва ўсе часы летніх раманаў было безліч, але кожны чалавек перажываў іх па-свойму. І асаблівасць рамана (пры ўсёй яго знешняй банальнасці) залежыць ад таго, хто з'яўляецца аб'ектам і суб'ектам. У дадзеным выпадку суб'ектам з'яўляецца Максім Багдановіч. Клава не такая значная, хаця яна таксама магла быць цікавай жанчынай, але, на жаль, мы амаль нічога пра яе не ведаем — што было да сустрэчы з Багдановічам і што было пасля. Наўрад ці даведаемся. Вядома, што Стары Крым, дзе адпачывалі Максім Багдановіч, Клава і яе сястра, быў месцам, якое наведвалі людзі, што мелі праблемы са здароўем, сухоты.

Гэта было лета 1915 года, зусім хутка пачалася эпоха зламаных лёсаў, заўчасных смерцяў, разарваных кантактаў, эміграцыяў і забытых магілаў. Наўрад ці мы даведаемся пра Клаву і прыйдзем ускласці кветкі на яе магілу. І нельга сказаць, што Максіма Багдановіча мы ведаем добра, як нельга сказаць, што магіла паэта ў Ялце — менавіта яго магіла. Але ўсё ж такі нешта мы пра Максіма Багдановіча ведаем. Канечне, калі б архіў паэта не знік падчас Другой сусветнай вайны, — ведалі б болей, прачыталі б перапіску, у тым ліку з Клавай (вядома са слоў бацькі, што такая перапіска існавала). Але мы ведаем яго паэзію, прозу, ведаем пра трагічны лёс, пра заўчасную смерць. І ў гэтым кантэксце, у кантэксце яго асобы, яго лёсу, курортны раман перарастае межы банальных раманаў. Звычайна чалавек з'язджае з курорта і ўсё забывае, але для Багдановіча было не ўсё так проста... Ён усё занатаваў, пасля расказваў пра гэтую гісторыю прыяцелям, якія ў сваю чаргу пакінулі ўспаміны і засведчылі, што летняе каханне моцна паўплывала на Багдановіча.

**ЭКСПЕРТЫ**

Чалавеку хацелася гэта запомніць, ён гэта запісаў. Чаму ён хацеў гэта запісаць, чаму ён хацеў гэта помніць? Пытанне неаднаразова абмяркоўвалася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. І кожны раз узнікалі дзве асноўныя версіі.

1. Ён занатоўваў усё, каб пасля выкарыстаць у літаратурным творы;

2. Ён пісаў гэта выключна для сябе, занатоўваў, каб захаваць усё да дробязі, нічога не забыць.

Але ўдзельнічалі ў абмеркаванні музейныя супрацоўнікі, у асноўным жанчыны. А калі пагаварыць на гэтую тэму з людзьмі, бліжэйшымі да Багдановіча па палавой прыналежнасці і па ўзросце, і па адукацыі — з 23-гадовымі юрыстамі? Я так і зрабіла. Пагаварыла з двума адначасова. Самае дзіўнае, што вынік такі самы. Адзін сказаў, што дзённік ствараўся для таго, каб у перспектыве стаць літаратурным творам. Другі сказаў, што Багдановіч рабіў запісы дзеля «кадыфікацыі» — сістэматызацыі, каб пасля самому лепш разабрацца ў тым, што з ім адбылося. Мне бліжэй версія «для сябе», дзённік як інструмент самааналізу, як форма пратэсту супраць мастацкай творчасці, супраць вымыслу і домыслаў. І ў гэтым сэнсе дзённік Максіма Багдановіча — добры прыклад, менавіта ён разбурыў пасмяротны міф пра цнатлівага юнака. Яшчэ дзённік можа стаць адмысловым сродкам помсты для звядзення рахункаў з сучаснікамі, але не тычыцца тэксту Максіма Багдановіча.

Канечне, калі ўявіць, што дзённік будзе надрукаваны, то ён атрымае шмат каментароў розных экспертаў — літаратуразнаўцаў, псіхолагаў, культуролагаў і г. д.

Дзённік будзе надрукаваны — не даводзіцца сумнявацца, калі толькі не здарыцца нешта накшталт пажару. Тэкст, напісаны летам 1915 года, будзе надрукаваны, і тых, хто прагнуў пачытаць яго, спасцігне расчараванне. Таямніца знікне. Але ён будзе надрукаваны, бо дзённік пісьменніка — асобны літаратурны жанр. Нават у тых выпадках, калі чалавек у сваіх нататках не хоча быць літаратарам, дзённік пісьменніка ўсё адно мае звышасабістую каштоўнасць. І сам пісьменнік не можа не думаць пра тое, што калі-небудзь яго дзённік трапіць да тых, хто захоча яго надрукаваць.

У свой час дзённік расчытваўся пры дапамозе крыміналістычнай экспертызы. Менавіта крыміналісты рабілі фотакопіі інтымных запісаў і іх расчытку. Але да гэтага часу дзённік расчытаны не цалкам. Не расчыталіся, напрыклад, словы, якія знаходзіліся на згінах. Запісы рабіліся на арку-

шы, які пасля перагінаўся некалькі разоў, каб займаць менш месца, каб лягчэй было схаваць. Не расчыталіся некаторыя скарачэнні (іх там шмат) і словы (запісы вяліся дробным «бісерным» почыркам). Зразумела, што цалкам дзённік расчытаны не будзе, як і тое, што перад тым, як быць надрукаваным, ён патрабуе дадатковай працы. У першую чаргу — расчыткі, варта, каб з ім папрацавалі эксперты ў тым ліку з шэрагу музейшчыкаў, якія лепей ведаюць почырк Максіма Багдановіча і, у адрозненне ад экспертаў-крыміналістаў, маюць час, зацікаўленасць і магчымасць задумацца над сэнсам і зместам таго ці іншага скарачэння.

## МУЗЕЙНЫЯ ТАЯМНІЦЫ

Агульнавядома, што «Інтымны дзённік паэта» захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску.

Там, дарэчы, шмат што захоўваецца, у тым ліку і ніжняя жаночая бялізна XIX стагоддзя, і пасцельная таксама. А яшчэ шмат лістоў і ўспамінаў, якія чакаюць свайго даследчыка.

Апошнім часам шмат папрокаў паступае ў адрас супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча — «не выдаюць для друку дзённік».

Я цалкам разумею, што рашыцца аддаць дзённік для друку цяжка. Па сутнасці, дзённік — гэта чужая таямніца, якая трапіла ў рукі менавіта табе, толькі таму, што ты працуеш у музеі.

Музейны супрацоўнік увесь час знаходзіцца сярод чужых рэчаў, таямніцаў і ўспамінаў. Усё гэта — чужое, усё належыць памерлым. Музейны супрацоўнік не толькі захоўвае ўсё гэта, ён сам у пэўным сэнсе закладнік. Нельга сказаць, што ён валодае чужымі рэчамі, таямніцамі, успамінамі, хутчэй яны валодаюць ім. У гэтым сэнсе сярод музейных супрацоўнікаў існуе шмат забабонаў, легендаў, міфаў ды іншых «перажыткаў старажытнага светаўспрымання» ў свядомасці. Напрыклад: старыя гадзіннікі (якія не ідуць) спыняюць час; не варта доўга ўглядацца ў твары на фотаздымках — там памерлыя, яны цягнуць энергію з жывых (а старыя здымкі вельмі якасныя, і асабліва выразныя

на іх вочы). Тое самае тычыцца антыкварных рэчаў, якія захоўваюць цяпло рук і пачуццяў людзей, якіх даўно няма.

Але, што ні рабі, у музеі нікуды не схаваешся ад вачэй са старых фотаздымкаў і рэчаў, якія належалі людзям, што сталі ценямі. Рэчы, якімі яны валодалі, разышліся па свеце, частка трапіла ў музей. І на службу да гэтых рэчаў запісаліся ўжо іншыя, але такія не вечныя цені — музейшчыкі.

Музеі да часу захоўваюць чужыя таямніцы. Чужыя таямніцы знаходзяцца ў вялікай колькасці ў лістах, цыдулках, дзённіках, успамінах. А яшчэ ёсць сваякі з «кола знаёмых», якія шмат ведаюць.

**СЯБРА**

9 студзеня 2004 года ў Мінску ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, на навукова-практычнай канферэнцыі «Я не самотны, я кнігу маю...» я гутарыла з Нінай Сяргееўнай Дзябольскай — пляменніцай Дзіядора Дзябольскага, гімназічнага сябра Максіма Багдановіча.

Дзіядор Дзмітрыевіч Дзябольскі быў блізкім сябрам, адным з нешматлікіх людзей, у каго Максім Багдановіч знаходзіў разуменне, і ў тым ліку таго, што тычылася яго захаплення беларускай паэзіяй. У сваю чаргу, Дзіядор Дзябольскі захапляўся індыйскай філасофіяй і астраноміяй. Яны падоўгу гаварылі пра каметы, метэарыты і зорнае неба. Дзіядор Дзябольскі быў арыштаваны ў 1948 годзе па абвінавачанні ў тым, што ён з'яўляецца членам Ордэна тампліераў пад імем Арсеній. Вядома, што Дзіядор Дзябольскі вёў дзённік, які быў знішчаны карнымі органамі. Ніна Дзябольская распавяла, што «Дзіядор Дзябольскі быў жанаты. Ён ажаніўся вельмі рана — у 1916 годзе, калі загінуў ягоны старэйшы брат Іван (знаходзячыся ў нямецкім палоне, скончыў жыццё самагубствам — перарэзаў горла лязом). Дзіядор таксама быў на вайне, амаль два гады санітарам. Калі старэйшы брат загінуў, ён ажаніўся з дзяўчынай, якая была закаханая ў Івана.

Яна выйшла замуж за Дзіядора толькі таму, што ён быў Дзябольскі. Яна яго асабліва і не кахала, хаця заставала-

ся верная яму ўсё жыццё. Яны мелі аднаго сына Івана, які нарадзіўся ў 1917 годзе».

**ВЕРАНІКА**

У трэцяй зале Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, якая мае назву «Росквіт таленту «Вянок», уважлівы наведнік абавязкова зверне ўвагу на фотаздымак маленькай дзяўчынкі ў белай сукенцы, якая стаіць на зэдліку і радасна ўсміхаецца. Пад фотаздымкам надпіс: «Вераніка Залатарова».

Далей цікаўны наведнік можа дазнацца, што Вераніка — пляменніца Дзіядора Дзябольскага.

Як вядома, Максім Багдановіч памёр у 1917 годзе. У 1948 годзе Дзіядор Дзябольскі быў рэпрэсаваны, а пасля вызвалення напісаў вельмі цікавыя ўспаміны пра свайго гімназічнага сябра — Максіма Багдановіча. У гэтых успамінах асабліва кранаюць жаночыя вобразы. Сярод іх маленькая пляменніца Дзіядора — Вераніка, якой было ўсяго два гады, калі паэт любіў гуляць з ёй і рабіць падарункі. Паводле ўспамінаў, імя менавіта гэтай маленькай дзяўчынкі дало назву славутай паэме Максіма Багдановіча «Вераніка». Як жа склаўся далейшы лёс маленькай музы?

Аповед Ніны Дзябольскай цытую даслоўна (з дыктафоннага запісу):

«Вераніка — дачка Аляксандры Дзмітрыеўны Дзябольскай і Залатарова Давіда Аляксеевіча (ён загінуў перад вайной у лагерах). Іх сумеснае жыццё было вельмі кароткім. Ён працаваў дырэктарам музея і быў камандзіраваны ў Італію, пасля гэтай італьянскай камандзіроўкі яго і забралі. Лёс Веранікі быў таксама вельмі сумны. Яна была доктарам і загінула падчас блакады Ленінграда. У яе быў сын, народжаны ад жанатага мужчыны. Сын яе падчас блакады быў дзіцём, які ведаў толькі сваё імя... Нават не імя, а хатнюю мянушку — Люсік, па-мойму. Вераніка памерла, і ён застаўся адзін у кватэры. Падчас блакады па кватэрах хадзілі людзі, шукалі тых, каму патрэбная дапамога. Яны знайшлі дзіця і мёртвую маці. Яго даставілі ў дзіцячы дом. Пасля яго

адшукаў брат Веранікі (па хатняй мянушцы, якую дзіцё паўтарала). А забраў да сябе бацька, і ён жыў у яго сям'і ў Мурманску. Мы з ім перапісваліся, бацькі заахвочвалі нас да перапіскі, гэта я цудоўна памятаю. Мне было дзесяць гадоў. Я памятаю канверты, на якіх мы дзіцячым почыркам пісалі: «Мурманск...» Ён жыў у свайго бацькі і яго жонкі, ён там выхоўваўся, а паступаць паехаў у Ленінград і паступіў... Было гарачае лета, ён пайшоў купацца і патануў. Ён нешчаслівы быў. І ў Веранікі, і ў яго — і ва ўсіх іх вельмі сумны лёс. Вераніка нарадзілася ў 1910 годзе, значыць, ёй было крыху за трыццаць, калі яна памерла. Дзе пахавалі цела — невядома».

## МІЛАЯ ЖАНЧЫНА МАРЫЯ ІВАНАЎНА

Я запыталася пра лёс яшчэ адной жанчыны, Марыі Іванаўны, якую ўзгадвае Дзіядор Дзябольскі ў сваіх успамінах пра Максіма Багдановіча. А згадка, дарэчы, вельмі цікавая. З гэтай жанчынай Максім Багдановіч сябраваў падчас працы над нізкай вершаў «Каханне і смерць», прысвечанай жанчынам, якія паміраюць, нарадзіўшы. Пры гэтым сама Марыя Іванаўна была цяжарная і яе размовы з паэтам тычыліся якраз гэтага. Ён распытваў, а яна падрабязна распавядала пра свой стан.

Ніна Сяргееўна Дзябольская сказала: «Так, так... Марыя Іванаўна — жонка старэйшага брата Уладзіміра. Яе лёс вельмі цікавы. Само яе нараджэнне было сямейнай таямніцай... І на сённяшні дзень таямніцу гэтую ведаю толькі я. Афіцыйна яна была дачкой двараніна Сапожнікава. А насамрэч — зусім іншага чалавека. Калі яе маці ўжо чакала дзіця, Сапожнікаў з ёй афіцыйна ажаніўся. Цікава, ці ведала сама Марыя Іванаўна таямніцу свайго паходжання? Яна была вельмі мілай жанчынай, сяброўкай Аляксандры Дзмітрыеўны (маці Веранікі), г. зн. сяброўкай сястры свайго будучага мужа. Марыя Іванаўна выйшла замуж дастаткова рана. Яна ўваходзіла ў кола Дзябольскіх і выйшла замуж за аднаго з іх, што, урэшце, натуральна. Яе муж Уладзімір Дзмітрыевіч быў юрыстам, Марыя Іванаўна працавала ў музеі. У яе было

пяцёра дзяцей. Але першае дзіця загінула, гэта быў сын, які нарадзіўся мёртвым. Ён быў занадта вялікі. Я Марыю Іванаўну не застала, яна памерла ў 1940 годзе».

Фотаздымкі Веранікі, Марыі Іванаўны, братоў Івана і Дзіядора Дзябольскіх і іх асабістыя рэчы можна ўбачыць у залах 3–4 Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Але не заўсёды падчас экскурсіяў на іх звяртаюць увагу наведнікаў. І гэта невыпадкова. У адным з метадычных дапаможнікаў для музейшчыкаў экскурсію параўноўваюць з айсбергам, дакладней, саму экскурсію — з той бліскучай часткай, якая знаходзіцца над вадой, а ўсё, што пад вадой, — гэта асноўная інфармацыя, якую трэба ведаць, але пажадана не выкарыстоўваць перад публікай без асаблівай патрэбы, пакуль не пачнуцца канкрэтныя пытанні. Тады дазваляецца зазірнуць у глыбіню.

**НЯЗДЗЕЙСНЕНЫЯ ЗАДУМЫ І СМЕРЦЬ**

І вось апошняя зала музея — «Няздзейсненыя задумы і смерць». Любімы паэт беларусаў Максім Багдановіч памёр ад сухотаў удалечыні ад Радзімы — у Ялце. З абставінамі смерці і месцам пахавання паэта звязаныя пэўныя таямніцы, як і з усім нядоўгім яго жыццём.

Так, існуе шэраг малавядомых фактаў, якія тычацца магілы ў Ялце. Менавіта пра гэтыя факты і хочацца нагадаць. Пахаваны паэт быў паводле праваслаўнага абраду з удзелам святара і псаломшчыка — пра гэта сведчыць знойдзеная ў 1990 годзе супрацоўніцай Ялцінскага гісторыка-літаратурнага музея З. Г. Ліціцкай метрычная кніга сабора Аляксандра Неўскага з запісам пра смерць Максіма Багдановіча.

У «Матэрыялах да біяграфіі Максіма» (1923) бацька паэта, Адам Багдановіч, пісаў так: «Памёр ён 25 (12) мая 1917 года, але я паведамленне пра гэта атрымаў на 4-ы дзень пасля яго смерці. Ён не даў гаспадыні майго адрасу, не жадаючы мяне трывожыць. Пасля яго смерці яна знайшла мой яраслаўскі адрас і тэлеграфавала па гэтым адрасе, а пакуль прыйшла тэлеграма з Яраслаўля (бацька паэта знаходзіўся

ў службовай камандзіроўцы ў Сімферопалі. — *П. К.*), быў ужо чацвёрты дзень. Я адразу на аўтамабілі накіраваўся ў Ялту. Але ён быў пахаваны.

Пахавалі яго на Ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў накірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г. зн. з боку гор. У галавах пастаўлены белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. У дзвюх сажнях па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карысан. Паведамляю як некаторую прыкмету».

Але ў той жа час бацька паэта адзначаў: «Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўцы, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў з Крыма.

Двойчы я пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды і людзям было не да чужых магілаў».

Пэўны час магілай Максіма Багдановіча ніхто асабліва не цікавіўся. А ў 1924 годзе Інбелкульт накіраваў у Ялту трох маладых паэтаў: Уладзіміра Дубоўку, Анатоля Ажгірэя і Андрэя Александровіча, якія мусілі адшукаць магілу Багдановіча, каб да 10-х угодкаў смерці ўстанавіць на ёй помнік. Працэс пошукаў апісаны У. Дубоўкам у артыкуле «На Багдановічавай магіле» («Узвышша». 1927. № 2).

Паводле ўспамінаў Уладзіміра Дубоўкі, на гарадскія ялцінскія могілкі яны трапілі 18 жніўня 1924 года: «Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню. Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным надпісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхоне. Ці варта вінаваціць іх? Гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое замілаванне да маладога

жыцця. Знаходзім магілу, пра якую казаў Я. Дыла (верагодна, магіла студэнта Карысана. — *П. Б.*). Але навокал яе таксама магілы з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумліву. У тым жа часе далі тэлеграму ў Мінск, каб прыслалі грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекта, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад’ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося шукаць нанова. Таблічка ад магілы з жалобным надпісам і негатывы фатаграфіі перададзеныя намі Інстытуту Беларускай культуры».

20-я гады мінулага стагоддзя былі эпохай атэізму, таму стары крыж на ялцінскай магіле быў знішчаны, а на ягоным месцы з’явіўся помнік з шэра-брунатнага вапняку з чырвонай зоркай, які і стаяў там да 2003 года. А ў 2003 годзе на магіле паэта быў устаноўлены новы помнік скульптараў — бацькі і сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх. Помнік, дарэчы, так сабе... І падабаецца далёка не ўсім прыхільнікам творчасці Максіма Багдановіча.

*Ліпень 2003 – травень 2004 года, Феадосія–Мінск*

# НЕШТА АДНАГО АБЕРАГАЕ, А ІНШАГА АДРАЗУ ГУБІЦЬ

*Фрагменты ўспамінаў*

Гэта фрагменты ўспамінаў, якія я запісала ад сваёй бабулі — Лідзіі Бязручкі (Саўцінай). Нарадзілася яна 25 сакавіка 1918 года ў Гомелі. Ейны бацька працаваў на чыгунцы кандуктарам.

Я запісала бабуліны ўспаміны пра даваенны Гомель. Потым была вайна, выхад з акружэння, шлях пешкі з Заходняй Украіны, турма. Бабуля не любіць згадваць пра гэта. Перад яе вачыма паўстае даваенны Гомель.

Мы жылі ў Залінейным раёне. І цяпер наш дом з чырвонай цэглы стаіць на вуліцы Ватуціна. Усе мае сёстры былі старэйшыя за мяне. Паміж усімі была вялікая розніца ў гадох. Сястра Поля старэйшая за мяне на 18 гадоў. Я была самая меншая, апошняя. А ўсе ўжо дарослыя, замуж павыходзілі.

Амаль штодзень хадзілі ў парк, мінаючы невялікія каталіцкія могілкі з вельмі старымі магіламі, прыгожымі помнікамі і скляпамі. Пасля могілкі пачалі разбураць, мы бачылі — ляжалі на ходніках косткі. Пасля косткі згрэблі, як смецце, і прыбралі. Можа, нехта і забраў парэшткі сваіх пахаваных сваякоў... Калі было каму забіраць. І цяпер, калі я думаю пра Гомель, часам згадваю гэтыя маленькія могілкі, згадваю, як косткі ляцелі на дарогу. І кожны раз узнікае непрыемнае адчуванне. Так усё добрае пра Гомель згадваецца з дзяцінства, толькі вось гэта пячэ...

**ДРАЎЛЯНЫ ЦЫРК**

Гэтае месца вызвалялі для цырка. Зрабілі падмурак проста на магілах. Будынак быў драўляны, з вялікім купалам. На гастролі прыязджалі цыркавыя трупы з іншых гарадоў —

у Гомелі сваёй не было. І амаль штогод у цырку здаралася трагедыя. То нехта з артыстаў сарвецца з трапецыі, то яшчэ што... Цыркачоў хавалі на гомельскіх могілках на Савецкай (там, дзе цяпер будуецца новы касцёл). Я нават асобныя магілы памятаю. Крыжоў тады не ставілі — збольшага «тумбачкі». Магілы былі направа ад уваходa (з боку вуліцы Кірава), там былі яшчэ лётчыкі пахаваныя — стаялі прапелеры на магілах. Шмат магілаў лётчыкаў было. Там побач пахаваная і мая маці — памерла ў вайну, і сяброўка мая Поля. Немцы для сваіх адмысловыя могілкі зрабілі — у парку злева. Італьянцаў, немцаў, усіх вайскоўцаў там хавалі.

А драўляны гомельскі цырк згарэў падчас вайны. Я не памятаю, што цяпер на гэтым месцы.

**РУЙНАВАННІ**

Да вайны Гомель прыгожы быў. Аднак савецкая ўлада ўсё нішчыла. Я дагэтуль дзіўлюся, як яны палац Паскевіча не зруйнавалі. І цэрквы такія прыгожыя былі, і каля парку вялікі касцёл — усё знеслі. Каму гэта перашкаджала? Як яшчэ парк захаваўся! Аднак і там шмат дрэваў рэдкіх загінула. І людзей шмат крыўдзілі. Не было такой інтэлігентнай сям'і, каб нехта не быў сасланы.

Тату нашага, сталага чалавека, і таго затрымалі на тры дні. Ягоных вясковых сваякоў раскулачвалі, а адзін некуды ўцёк. Тату трымалі, думалі, што ён ведае, дзе сваяк. Час быў вельмі страшны, усе баяліся. Нават Стафан наш, муж маёй старэйшай сястры Паліны. Хто ён быў? Бухгалтар. А таксама баяўся, што прыйдуць і забяруць.

Цэрквы зачынілі, разбурылі, і мая мама хадзіла ў маленькую драўляную цэркаўку на вуліцы Палескай — у нас у Залінейным раёне. Пераследавалі рэлігію, але людзі ўсё адно верылі ў Бога. Такія, як мы, камсамольцы, можа, і не, але старэйшыя людзі — верылі. Вялікдзень у нашай сям'і святкавалі. Колькі жыла мая маці — пякла булкі, у яе адмысловыя формы былі. Яйкі абавязкова фарбавалі, тата на кірмаш хадзіў па цяляціну. Нават у тыя цяжкія часы на кірмашы цяляціна была.

## СІРЭНЫ ПА ЛЕНІНУ

Маім бацькам вельмі не падабалася савецкая ўлада. Маці казала пра Леніна: «Гэта прыйшоў сатана». Так яно і было. То таго, глядзіш, выслалі, то таго.

Я памятаю дзень, калі памёр Ленін. Мне было пяць гадоў. Я выйшла на ганак адна. Хто быў дома, не памятаю. І раптам загулі сірэны. Каля нас былі паравозна-рамонтныя майстэрні — адтуль такія страшныя гудкі пайшлі. Я вельмі напалохалася, памятаю дагэтуль, як я злякалася.

## МАРКІЗ ДЭ САД

У нас дома было шмат дарэвалюцыйных кніг, яны належалі маім сёстрам. Я любіла чытаць позна ўвечары, калі бацькі ўжо спалі. Узлезу з нагамі на стол і чытаю. Страшна было, здавалася, што пад сталом нешта ёсць. Чытаю Гогаля «Вій», і страх бярэ. Гэты вялікі стол і цяпер ёсць у Гомелі. Была ў нас кніга маркіза дэ Сада. Я ўзяла яе аднойчы ў школу, хацела сяброўкам паказаць. А настаўніца заўважыла, была непрыемная гісторыя...

## СЯСТРА

У дзяцінстве мяне сястра Воля апранала — яна сама шыла, перашывала. Яшчэ яна спявала ў хоры, які ў часе вайны трапіў пад акупацыю ў Харкаве. Пасля Воля апынулася ў Амерыцы і там працавала на радыё — спявала. Там зусім іншае жыццё было. Я аднойчы павіншавала яе з 9 Траўня, а яна мяне спытала ў наступным лісце: «Ліда, з чым гэта ты мяне павіншавала?» І ўсе даваенныя здымкі, якія ёсць у нас, гэта Воля даслала з Амерыкі ўжо ў 70-я. На адвароце адной карткі: «Лідачка, не крыўдуй, што я вяртаю здымкі. Калі буду кепска сябе адчуваць, я іх усе спалю, а ў цябе ёсць дзеткі, якія будуць памятаць маму і тату».

## ТЫФУС З-ЗА СНЕЖКІ

Мая сяброўка Паліна памерла ў юнацтве — з'ела брудную снежку, калі мы коўзаліся на каньках. У парку быў каток вялікі, перад Палацам. Сяброўкі Паліна і Маруся з'елі снежкі і захварэлі на брушны тыфус. Паліна памерла, Маруся засталася жывая, перахварэла. А Паліна адзіная дачка ў бацькоў была. Яны жылі вельмі добра, багата. Ейны бацька працаваў на КВЖД. Ён з Далёкага Усходу прывозіў такія рэчы, якіх у нас ніхто не бачыў. Тады ж у продажы не было нічога. А Паліна заўсёды была прыгожа апранутая па тых часах. Давала і сяброўкам насіць свае рэчы. Добрая была. Гадзіннік у яе быў вельмі прыгожы, яна дала яго часова хлопцу. Потым Паліна памерла, а гадзіннік у яго так і застаўся. Цяпер, можа быць, і ўратавалі б яе, а тады лекаў такіх не было. Не было антыбіётыкаў. Не лячылі людзей амаль.

## САМАЛЁТ

Мы ўсе, дзяўчаты, пступалі ў медыцынскі тэхнікум, вучыцца на фельчараў. Пасля сканчэння я працавала ў порце. Былі ў Гомелі параходы, што хадзілі ў Кіеў. Вялікія, вы такіх і не бачылі, — двухпавярховыя. А пасля мяне перавялі на дэбаркадар каля парку. З гэтага дэбаркадара я аднойчы глядзела на маленькі двухмясцовы самалёт. Ён лётаў, насіўся, круціўся. Над самай маёй галавой. Я падумала: «Зараз зваліцца!» Ён раз — і на ваду зваліўся.

## «ЗНАК ПАШАНЫ»

З Пятром мы пазнаёміліся ў кіно імя Калініна. Там ён мяне заўважыў. Іхняя вайсковая частка стаяла ў Лешчанцы. Пятро ўжо тады меў ордэн «Знак пашаны», атрыманы ў 1936 годзе на вучэннях войскаў Заходняга фронту. Ордэн яму ўручаў маршал Конеў.

Тады ордэн меў вялікае значэнне, усе звярталі ўвагу. Дый сам Пятро быў відны. Пасля мы сустракаліся на танцах, у клубе імя Леніна. Потым ён пачаў заходзіць да нас дамоў.

Мама мая вельмі незадаволеная была, не прыйшоўся ён ёй да душы. А пасля я за яго замуж выйшла.

### ДАЧКА НОНА

Маленькая была. Памерла ад дызентэрыі ў часе эпідэміі. Была б большая крыху, мо і ўратавалі б. Я, яшчэ калі не замужам была, бачыла сон: з нашага дома выносяць зусім маленькую дзяўчынку ў труне: хаваюць...

### БАЯВЫ АФІЦЭР

Яму ўвесь час хацелася ваяваць. Толькі трапіць на фронт, як з ім абавязкова нешта здарыцца. На Фінскай вайне перабіла ногі: стаяў у танку, высунуўшыся з люку. Увесь экіпаж загінуў, а яго выкінула. У Фінскую вайну шмат параненых было. У Ленінградзе ўсім месца не ставала, развозілі па гарадах. Так ён трапіў у Сярдобск. Пасля 39-га іхні дывізіён стаяў у Заходняй Украіне — у замку Сапегі. Прыгожы замак. Я гуляла ў валейбол з маладымі афіцэрамі. Да нас прыходзіў праваслаўны святар, сімпатычны такі, мы сябравалі, гаварылі доўга. Вайна заспела мяне ў Гомелі. Прыехала ў Гомель — і абвясцілі: вайна. Я ўвечары села ў цягнік і паехала ва Украіну, у вайсковую часць, у медсанбат.

### АКРУЖЭННЕ

Вельмі кепска пачалася вайна — усе былі ў акружэнні. Не паспееш з аднаго акружэння выйсці, трапляеш у другое, трэцяе.

Пасля так акружылі пад Роўнам, што мы ўжо выходзілі, хто як мог. Я ішла з адной доктаркай з Чарнігава. Па дарогах рухаліся калоны немцаў, не зважалі ні на кога. Адборныя часці! Тады шмат было прыгожых мужчын — і сярод нашых, і сярод немцаў, — найлепшыя пасля загінулі, параненыя. Мы немцаў па дарозе пазбягалі, баяліся, не ведалі, што яны зоймуць усю тэрыторыю, думалі, што ўцячом ад іх. Спачатку ішлі на Кіеў, а Кіеў ужо быў акружаны, але яго не здавалі. Мы пайшлі на Гомель. Прыйшлі, а там ужо немцы таксама.

Яны вельмі хутка рухаліся: не паспееш азірнуцца, а месца ўжо занятае.

**УВАРАВІЧЫ**

Пры немцах мы не маглі жыць у Гомелі. Пятро выйшаў з акружэння пад чужым украінскім прозвішчам Яўстратчанка. У Гомелі яго кожны мог пазнаць і выдаць. Таму мы жылі ў мястэчку Уваравічы.

Там давялося і хлеб сеяць, і карову трымаць, каб неяк жыць. Пеця працаваў у тамтэйшай краме і падтрымліваў сувязь з партызанамі. Пасля быў вымушаны наогул сысці ў партызаны. А я не паспела.

**ГОМЕЛЬСКАЯ ТУРМА**

Маіх бацькоў узялі ў закладнікі, каб мяне забраць. Я не стала хавацца, прыйшла — немцы іх адпусцілі, а мяне арыштавалі і пасадзілі ў гомельскую турму. Яна была на скрыжаванні Савецкай з Рагачоўскай. Сядзела я там колькі месяцаў, пакуль не падышлі савецкія войскі. Са мной забралі дактароў — Ніну з Уваравічаў і Вольгу Стафанаўну. Яны не мелі ніякага дачынення да партызанаў. Іхнія сваякі-паліцаі палічылі, што ў іх ёсць золата, дый пасадзілі іх нізавошта, каб яго забраць. А галоўны паліцыянт ва Уваравічах пасадзіў цэлую сям'ю — мужа, жонку, дзяўчынку 18 гадоў і хлопчыка, — што хацелі, тое і рабілі.

**ПАРАШУТЫСТКА**

Да нас у камеру пасадзілі адну дзяўчынку... Яе высадзілі рускія — з парашутам. Відаць, нехта яе выдаў. У камеры яна ўвесь час маўчала, нічога пра сябе не расказвала. Доўга парашутыстку не трымалі — павялі і расстралялі. З намі яшчэ разбіраліся, марудзілі, а яе — адразу. Такая была слаўная — ціхая, бялявая...

## САВЕЦКІЯ ВОЙСКІ

Вельмі нечакана падышлі да Гомеля савецкія войскі. Пра нас забыліся, ахова разбеглася са страху. Людзі адамкнулі, выпусцілі нас, і мы разышліся па хатах. Я прыйшла дамоў, там была мама... Працаваць я вярнулася да воднікаў на дэбаркадар. Пятро пайшоў у войска. У Польшчы яго параніў снайпер — выбіў вока. Пятро быў вайсковым камендантам Магілёва, пакуль не дэмабілізавалі і не паслалі на працу ў Оршу. Жылі мы на Ленінскай каля ваенторга. Ваенторг разабралі летась, а ў гэтым годзе разбяруць і дом, дзе мы спачатку жылі. Як мне тут не падабалася!..

У нас быў аўчар шэры, узялі шчанюка ад сабакі-мінёра. Вельмі добры быў сабака. Яго скралі. Каля ваенторга заўсёды машыны вялікія вайсковыя спыняліся — вось і звезлі сабаку.

## ЛЁС

У мяне ў маладосці нічога добрага не было. Не паспееш уладкавацца, як абавязкова нешта здарыцца. Неспакойна было. Відаць, у кожнага чалавека ёсць лёс — вось так табе трэба, так табе і будзе. І гэтага не абыдзеш. Можа, ёсць людзі больш настойлівыя, з моцнай воляй, яны могуць нешта змяняць. Аднак усё адно ёсць тое, што чалавеку суджана. Чаму аднаго чалавека забіваюць, а ты побач — і жывы застаешся? Адзін падае, а другі ідзе — гэта ў адным і тым шэрагу. Каму што... Некаму дадзена, як мне, дажыць да старасці. А іншаму памерці ад гадкай хваробы маладым.

*2002 год*

# ПРА АДНУ КАБЕТУ

Удалечыні ад Радзімы шмат думаю пра адну кабету. Гэта ўспамін пра прывід.

Народжаныя морам хвалі набягаюць на скалы, каб разбіцца і знікнуць; маладыя крабы ў змроку караскаюцца на мокрыя камяні; рыбкі поўзаюць па дне. Чырвонае сонца правальваецца ў ваду, наступае цемра — самы час уявіць пахавальную працэсію: катафалк на львіных лапах з балдахінам, харугвы з гербамі і дэвізамі, чорныя штандары.

Вельмі марудна цягнецца жалобная працэсія да зацішных могілак — месца супакаення і апошняга прытулку. Баюся пахаванняў, але хочацца зірнуць на партрэт нябожчыцы. Партрэт, створаны пасля смерці. Хочацца праз срэбны туман шасцігранней цынкавай пласціны сустрэцца позіркам з пані Ядвігай.

Часта жадаеш таго, чаго няма.

Дзеля такіх жаданняў і ствараюцца трунныя партрэты.

Не хочацца сонца, не хочацца мора, не хочацца крабаў з мідыямі — паляцелі думкі на Радзіму.

Удалечыні ад дому ўяўляюцца закінутыя могілкі і пах вільготнай зямлі, срэбны туман цынкавай шасцігранней пласціны і позірк пані Ядвігі.

* * *

Яна стала гаспадыняй фальварка пасля смерці брата. Мела мужа з невядомым лёсам (усе чулі пра яго, але ніхто не бачыў).

Пасля заканчэння асабістага жыцця вярнулася дадому. Дом стаяў на гары, пад гарою — вёска. У фальварку — яна ды арандатары.

Вакол лясы.

Па ўзгорках — сосны. Абапал дарогі — клёны. Паміж клёнаў — крыж, на яго фартушкі вешалі. Бога баяліся. Каля крыжа ляжаў камень, вычасаны, каб можна было сядзець.

Можна хадзіць на шпацыр: вакол фальварка, да чыгуначнай станцыі, паглядзець на цягнікі, у нядзелю — да касцёла. Мела зашклёную шафу з кнігамі.

З крыніцы цякла вада ў сажалку. Стаў быў добры, але без рыбы. Гаспадыня не хацела гадаваць рыбу.

На панадворку раслі каштан, акацыя і бэз. Пад акном яе пакоя — арэх, які даваў мала прыплоду. Пасля моцнага марозу ў 1939-м не стала ні арэха, ні каштана.

На што спадзяваўся той, хто будаваў гэтую сядзібу, хто садзіў дрэвы? Ці ведала яна, што за ёй усе сочаць? Ці здагадвалася? Кожнаму цікава, што робіцца за фіранкамі панскага дома. Хочацца зазірнуць.

Пра гаспадыню, якая стала прывідам, можна даведацца са слоў сына арандатара: «Кабета яна была... Толькі сама, як бы гэта сказаць, «не ўладацельная». Патрэбная была ёй дапамога вялікая. Яна казала так: карміце яе і сабаку, і больш нічога ёй не трэба.

Яго звалі Рэн. Ён жыў у яе пакоі. Яна спіць на канапе, ён унізе — на кіліме. А днём у нагах у яе кладзецца і ляжыць. Як завурчыць на каго, то пані не любіць такога чалавека, якога не любіць сабака.

Яна наогул не арыентавалася, што навокал робіцца. Не ведала, што ў 1939-м пачалася вайна, што тут ужо не палякі, што была савецкая ўлада, потым нямецкая акупацыя. Яна жыла мінулым. Такі перапад памяці ў старых часта бывае. Даўняе памятаюць, а што было гадзіну таму — не. Ведала свой радавод.

Яна казала: «Як я здохну, то мой сабака памрэ». Праўда. Сабака — гэта такая жывёліна, што разумнейшая ў сто разоў за чалавека. Калі яна памірала, сабака быў у хаце. І як пачне яна стагнаць, мучыцца, надта ж сабака выў. І ўсё гэта ў хаце адной. Дзе ж дасі рады, каб слухаць! Ён не даваў ёй памерці. Узялі сабаку, вывелі, у склеп пасадзілі. І да таго ж сабака вые... А як яна памірала, мы думалі — звар'яцеў сабака.

Яна памерла пасля Новага года. Мусілі яе хаваць. Паехаў бацька да касцёла. Пытаецца ксёндз у бацькі:

— А ці праўда, што яна з сабакам жыла?

Вось так і сказаў: «З сабакам жыла». А бацька адказвае:

— Не яна з сабакам жыла, а сабака жыў у яе.

Ксёндз кажа:

— Калі яна з сабакам жыла, тады не будзем хаваць.

— Дык што яна — скаціна? Павязу і закапаю яе?

— А што рабіць?

— Скажыце вы, што рабіць, бо прывязу яе ў касцёл. Хай будзе сорамна вам!

Буду шчырай: пры ўсім маім жаданні стварыць трунны партрэт пані Ядвігі ён ніяк не атрымаецца поўным. Студзеньскай ноччу 1942 года ў халодным пакоі пацукі адгрызлі ў нябожчыцы шчаку. «Ну, што ж зробіш, — сказаў арандатар, — назад не прыклееш».

Кажуць, што яе пахавалі побач з братам.

* * *

У кавярні, перарobленай пад італьянскую, гавару з блізкім мне чалавекам, скарджуся на лёс і слухаю парады:

— Табе проста трэба адарвацца ад усяго...

— Як ты гэта ўяўляеш?

— Паглядзі, — маю ўвагу звяртаюць на сцяну. — Там плакат — марскі краявід. Вельмі празрыстая зялёная вада і скалы. — Ты хутка з’едзеш, і ўсё будзе добра.

— Калі кажуць «усё будзе добра», бывае кепска. Да таго ж я еду не ў Італію.

— Усё роўна, ты едзеш на Міжземнае мора, а там паўсюль аднолькава — вось так. — Мне зноў паказваюць на плакат.

— Вада надта зялёная.

— Там менавіта такая вада. Проста ты яшчэ не ведаеш.

— А старажытныя філосафы сцвярджалі, што падарожжы не маюць ніякага сэнсу.

— Чаму?

— Таму, што ты паўсюль возіш з сабою самога сябе.

— Дык не вязі сябе, паспрабуй узяць каго-небудзь іншага!

Вось я і ўзяла. Паспрабавала ўзяць.

*Надрукавана ў «НН» № 11/12 у 1997 годзе*

# ДВА ПІНГВІНЫ

*Імгненні вясны*

Кажуць, што ўсім «воздастся» па іх справах. І гэта абавязкова адбудзецца, калі не пры жыцці, то пасля смерці — дакладна і абавязкова. У іншым свеце добрыя людзі атрымаюць супакой, а злыя — вечныя пакуты. А як хацелася б пры гэтым жыцці, каб прыйшоў добры і справядлівы суддзя і патлумачыў кожнаму, хто што зрабіў добрага, а хто — падлюка. І каб суд гэты быў праўдзівы, і каб кожны зразумеў, хто ён ёсць на самай справе і чым займаецца. Самім так цяжка разабрацца і зразумець. Але суддзя не ідзе...

Спачатку іх было два. Было два парцалянавыя Пінгвіны. 26 лютага, на мой дзень нараджэння, іх падаравалі мне Кася з Віцем. Калі набывалі падарунак, Кася перапытала ў прадавачкі:

— Прабачце, гэта ў вас Пінгвіны?

— Не, што вы, — адказалі ёй, — гэта ў нас Пінгвіняткі.

Значыць, «Пінгвіняткі» — так і было напісана на пакавальнай скрынцы. Сядзелі парцалянавыя Пінгвіняткі ў гняздзечку на посцілцы ў краткі. Адзін быў у чырвоным шаліку. Другі без шаліка. Два Пінгвіны — набор для перцу і солі. У таго, які з чырвоным шалікам, я засыпала чырвоны перац, набыты на рынку ў Бішкеку. А ў таго, які без шаліка, засыпала соль. Паставіла на стол. Праз месяц, на Вялікдзень, Кася падарыла мне маленькае парцалянавае яйка. Фіялетавае. У яго я засыпала чорны перац і паклала ў гняздзечка да Пінгвінятак.

Дзень нараджэння ў мяне 26 лютага, а 25 лютага мне патэлефанаваў Юрчык. Яго ўсе клікалі Апалонікам, таму што галава вялікая. У 15 гадоў ён зрабіў вельмі кепскае — паўдзельнічаў у групавым згвалтаванні... І — на зону. А пасля вярнуўся, ажаніўся, развёўся і жыў з мамай Данілаўнай і дачкой Бажэнай. Жонка Юрчыка, маці Бажэны, сышла ад яго, жыла з чалавекам, які першай жонцы адрэзаў галаву і паклаў у лядоўню. Таму Бажэна жыла з татам Юрам і бабуляй Данілаўнай, а Юрчык — гэта іх прозвішча.

Юрчык хварэў на сухоты. Ён патэлефанаваў мне 25 лютага (Пінгвіны тады яшчэ сядзелі ў скрынцы ў сувенірнай краме), а я сядзела і складала спіс гасцей, запрошаных на заўтра. У тэлефоннай трубцы чуўся трэск, голас знікаў, словы разбіраліся з цяжкасцю. Ён нешта казаў, а я ці то не разумела, ці то не хацела разумець.

— Нічога не разумею, але ў цябе голас такі загадкавы? Што ты хочаш?

— Я не загадкавы, — адказаў Юрчык, — я заўтра памру.

— Ты паміраеш кожны год, колькі я цябе ведаю.

На наступны дзень я вярнулася дамоў з падараванай скрыначкай з Пінгвіняткамі і даведалася, што Юрчык памёр.

— Не хадзі туды, — папярэдзіў мяне Юрчыкаў сябра Вазелін, ён разам з ім быў на зоне для малалетак.

Калі Вазеліну было 14 гадоў, ён абрабаваў 11 кватэраў. І на ўсе грошы паехаў у Вільню, купіў канструктар — складаць самалёт.

З тых часоў ён нічога акрамя Вільні і Навасадаў — мястэчка пад Барысавам, дзе знаходзілася калонія, не бачыў.

Вазелін быў з Юрчыкам да апошняга, ставіў кропельніцы і рабіў уколы.

— Не хадзі туды, — папярэдзіў Вазелін.

Ён казаў пра развітанне з Юрчыкам і пахаванне:

— Там побач з дамавінай сядзіць Данілаўна і ўсім нешта кажа. Аднаму: «Юрась сказаў, што ты яму дол капаць будзеш». Іншаму яшчэ нейкае заданне знаходзіць, і ўсё: «Юрась сказаў».

— А ты?

— А я дол капаць буду...

Я не пайшла, перадала кветкі і так і не даведалася, якое заданне даў мне Юрчык пасля смерці. Але не думаю, што гэта важна. Бо і Вазелін хутка таксама памёр... Праз два гады. Сам сабе праткнуў нажом лёгкае і памёр ад пнеўманіі.

І перад гэтым адно з Пінгвінятак знікла — тое, якое было без шаліка. Я ў паніцы. Кажу:

— Калі адзін Пінгвін знік, гэта дрэнная прыкмета.

Вазелін мяне суцяшае:

— Ну, пэўна, забурыўся недзе. Будзеш да Вялікадня прыборку рабіць — знойдзем.

У той год прамежак паміж каталіцкім і праваслаўным Вялікаднямі быў незвычайна доўгім. Каталіцкі Вялікдзень быў зусім рана. Ляжаў яшчэ цвёрды снег. Цеплынёй і не пахла. А як магло быць інакш?

Прыбіралі і перад адным Вялікаднем, і перад другім. Толькі Пінгвіна нідзе няма. Калі б ён быў разбіты, то недзе б заставаліся аскепкі. Бо нават калі прыбраць старанна, усё роўна хоць маленькі вастранькі аскепачак застанецца. Або чырвоны перац прасыпаўся б, таксама прыкметна. Але ні Пінгвіняткі, ні слядоў яго няма. Нідзе.

На ровары каталася ўздоўж канала. Пераязджала з аднаго берага на другі па мастках з высокімі парэнчамі — супакойвалася.

На наступны дзень паехала ў Вільню. Вырашыла ўважліва глядзець вакол сябе. Таму што звычайна нічога «ва ўпор» не бачу. Затое чую шмат лішняга. Рашэнне ўважліва назіраць за тым, што адбываецца вакол, было цалкам свядомым. Самая вялікая небяспека ў гэтым сэнсе — патануць ва ўласных думках. Бо калі патонеш, то зноў перастанеш заўважаць усё вакол.

Гэтым разам мне ўдалося ўтрымацца на паверхні.

Так я заўважыла Чатыры колеры.

Першым колерам быў белы. Раніцай з акна аўтобуса ўбачыла, як па полі едзе трактар, а над ім і за ім уецца чарада вялікіх белых птушак. Іх шмат — Цемра. Белая цемра. Трактар амаль схаваўся сярод узмахаў белых крылаў, як у снежнай завеі. Белы клубок зімы на вясновым полі.

— Глядзі, — сказала я свайму сябру Віцю.

— Так, — адказаў ён, — бачу.

— Што гэта за птушкі?

— Бакланы, — адказаў Віця.

— Бакланы не жывуць у Беларусі. Гэта чайкі.

Ён паціснуў плячыма.

— Для мяне яны ўсе — бакланы. Але могуць быць і чайкамі.

— Яны ядуць чарвякоў, якіх выварочвае трактар?

— І тое, што гэты трактар сее, таксама ядуць. Могуць і жабу ўчапіць, калі падвернецца...

— Але калі гэта чайкі, то паблізу павінна быць вада.

— Значыць, тут ёсць вада.

Так мы праехалі побач з рэчкай Ашмянкай.

А ўвечары з Лондана прылятала Кася. Там яна была па запрашэнні ветэранаў з беларускіх батальёнаў, герояў бітвы пры Монтэ-Касіна, — яны захацелі паслухаць песні Касі.

Ехалі ў аэрапорт на таксі па цэнтры горада, па вузкіх вулках, на вялікай хуткасці сярод чорных ценяў ад дамоў, цені дамоў падалі на белыя сцены суседніх дамоў і стваралі ўражанне бяздонных студняў — прорваў, у якія вось-вось павінна зваліцца таксі. Зваліцца з канцамі. Знікнуць у чорнай яме без следу.

Так увечары я заўважыла чорны колер.

У аэрапорт памкнулася мноства людзей, каб сустрэць самалёт з Лондана. Самалёт ішоў на пасадку, Віця вырашыў купіць кветкі для Касі. Бо яна ягоная жонка. Віця выбраў касачы, альбо ірысы, — назва ад багіні вясёлкі Ірыды.

У кватэры з высокімі столямі і арачнымі вокнамі мы пілі віскі і гаварылі пра самалёты, пра тое, як яны падаюць.

— Ты ведаеш, як гэта — выпраўляць каханага чалавека ў пустэчу? — спыталі ў мяне.

— Не ведаю...

Апошніх колераў было два — сіні і ружовы. Па дарозе дадому.

Аўтобус выехаў з горада, і раптам злева з'явіліся два азярцы — ужо цалкам вольныя ад лёду. Вада ў іх была сіняя-сіняя. А ў небе над сіняй вадою вісела ружовае воблака.

Неба стала гаснуць, калі пад'язджалі да Ашмянаў.

У Ашмянах аўтобус стаяў 20 хвілінаў. Быў час зайсці ў касцёл Святога Арханёла Міхаіла. Высокія халодныя сцены, партрэт Яна-Паўла II, мноства свечак перад партрэтам.

А пасля Вялікадня Радаўніца...

Ёсць такая кніга на 186 старонак, завецца «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў», выдадзеная ў Гродне ў 1895 годзе, а яе аўтар Адам Ягоравіч Багдановіч, бацька Максіма Багдановіча. Што там напісана?

Я працытую: «Па поглядах беларусаў, увесну, разам з ажываннем прыроды, з абуджэннем яе ад зімовага сну, ажываюць і душы мёртвых і выходзяць з цесных дамавінаў на вольнае святло. Лічыцца, што ім патрэбная ежа і пітво, што яны ядуць і п'юць, але рэдка — тры-чатыры разы на год з іх досыць. Дзеля здавальнення гэтай патрэбы і ў знак павагі

да продкаў перыядычна наладжваюцца памінальныя сталы. «Радаўніца», або «нябожчыцкі вялікі дзень», адрозніваецца ад іншых тым, што ў гэты дзень памінальная трапеза робіцца на могілках. Што не з'ядаюць, пакідаюць на магіле, на яе ж ліюць гарэлку, калі нябожчык любіў выпіць, сыплюць тытунь, калі ён быў курэц. Пакідаюць велікоднае яйка».

Перад гэтым нябожчыцкім днём магілы павінны быць прыбранымі, з іх трэба прыбраць леташняе лісце, агароджы падфарбаваць, столікі поруч магілаў умацаваць, лавачкі таксама.

Прадаюцца кветкі неверагодных колераў і формаў. Такіх кветак і раслінаў, такіх фарбаў няма ў жывой прыродзе. Бо гэта кветкі для нябожчыкаў. Можа, жанчыны, якія вырабляюць іх, нешта ведаюць пра іншы свет і тое, што там расце, якія там колеры? І на тым свеце мы будзем гуляць па палях і лясах, дзе ўся расліннасць атрутнага колеру?

На Маскоўскіх могілках у Мінску ўсе людзі парадкавалі магілы. Бачыла жанчыну, якая вырвала крыж з зямлі, падсыпала ў ямку пясочак, пасля падняла крыж і ўсталявала на месца. Вакол неверагодная стракатасць ад незямных кветак і жывых — ужо прарослых з зямлі прымул, фіялак і канваліяў.

Могілкі нагадвалі вулей. Усюды мітусня. Гул. Супакой толькі на габрэйскай частцы могілак. Тут не было прыбранае леташняе лісцё, з яго ў самых нечаканых месцах прарасталі яркія прымулы і фіялкі. Помнікі стаялі блізка адзін да аднаго. Я разглядала адзін з іх — пліта з чырвонага граніту і надпіс: «Брату ад сясцёр». І яшчэ надпіс: «А ты, матуля, дзе ляжыш?» Мы пафарбавалі агароджу — шэрай і чорнай фарбай. Зверху шэрай, знізу чорнай. Падобна на варону. Пасадзілі прымулы, фіялкі, канваліі... Зямля была вельмі чорная і халодная. Халодная чорная зямля. Як я ні грэла рукі ў кішэнях курткі — не дапамагала.

Пасля могілак пайшлі ў офіс. І тут званок па тэлефоне.

— Ты ўяўляеш, Сыс памёр....

— Гэта сур'ёзна, ці ён так нас у госці запрашае?

— Не ведаю, — адказалі мне.

— Я патэлефаную, даведаюся.

*Вясна, год, калі памёр паэт Анатоль Сыс, Мінск*

# ДРЭВЫ, СПІЛАВАНЫЯ ЗІМОЙ

Дрэвы, спілаваныя зімой... Гэты вобраз трывожыў мяне ўвесь час, пасля таго, як я стала шмат часу праводзіць у Оршы. Каля нашага дома зімой высеклі дрэвы. Пні пакаціліся з высокага берага ў Дняпро, упалі ў ваду, там і ўмерзлі, зверху лёг лёд, схаваў свежыя зрэзы. Але дрэваў было шмат, і не ўсе яны скаціліся ў Дняпро — агромністыя заледзянелыя камлі ляглі побач з тым месцам, дзе яшчэ нядаўна раслі, дзе захаваліся пад мерзлай зямлёй іх карані.

Пра спілаваныя зімой дрэвы, як пра сімвал самоты, пісаў Франц Кафка: «Мы як спілаваныя дрэвы зімой. Здаецца, што яны проста скаціліся на снег, крыху піхнуць — і можна скрануць іх з месца. Не, скрануць іх нельга — яны моцна прымерзлі да зямлі».

Жудасны сон пра абсалютную адзіноту. Прамерзлыя мёртвыя дрэвы, для якіх не будзе вясны, але яны пра гэта яшчэ не ведаюць.

Гэтыя зацемкі прысвечаныя жыццю ў Оршы. Часткова яны друкаваліся на сайце http://www.svabodaby.net/, а часткова ў дзённіку http://kyta-kyta.livejournal.com.

**ЛЮСТЭРКА**

У краме жанчына сталага веку спрабавала прайсці праз люстэрка ў кабінцы для пераапранання. Маладая прадавачка выводзіла яе з кабіны, паказвала на дзверы і казала:

— Вам туды...

— Адкуль вы ведаеце, куды мне? — адказала жанчына і вярталася ў кабіну з люстэркам.

Там яна прыціскала далоні да люстранога шкла і казала свайму адлюстраванню:

— Ідзіце сюды, тут можна прайсці. Праходзьце, праходзьце... А то яны не даюць вам прайсці...

Адлюстраванне бязгучна варушыла вуснамі.

— Нічога не чую, — крычала жанчына свайму адлюстраванню, — тут нічога не чуваць!

## ЧАТЫРЫ БАБУЛІ

У дзевяціпавярховым доме, на адной пляцоўцы жылі чатыры бабулі.

Спачатку адна паставіла сабе лічыльнік на ваду і выхвалялася перад суседкамі сваёй беражлівасцю, пасля другая... Неўзабаве ўсе чатыры бабулі паставілі лічыльнікі.

Цяпер яны пачалі параўноўваць, у каго большая эканомія. Адна з бабуляў скеміла, што можна сэканоміць на гарачай вадзе, і пачала набіраць гарачую ваду з батарэяў. Суседка не ведала, што можна браць ваду з батарэяў, але інтуітыўна адчувала, што яе саперніца эканоміць менавіта на гэтым. Таму яна адключыла гарачую ваду, а дзецям, якія спачатку думалі, што ваду адключылі ва ўсім доме, растлумачыла, што вада ў кране ўсё роўна ржавая і мыцца ёй шкодна, асабліва калі яна гарачая. «А якой жа вадой карысна мыцца?!» — спыталі ў яе. І гэты момант стаў паваротным, бабуля зразумела, як вырвацца ў пераможцы. «Карысная тая вада, якая на вуліцы ў калонцы», — адказала яна.

Калонка захавалася ў двары, бо побач стаялі прыватныя дамы. Ваду пачалі насіць і грэць у бачку на газе (газавага лічыльніка ў кватэры пакуль не было). Потым ваду залівалі ў ванну, дзе мылася па чарзе ўся сям’я.

Але і пасля таго, як усе памыюцца, ваду не злівалі, а выкарыстоўвалі для ўнітаза — перацягваючы яе з ванны ў прыбіральню ў адмысловым маленькім вядзерцы.

У кватэры наступіла поўная і абсалютная эканомія вады. Лічыльнік нічога не налічваў. З ЖЭСу пачалі прыходзіць праверкі, але з лічыльнікам усё было ў парадку.

## ЗАГАДКА КАСЦЕЛЬНАГА КВЕТНІКА

Мы стаялі і разглядалі ставок ля касцёла Святога Язэпа ў Оршы — было цікава, у чым там растуць лотасы, і наогул, як усё зроблена. Кветнік ля касцёла — надзвычайная з’ява

ў нашым горадзе, у якім калі з’явіцца нешта прыгожае і новае, дык адразу ж б’ецца, ламаецца і выкарчоўваецца (калі гэта ў зямлі). Гэта тычыцца ўсяго: прыбіральняў, ліхтароў, пляжных «грыбкоў», лавак, агароджаў і г.д. Я спрабавала выявіць заканамернасць, быццам бы ўсё зламанае нічога не звязвае... Нічога, апрача прыгажосці і навізны.

Дык вось, кветнік каля касцёла для мяне загадка. Альбо на яго не робяць напады вандалы, альбо ксяндзы ведаюць, як вырашаць пытанне з вандаламі. Альбо там хутка ўсё аднаўляюць. Нават маленькія бутэлечкі ад настойкі баярышніку (найтаннейшы алкагольны напой — «медыцынскі каньяк») ляжаць пад плотам з іншага боку. Таму я часта хаджу глядзець на гэты цуд пасярод рэзруху.

І вось стаялі мы так і глядзелі, калі да нас падышла жанчына. Як кажуць, інтэлігентнага выгляду, я спачатку падумала, што яна накіроўваецца ў касцёл, але не, жанчына спынілася і завяла з намі размову.

— Нядоўгі час застаўся для ўсё гэтай прыгажосці...

— Чаму?

— Хутка прыедзе Лукашэнка і навядзе парадак...

— Які парадак?

— Ну, хто гэта такое дазволіў? Яны адхапілі столькі зямлі і робяць на ёй, што хочуць.

— А што тут трэба зрабіць?

— Праход да рэчкі, каб людзі хадзілі... А такая прыгажосць можа быць толькі ў цэнтры горада на плошчы, а не ў іх.

Цікава, што, адчуваючы нашу нязгоду, жанчына адстойвала сваю пазіцыю дастаткова цывілізавана — не крычала, не брыдкасловіла і нават не выказвалася ў наш адрас. Засталося ясным адно: прыгажосць можа быць у спецыяльна вызначаным дзяржавай месцы, усё астатняе — непарадак, з якім трэба змагацца.

Словаў не было. Замест адгадкі я атрымала яшчэ адну загадку...

## ВАЙНА З ДРЭВАМІ

Мы пасадзілі ў двары елачку, каб расла, каб упрыгожваць яе на зімовыя святы. Прыйшла суседка — рынычная гандлярка, паглядзела, пакрывілася і сказала, што трэба елачку тэрмінова выкапаць і выкінуць, але не патлумачыла чаму і сышла. Пасля прыйшла іншая жанчына — выкладчыца крэслення і жахнулася, убачыўшы елачку, і таксама сказала, што ад елкі трэба пазбаўляцца як мага хутчэй, бо калі елка дарасце да пэўнага ўзросту, а яе камель дасягне пэўнага дыяметру, то памірае гаспадар дома...

Усе нашыя словы пра тое, што паўсюль у Еўропе перад кожным домам растуць елкі, не дзейнічалі. Выкладчыца сцвярджала, што пра жудасныя ўласцівасці елкі ёй распавялі па БТ, што жадае яна нам толькі добрага, і кідалася на елачку.

Што гэта? Нейкі стары невытлумачальны страх перад лесам, які трэба карчаваць, каб рабіць поле, будаваць хату? Уяўленне пра тое, што лясныя дрэвы не мусяць расці надта блізка да хаты, бо гэта — небяспечна? Лес — гэта не толькі елкі, але і звяры, і злыя рабаўнікі? Здаецца, у еўрапейскіх краінах перасталі баяцца дрэваў. У Германіі старыя дрэвы маюць асаблівы догляд, у нас — знішчаюцца ўмомант. Навядзенне парадку ў беларускіх гарадах наўпрост звязанае са знішчэннем дрэваў — чым болей высеклі, тым большую навялі прыгажосць. Шмат было сказана незалежнымі СМІ пра перанос помніка Уладзіміру Караткевічу ў яго родным горадзе — былі радыёперадачы, артыкулы і сюжэт па незалежным тэлеканале «Белсат». Але ніхто не сказаў пра тыя шыкоўныя экзатычныя залатыя кусты, што раслі каля помніка і былі знішчаны бульдозерам, як толькі на іх з’явіліся кветкі (вельмі хачу верыць у тое, што адзін куст мне ўсё ж удалося ўратаваць і ён знайшоў надзейны прытулак у прыватным садзе). Нічога не было сказана і пра няшчасныя кветкі, якія загінулі пад нажом бульдозера ў тым самым Прыдняпроўскім парку — хосты, касачы, баданы, восеньскія астры, вялікія дэкаратыўныя васількі. Бо толькі ў Беларусі рэканструкцыі паркаў праводзяць з дапамогай бульдозераў, бо ў нас дагэтуль працягваюць баяцца дрэваў і раслінаў.

## «ХРЭНАЎКА»

«Хрэнаўку» робяць на расійскім спірце, але з беларускім хрэнам. Ад самаробнай «смаленскай гарэлкі», якая вырабляецца і актыўна спажываецца ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі, «хрэнаўка» адрозніваецца — гэта больш далікатны напой. Каб у хатніх умовах вырабіць «смаленскую гарэлку», трэба развесці вадой з-пад крана прывезены са Смаленска спірт, заліць у бутэльку і наклеіць этыкетку. Гэты нескладаны рэцэпт актыўна рэалізуецца на «кропках» нелегальнымі гандлярамі спіртным, такая гарэлка ў два разы таннейшая за крамную.

Тэхналогія вырабу «хрэнаўкі» больш складаная: бяруць карані хрэну, ачышчаюць, пасля пераціраюць на тарцы і засыпаюць ва ўсё той жа разбаўлены вадой спірт. Пасля «хрэнаўка» настойваецца — столькі дзён, на колькі хопіць цярпення. Пасля можна дадаць некалькі кропляў лімоннага соку...

А потым «хрэнаўку» п’юць і хваляць: «Які смак прыемны, галава не баліць!» Дбайныя гаспадыні «хрэнаўку» разліваюць па бутэльках і выстаўляюць на стол. Пра тое, што выпіў у гасцях менавіта «хрэнаўку», а не, напрыклад, «Няміраў», можна даведацца толькі пасля таго, як вып’еш, бо могуць спытаць: «Ці добра табе? Ці смачна? Самі рабілі! Гэта ж хрэнаўка!»

І вельмі добра, калі «хрэнаўка» не была зробленая на аснове «максімкі» — тэхнічнага спірту, тады ёсць шанец захаваць жыццё і здароўе.

А яшчэ лепей, калі ідзеш у госці са «сваім».

## «РЫБА ДЫ ЗАЙЦЫ ЗАВЯДУЦЬ У СТАРЦЫ»

Лёд на рэчках пачаў раставаць, але гэта не спыняе рыбакоў. Як цені забытых продкаў, блукаюць яны каля рэчак і азёраў. Зранку, і ўвечары, і ўначы, і цэлы год рыбакі — неад’емная частка беларускага краявіду.

Чаму яны ходзяць на рыбалку? Што рухае імі? Жаданне здабыць рыбу, пракарміць сям’ю? Наўрад ці... Рыбалка — гэта пошук шчасця. Якое немагчыма ў рэальным жыцці. Гэта по-

шук шанцу, які немагчымы ў сацыяльным жыцці. Рыбацкае шчасце — замена жыццёвага поспеху. Пра гэта сведчыць і беларуская народная мудрасць — «Рыба ды зайцы завядуць у старцы», у сэнсе, калі будзеш займацца толькі рыбалкай ды паляваннем, то станеш жабраком — старцам. Можна запярэчыць: самыя багатыя людзі захапляюцца рыбалкай. Гэта так...

У 1986 годзе на вялікім вадасховішчы Гастываж пад Прагай мой бацька стаў сведкам здарэння, якое яго ўразіла. Рыбакі гналі да вады чалавека, у якога падстаўкі пад вуду былі выразаныя з дрэва (ва ўсіх астатніх падстаўкі былі металёвыя — крамныя). Рыбакі крычалі: «Прэч ад вады! Зарабі спачатку грошы. Не маеш грошай купіць прылады і рэжаш дрэвы! Зарабляй! Ідзі працуй».

Вось такая сумная гісторыя пра тое, як багатыя рыбакі прагналі ад вады беднага рыбака...

Рыбацкае шчасце — гэта вялікая, незвычайная рыба, якую дагэтуль ніхто не злавіў. Рыбалка і корміць, і супакойвае, дазваляе застацца сам-насам з сабой і прыродай, адчуць сябе першым чалавекам на Зямлі — Адамам у чаканні поспеху — «сёння мне пашчасціць, нягледзячы ні на што». А калі нічога не зловіш, дык пашчасціць у наступны раз. На рыбалцы ты сам-насам са сваім шацункам ці нешацункам. На рыбалцы людзі ідуць на рызыку, часта гінуць, робяцца неабачлівымі, забываюць пра бяспеку.

Гэта пошук таямнічага і цікавага, таго, чаго няма ні ў кога, а можа здарыцца толькі з табой. У штодзённым жыцці людзі не маюць магчымасці ўвесь час займацца пошукам шацунку.

Чалавек любіць свабоду, але часам яму яе не хапае... Рыбалка дорыць адчуванне свабоды, якой амаль не засталося ў штодзённым жыцці. Паплавок на паверхні вады заварожвае, супакойвае. Ты закінуў вуду і нерухомееш у чаканні цуду — вось-вось... Ты закінуў вуду і чакаеш, хто адгукнецца, хто выйдзе з табой на сувязь — раптам гэта тваё шчасце — рыба, якую дагэтуль ніхто не лавіў. Вось яно — рыбацкае шчасце!

**БЕЛАРУСКАЯ АЎЧАРКА?**

Ёсць розныя аўчаркі — нямецкая (самая распаўсюджаная ў свеце), польская нізінная, каўказская, паўднёваруская, а таксама венгерскі ды ірландскі ваўкадавы... Гэтыя сабакі спрадвеку ахоўвалі статкі ад драпежнікаў і зладзеяў. Да аўчарак адносяцца лёгкія, хуткія, не абавязкова буйных памераў сабакі, у якіх дастаткова шырокае кола абавязкаў — трымаць статак разам, гнаць на выпас, і, канешне, ахоўваць.

А ці існуе беларуская аўчарка? Сярод прызнаных парод — не. А ў прыродзе існуе. Узгадайце! Вы іх бачылі на вуліцах беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак. Раней яны верна беглі за возам (а гэта сведчыла пра іх вернасць), калі гаспадар выязджаў па справах, а цяпер вельмі любяць бегаць следам за машынамі. Нездарма кажуць: «Бяжыць, як сабака за возам». Да канца XX стагоддзя «сабакі за возам» гарманічна існавалі ва ўсіх карцінах штодзённага беларускага жыцця. Іх можна і цяпер убачыць і ў дакументальнай хроніцы, і на сямейных фотаздымках. Гэта дастаткова моцныя сабакі, вышынёй 50 сантыметраў у холцы, крыху аблавухія (але вушы могуць і падымацца пры пэўных абставінах), хвост могуць трымаць як абаранак або на ваўчыны манер. Вострая пыса — у профіль вельмі падобная на ваўчыную. Добра развітая сістэма цягліцаў, асабліва на грудзях. Кароткая густая поўсць чапрачнага колеру (спалучэнне чорнага і рудога). Сабака можа выглядаць агрэсіўным, але большая частка брэша і не кусае людзей. Верагодна, што парода гэтая была сфармаваная ў XVI стагоддзі — у адзін час з польскай нізіннай аўчаркай. Свае прыродныя інстынкты гэты сабака цудоўна прыстасоўвае да жыцця сярод людзей — гэта адданы кампаньён і цудоўны вартаўнік.

На жаль, гэтая старажытная парода так і не была культываваная, як і ўсё беларускае: што маем — не шануем. Зараз «сабакі за возам» актыўна мяшаюцца з прадстаўнікамі іншых пародаў, якіх людзі набываюць, а пасля збываюць на вёскі, дзе яны пачынаюць весці вольны лад жыцця.

Які лёс чакае ў будучыні «сабаку за возам»? Цяжка сказаць... Польская нізінная аўчарка, напрыклад, падчас Другой сусветнай вайны была на мяжы знікнення і захавалася

толькі дзякуючы намаганням прыхільнікаў пароды. А мы? Хочацца аптымістычна спадзявацца, што «сабакі за возам» не знікнуць назаўсёды.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ідэю пра існаванне беларускай аўчаркі альбо сабакі за возам у 90-я гады выказаў Алесь Бяляцкі, які тады не быў праваабаронцам, а працаваў дырэктарам музея Максіма Багдановіча ў Мінску.

**СМАЛЕНСКІЯ ПРЫСМАКІ**

Людзі, якія жывуць на мяжы з Польшчай, па магчымасці набываюць прадукты ў Польшчы, на літоўскай мяжы — у Літве, на ўкраінскай — ва Украіне, а людзі з беларуска-расійскай мяжы, каб «затарыцца», накіроўваюцца ў Расію.

Дабірацца да Смаленска можна па чыгунцы. А лепей за ўсё на ўласнай машыне ці прыватнай маршрутцы — кіроўцы такіх маршрутак на просьбу кліентаў «падбіраюць» іх ля самага дома. Як правіла, каля сямі раніцы.

У Смаленску закупляюць цыгарэты (пераважна танную «Балканскую звязду»), каўбасу, марожаную рыбу, курыныя кумпячкі, паўфабрыкаты — шарыкі з курынага філе з сырам усярэдзіне, «рыбныя палачкі», маянэз.

А яшчэ вязуць са Смаленска розныя салодкія прысмакі — зефір у шакаладзе, цукеркі, печыва, вельмі смачныя слаёныя рагалікі са згушчонкай.

Прывезенае са Смаленска часткова спажываецца дома, часткова прадаецца.

Маршрут прыватнай маршруткі на Смаленск ідзе па трасе праз Дуброўна.

Людзі з Дуброўна возяць на рынак прадаваць мяса — свініну. Да мытні ўсе едуць сонныя, хто спіць, хто размаўляе паміж сабой, размовы ў асноўным «барыжныя» — дзе што купіў, як прадаў, што атрымаў. На расійскай мяжы кіроўца плоціць разавую страхоўку і вязе пасажыраў далей.

У Смаленску ездзяць па аптовых базах, дзе закупляюць прадукты — усё тыя ж кумпячкі, рыбу, слодыч. Потым — на Цэнтральны рынак, дзе ўсе разыходзяцца гадзіны на дзве.

У Беларусь усе вяртаюцца з поўнымі торбамі, мікрааўтобус едзе загружаны да самага верху. На адваротным шляху на мяжы можа зазірнуць у маршрутку беларускі мытнік, праверыць — ці не перабраная норма на спіртное і цыгарэты, ці не вязуць кантрабандны небяспечны для жыцця спірт «максімка». Які сэнс у такіх паездках? Гэтае пытанне я задала хатняй гаспадыні Наталлі, што рэгулярна наведвае Смаленск.

— Прадукты харчавання ў Расіі значна таннейшыя, а на аптовых базах яшчэ танней. Калі прадаць, то акупляецца ўся дарога і яшчэ на жыццё хапае. Перад святамі ездзяць, каб закупіць прадукты для сябе, бо розніца ў коштах рэальна адчуваецца. Смаленск — горад старажытны, але вельмі брудны. Гэта горад-базар... Я добра ведаю, дзе ў Смаленску якія аптовыя базы, дзе лепей браць.

— Адкуль вы ведаеце?

— Захочаш есці — даведаешся!

## БАСЕЙН У АЛЕКСАНДРЫІ

Спачатку мы ехалі па цёмнай-цёмнай дарозе сярод змрочных елак. Пасля ўбачылі ўдалечыні яркае святло, сканцэнтраванае над адным аб'ектам — быццам сярод цемры беларускіх палёў апусцілася НЛА.

Але нічога касмічнага... На ўзбочыне дарогі з'явіліся людзі, прыкметныя ў цемры, — законапаслухмяныя — усе з флікерамі.

І адразу мы ўбачылі ўказальнік «Александрыя». «Александры-ыя!» — заспяваў пад «Песняроў» адзін са спадарожнікаў — у далёкія 1980-я лідар аршанскага рок-гурта «Калыска для коткі».

«Не тое пяеш, — паправілі яго, — «Песняры» спявалі «Александры-ына» — гэта жаночае імя, а Александрыя — родная вёска Лукашэнкі». Вось і прыехалі.

Тое, што здалёк здавалася касмічнай талеркай, зблізу аказалася спартовым цэнтрам, пабудаваным у вёсцы на асабісты загад Лукашэнкі. Комплекс складаецца з аквапарку, вялізнай спартовай ды трэнажорнай залаў.

Вакол спарткомплекса шмат машынаў. Увечары сюды з'язджаюцца людзі з навакольных гарадоў — Копысі, Шклова, Барані і Оршы. У гэтых гарадах няма аквапаркаў і нават няма басейнаў з разавым наведваннем — калі можна не набываць абанемент, а проста, заплаціўшы грошы, паплаваць у сваё задавальненне. Там басейны знаходзяцца, галоўным чынам, на розных прадпрыемствах, і трапіць туды можна толькі праз заводскую прахадную, папярэдне набыўшы абанемент. А прыхільнікаў здаровага ладу жыцця ў гэтых гарадах хапае. Таму аквапарк у Александрыі не пустуе. Днём яго наведваюць дзеці з вёсак, а таксама возяць сюды арганізавана і дарослых вясковых жыхароў, а пасля 18.00 — вольнае наведванне па запісу.

Пры ўваходзе нас сустрэлі ветлівыя жанчыны ў белых блузках і чорных нагавіцах, патлумачылі, што тэлефоны (папярэдне адключыўшы) мы можам пакінуць у гардэробе: «Не хвалюйцеся, у нас тут нічога не знікае».

У гардэробе мы пераабуліся, далей пайшлі ў тапках — гэта тут абавязкова — тапкі і шапкі гумовыя. Усё паўсюль цёплае, чыстае і прыемнае — новенькае. Тут ёсць басейн на 25 метраў, саўна і джакузі і асобны басейн для маленькіх дзетак. І ўсё аформлена ў антычным стылі — калоны, порцікі, блакітная і сіняя мазаіка, лавы ўздоўж басейна з падагрэвам.

Людзей шмат. Басейн поўны. Жанчыны ў прыгожых купальніках, рознакаляровых тапках і шапках. Тут можна і людзей паглядзець, і сябе паказаць — свецкае жыццё ідзе поўным ходам. Вось з мужчынскай распранальні выйшаў вусаты здаровы мужчына ў чорных плаўках — радасна ўсміхнуўся і даў нырца.

## ЦАЦАЧНАЯ ПЛІТА

Зусім нечакана я знайшла на вуліцы вельмі старую цацку — гэта была мініяцюрная кухонная пліта, якую можна па-сапраўднаму запальваць.

Пасля вайны палонныя немцы выраблялі такія рэчы ў Балбасаве, а можа і не толькі там... Балбасава — гэта мястэчка з вайсковым аэрадромам, адкуль у 80-я выляталі сама-

лёты на Афганістан, там служыў генерал Джахар Дудаеў... Маленькая ржавая плітка ляжала пасярод вуліцы, на якой нядаўна — вясной — знеслі старыя дамы. Старыя дамы зносяць, з іх сыходзяць рэчы са сваімі таямніцамі. Прайшоў дождж і вымыў цацку з кучы друзу. Унутры пліты ляжалі трэскі — дровы, і надзіва сухія. Пасля вайны дзяўчаты вучыліся ў такіх плітках распальваць агонь. Я распавяла маці пра сваю знаходку.

Вельмі дзіўна — дзецям звычайна не дазваляюць гуляць з запалкамі.

Гэта забароненыя гульні. З цягам часу ўяўленні пра тое, як і чым могуць альбо не могуць гуляць дзеці, мяняліся. Так адказала маці.

Дзіўна, я пра гэта не думала. Калі я была маленькая, захоўвалася яшчэ старая мода, каб дзеці мелі лялечныя куткі. Дзецям дазвалялі ў куце, за ложкам ці яшчэ чым-небудзь, рабіць на падлозе лялечныя куткі.

Лялечная мэбля, лялечны посуд. Але мне не было гэта цікава. Улюбёнай забавай былі люстэрка і сподак з вадой. З дапамогай гэтых прадметаў мы з сяброўкай спрабавалі зазірнуць у будучае. У лазні, накрыўшыся коўдрай і запаліўшы свечку, мы ўзіраліся ў люстэрка і бачылі там штосьці цьмянае і загадкавае — сваю будучыню. А каб сапраўды ўбачылі — не паверылі б. Напрыклад, ці магла мая сяброўка ўбачыць там сваё ранняе замужжа і ад’езд ва Узбекістан, а пасля вяртанне на радзіму з дачкой?

Ці маглі мы там пабачыць незалежнасць Беларусі, а пасля і людзей, якія ўплываюць на лёс краіны? Каб убачылі, то, відаць, ляцелі б з той лазні... куды-небудзь гуляць у іншыя гульні... А цацачную пліту я забрала з вуліцы, прынесла і паставіла ў той самай лазні. Бо будучыня заўсёды цьмяная, а мінулага шкада.

*2007–2009 гады, Орша*

# НА БЕРАЗЕ

— Эй, ты, там! На тым беразе! Дура! Прастытутка!

Хлопчык маленькі гайдаецца на вярбе і крычыць як толькі можа гучна:

— Ты, там! Дура! Прастытутка!

На тым беразе гуляюць жанчына з дзяўчынкай. На каго крычыць малы — незразумела. Можа, на адну з іх, можа, — на абедзвюх, а можа, — і на ўсіх жанчын, якіх спаткае ў жыцці. Гэта так проста і прыемна крычаць:

— Дура! Прастытутка!

Ён у захапленні — яго не дастануць, ён на іншым беразе, яго наогул наўрад ці чуюць, а калі і чуюць, то не звяртаюць увагі. Ды хіба жанчына з дзяўчынкай могуць падумаць, што іх тычацца тыя словы, якія маленькі хлопчык у захапленні выкрыквае з іншага берага.

І відаць, што слова «прастытутка» здаецца яму самым абразлівым з усіх словаў:

— Прастытутка!

Вельмі абразліва.

* * *

На тым беразе гарыць трава. Красавік. Нехта падпаліў сухую траву, і высокі бераг зрабіўся вогненным. Пахне дымам. Ад ракі цягне вільгаццю, у вадзе плаваюць вадзяныя пацукі — іх жыццё можна назіраць, калі сядзіш над вадой ціха і не варушышся. Хутка кладзецца змрок, а з ім з’яўляецца і холад. Шугае полымя ў цемры... злізвае сухую траву з таго берага, пакідае за сабой адно — чорную зямлю. Не бачна ў цемры вадзяных пацукоў. Трэба ісці дадому. І тут з’яўляюцца галасы. Маладыя. Гавораць між сабою людзі, нябачныя ў цемры.

— Цікава, а што, калі б тады яна засталася жывая? — сказаў адзін.

— Не засталася б... Я сам ледзь выбраўся, — адказаў яму другі, таксама нябачны.

— Але калі б тады даведаліся... Цябе пасадзілі б...

— Не пасадзілі б... У дзевяць гадоў не садзяць...

— Ой, ну што вы, давайце пра што-небудзь іншае, — гэта ўжо жаночы голас.

— Пасадзілі б, пасадзілі... Забралі б у спецыяльную школу для «малалетак».

— За што? Я сам мог загінуць, яна ўчапілася мне за ногі і не адпускала, а лёд крышыўся... У мяне ўжо не было сілаў.

— І таму ты адбіваўся ад яе нагамі...

— Гэта быў няшчасны выпадак... Мне было дзевяць гадоў...

— Хлопцы, супакойцеся, а то я зараз пайду дахаты.

— Няшчасны... Толькі ніхто так і не даведаўся, што тут было... Інакш бы ты сеў.

— А я і так сеў....

— Сеў... Толькі не за гэта...

— А якая розніца?

— Але калі б тады даведаліся, што мы...

— Усё, хопіць, — сказала дзяўчына. — Яе даўно няма, а мы ёсць.

Тры чалавекі схіліліся над кволым агеньчыкам, які трапятаў ля самай зямлі і ніяк не хацеў разгарацца. Яны спрабавалі распаліць вогнішча. І быў з імі яшчэ адзін чалавек — маленькае дзіцё ў вазочку. Яно маўчала ўвесь гэты час і раптам заплакала... Прачнулася...

Дзесяць гадоў таму ў гэтым месцы ўзімку ўтапілася дзяўчынка. Разам з санкамі. Тады ўсе здзіўляліся, як і чаму яна пайшла на другі бераг адна.

* * *

Беларуская мова таямнічая, як падзеі ў кнігах пра старыя дамы і прывіды, як люстэрка ў спальні... Мова прывідаў...

Заўсёды хацелася напісаць такое апавяданне... Ноч. Чалавек спіць, але вельмі трывожна. Уначы ён чуе розныя гукі: то незразумелыя крыкі на рацэ, то вецер у дрэвах, то катоў на гарышчы, то быццам бы нехта ходзіць, рухаецца

ў цемры, то начныя матылькі б'юцца ў акно. І так неспакойна спіцца гэтаму чалавеку, так часта ён прачынаецца... І адчувае: навокал усё варушыцца, жыве сваім жыццём, а ён чуе адно — водгулле таго начнога жыцця — цені на сцяне ды начныя крокі. А дом, у якім спіць чалавек, стаіць на беразе ракі. Зранку чалавек прачынаецца, выходзіць на бераг, заходзіць у ваду і плыве на той бераг. Жоўты пясок на дне, вада — халодная пасля ночы, хвалі пасярэдзіне ракі перашкаджаюць плыць. Ён пераплывае раку, выходзіць на бераг... І вось тут... Край. Тут усё абрывалася. Я не ведала, абсалютна не ведала, што будзе далей. У адным варыянце ён знаходзіў пячору з выявай змяі, а перад выявай — слоік з засохлымі палявымі кветкамі. У іншым варыянце ён сустракаў сімпатычнага звярка, які гаварыў чалавечай мовай і пачынаў з ім сябраваць — ішоў поруч і размаўляў. У яшчэ адным варыянце — нічога не знаходзіў, нікога не сустракаў і вяртаўся ў свой дом на беразе ракі... Але такое апавяданне не было напісанае, бо незразумела, як яго пісаць.

На беразе Дняпра ёсць вялікія камяні. Розныя. Ёсць ахвярны камень. У ім пасярэдзіне выбітая адтуліна для крыві, як рана, як парэз у камені. Вясною, восенню і нават летам у самае гарачае надвор'е ў ім стаіць вада. Узімку вада замярзае, камень пакрываецца ледзянымі карункамі. Побач з каменем — крыніца. Летам яе хаваюць хмызы, і толькі той, хто ведае, дзе яна, можа напіцца з яе. А ўзімку крыніца навідавоку — у ёй можна бачыць самыя дробныя каменьчыкі на дне, нібыта вады і няма.

* * *

На беразе ёсць чорны камень і ёсць белы. Летнім днём сонца награвае белы камень, але ўначы белы камень хутка астывае і робіцца зусім халодным. А чорны камень і ноччу цёплы. Калі прыйдзеш пагаварыць — каля белага каменя абавязкова сарвешся, пасварышся, паскандаліш. На чорным камені зусім не хочацца сварыцца. На ім добра сядзець і спакойна гаварыць пра тое, чаго ніколі не было і не будзе. Апоўначы вакол чорнага каменя збіраецца туман.

І вось маленькі кудлаты сабачка, які ціха побач са мною сядзеў на камені, пачаў гырчэць у цемру і дрыжаць. З туману з'явіўся хлопец з перавязанай рукой.

— Вы не бачылі тут хлопца з дзяўчынай?

— Не...

— Дайце прыпаліць. Вы не падумайце, у мяне былі свае цыгарэты. Але я тут... адышоўся, і знікла ўсё — сябар, дзяўчына, а цыгарэты і яшчэ нешта маё ў іх засталося.

— Усё, не шукай ты нічога — звёў сябар дзяўчыну, выпалілі яны твае цыгарэты і выпілі тваю гарэлку. І яшчэ нешта зрабілі... Ці яшчэ зробяць... А што ў цябе з рукой?

— Парэзаў на працы.

— А кім ты працуеш?

— Уцілізатарам...

— А што вы утылізуеце?

Хлопец паглядзеў на сабачку, які сядзеў на камені, і сказаў:

— Вось калі памрэ ваш сабачка, вы яго да нас прыносьце, а мы вам замест яго мех касцявой мукі выдадзім.

* * *

І яшчэ хацелася б стварыць кліп песні на словы Максіма Багдановіча: «За дахамі места памеркла нябёс пазалота». Сучасны хлопец, сучасна апрануты (да 25 гадоў) адключае інтэрнэт на сваім камп'ютары ў звычайным пакоі. На экране камп'ютара — застаўка: начны матылёк — бражнік «мёртвая галава». Хлопец устае з-за камп'ютара, ідзе на кухню, глядзіць у акно. За акном Мінск. Шматпавярховыя дамы, траса Мінск–Масква. Раптам за акном з'яўляецца рой матылёў, яны трапечуцца і зацягваюць юнака, як вір. І ён апынаецца ў пакоі пачатку стагоддзя ў прастытуткі. Ён ужо апрануты інакш — на ім форменны кіцель ліцэіста. Побач жанчына. Ён выходзіць на лесвіцу. Па дарозе сустракае наступнага кліента, яны робяць выгляд, што не звяртаюць увагі адзін на аднаго, праходзяць побач быццам невідушчыя. А можа... Адзін з іх сапраўды не бачыць. Недзе наверсе зноў адчыняюцца і з грукатам зачыняюцца дзверы... Юнак

выходзіць на вулкі Вільні. Начны праход пад Вострай брамай, паварот да абраза, але ён зачынены на ноч... Вадасцёкі па баках вуліцы блішчаць пад ліхтарамі. Ён трапляе на зусім цёмную вуліцу, глухую, ліхтары свецяць здалёк. Мост... вада пад мостам. Начныя краявіды Вільні. І вось з'яўляецца барочная скульптура з касцёла Пятра і Паўла ў Вільні — вялікая белая смерць б'е ў барабан, і эфект такі, быццам бы адна з палачак у яе кранаецца з месца. Зноў з'яўляецца рой матылёў. Гасне экран камп'ютара...

* * *

Восень. Ужо не жоўтыя, а шэрыя лісты чапляюцца да абутку, наліпаюць і цягнуцца ў дом. Мышы таксама ідуць у дом, таму патэльні на пліце трэба пераварочваць дагары дном, каб мышы не поўзалі. Мышы ўладкоўваюцца ў доме, рыхтуюць сабе гнёзды. Падаюць ноччу з шафаў плюшавымі шэрымі камякамі і пішчаць. І неўзабаве лёд пакрые раку, і праз яе ляжа дарога — можна будзе пешкам хадзіць на той бераг.

*9 снежня 2007 года, Вільня*

# ЧАЛАВЕК-ЖАНЧЫНА

Як прыгожа назваць сяброўку, але каб вызначыць ступень сяброўства — не самая блізкая сяброўка?

Прыяцелька? Знаёмая? Каляжанка? Таварышка? Знаёміца?

Такіх называюць менавіта прыяцелькамі, але часам яны крыўдуюць — гавораць пра гэта. Паплечніца...

Канструкцыя «адна з сябровак», як мне падаецца, адэкватна адлюстроўвала б стан «не самая блізкая».

Вось я і буду казаць «адна з сябровак».

Адна сябровак на днях напісала пра сябе, што з «чалавека-жанчыны» яна ператвараецца ў «чалавека — выканальніка працы», «і гэта становіцца маім жыццём» — піша яна.

Я спытала:

— Дзе ты такое знайшла — «чалавек-жанчына»? Сама прыдумала?

— Сама... — і смайлік: сонейка ўсміхаецца.

Проста неверагодна, я кажу:

— Афармі аўтарскае вынаходніцтва!

А яна:

— Дзялюся!

## КУПАЛЬСКАЕ ПАВЕТРА

Дзея адбываецца на беразе Дняпра ў Оршы, дзе паганскае капішча. Апошнім часам у прэсе яго ўсё часцей называюць «беларускім стоўнхеджам». Там ёсць каляндар каменны, ахвярны камень і крыніца.

І да гэта часу там праводзіцца Купалле.

На Купалле сустракаюцца мясцовыя людзі і прыезджыя «нацыяналісты» з Мінска ды іншых гарадоў Беларусі.

І вось пачынаецца вячэра з бальзамам «Чорны рыцар». Побач апынаюцца малады хлопчык-нацыяналіст у вышыванай кашулі і Наташа — мясцовая жанчына за трыццаць, вельмі прыгожая — яе бабуля была грачанка, якая прые-

хала ў Оршу з Афона па вялікаму каханню. Таму твар у Наташы нетутэйшы, незвычайны, як з камеі, фігура — як у антычнай статуі.

Наташа выпівае, звяртае ўвагу на прыгожага бландзіна ў вышыванай кашулі і робіць яму камплімент:

— Вот, типично русская внешность.

У хлопца ажно мову адняло.

— Не руская, а беларуская... беларуская, гэта нацыяналіст беларускі, — стала падказваць сяброўка, і адначасова заступілася за дзяўчыну:

— Наташа памылілася, яна не хацела пакрыўдзіць.

— А... ну, я хотела сказать славянская, то есть белорусская, да, типично белоруская внешность, — загаварыла Наташа.

— Для Наташы слова «нацыяналіст», напэўна, мацернае... — сказаў хлопец.

Пасля выпілі за паразуменне і пайшлі голымі купацца ў Днепр. Хуткая плынь падхапіла і пацягнула Наташу.

— Я тону, тону, — закрычала яна.

Нацыяналіст паспеў схапіць яе за руку:

— Паветра набірай, паветра.

— Я не понимаю, что такое паветра, я тону! Говори по-русски!

— Не буду гаварыць па-руску! Паветра набірай!

А месца рэальна незвычайнае. Месца, дзе цэлы год нічога не адбываецца — ляжыць камень, цячэ рака... і ўсё. Але калі трапляеш туды, адчуваеш сябе ў змененым свеце.

**СЛІМАК**

Атрымала ліст са Швецыі, ад сяброўкі, якая раней жыла ў Калінінградзе, а пасля выйшла там замуж за шведа і нарадзіла дзіця. Яна піша пра дачку: «Паказвала Санне слімака на дзвярах... Высуне рожкі, я паднясу палец — хавае. Глядзі, Санна, у слімака хатка на спіне. Дзіця ў трансе — павага да формы жыцця, я ўся такая педагагічная. І тут Санна гаворыць — глядзі, яна... какае! Слімак!!! І сапраўды, наш слімак утварыў кучку, якой заганарылася б і больш буйная форма жыцця. Відаць, моцна мы яго дасталі».

## КАМЕНТАР

У мяне ёсць жывы дзённік. http://kyta-kyta.livejournal.com/. Неяк увечары я пагуляла па беразе, усё мне там спадабалася, прыйшла дамоў і зрабіла запіс: «Я ішла па начной сцежцы ўздоўж ракі, побач са мной бег кот. А ў небе свяціла белая поўня».

Назаўтра паглядзела, а там каментар:

Anonymous напісаў: Aug. 5th, 2009 08:40 am: «І што ж тут каментаваць — ідыятызм нейкі...»

## ПРЫЙШОЎ ІЛЛЯ

У Оршы на пляжы пачапілі абвестку «Купаться запрещено с 20.07.09. Штраф от 1 до 3 базовых величин».

Падыходзяць хлопцы, чытаюць. Меншы пытаецца?

— А што было 20 ліпеня?

Большы адказвае:

— Прыйшоў Ілля.

— Ілля прыйшоў і патануў? Таму тут нельга купацца?

— Не, Ілля пусціў лёду...

— Пусціў лёду? І патануў?

— Вось паглядзі, — тлумачыць большы, — вада быццам бы цёплая. Нырнеш — там лёд.

— Які лёд?

— Халодная вада...

— Дык так заўсёды бывае.

— Не, толькі пасля Іллі.

— Пасля таго, як Ілля патануў?

## МУЖАГОН

Прыйшла да сяброўкі Ленкі. Яна жыве ў прыватным доме, таму я зайшла сама — мне ніхто не адчыняў. Убачыла сяброўку, яна сядзела ў зале і засяроджана разглядала расліну — манстэру.

— Кажуць, гэта мужагон, — звярнулася яна да мяне. — Мужыкоў з хаты выганяе.

— Не, не мужагон, гэта манстэра, мужагон — гэта ліяна.

— Ай, усё роўна, я цяпер не магу на яго глядзець. Можа, усё праз яго. Мне ж яго некалі немец з Германіі прывёз. Каму б падсунуць?

Я сказала, што расліна дастаткова модная і дарагая, можна і прадаць.

— Каму я яшчэ не сказала, што гэта мужагон? — задумалася сяброўка.

Праз некалькі дзён яна патэлефанавала мне.

— Сонейка, маё, у мяне тут ёсць такая расліна... Можа, табе трэба?

— Мужагон?

Паўза.

— Адкуль ты ведаеш?

Манстэру я забрала. Дакладней, Ленка сама завезла мне яе на машыне.

Пасля гэтага Ленка сказала:

— Ты сапраўдная сяброўка. Ведаеш, што мужагон, і ўсё адно бярэш.

**ЖАБА**

Наташа (гл. *«Купальскае паветра»*) патэлефанавала з польскай мяжы (яна чарговы раз з'язджае з Беларусі назаўсёды ў Германію) і сказала:

— Я ведаю, чаго не хапае ў тваёй сажалцы...

— Чаго?

— Качкі (у сэнсе птушкі).

— Навошта, там жа лілеі, балотныя касачы, стрэлаліст, куды яе, яна ж вялікая?..

— Дык не жывую.

— А якую?

— Пластмасавую, яна прадаецца ў краме, дзе кветкі. Каштуе 28 тысячаў. Купі абавязкова.

— Не, такое я ў сваю сажалку не хачу.

— Чаму? Так прыгожа будзе. Яе там не хапае.

— Не хачу.

— Ну, жабу пластмасавую купі...

— Там у мяне жывыя жабы.

У голасе сяброўкі гучала крыўда. Так мы і перагаворваліся, аж пакуль не знікла сувязь. Наташа пераехала на тэрыторыю Еўразвязу.

## ЯЗМІН

Увесну Наташа з букетам язміну ў руках і дачкой Мэгі ішла па Оршы.

У раёне старога аўтавакзала да іх падышоў чарнявы хлопец:

— А где тут наши кафе открыли?

— А «нашы» — гэта хто?

— Ну... азербайджанцы.

## РАМАНТЫЧНАЯ ВЯЧЭРА

У Наташы быў муж грузін. Таму ўсе сяброўкі называлі Наташу Грузінкай — каб адрозніваць ад усіх астатніх Наташ.

Аднойчы Наташа паехала ў Германію ў госці да сяброўкі. Там ёй вельмі спадабаліся вячэры пры свечках. Наташа купіла прыгожых свечак і вярнулася ў Оршу. Вырашыла зрабіць сюрпрыз грузіну. Прыгатавала смачную вячэру, дастала з лядоўні пляшку гарэлкі. Пакуль грузін мыўся, яна паставіла стравы на стол, патушыла святло і запаліла свечкі.

З лазенкі выходзіць грузін, перавязаны па пояс ручніком, і ў жаху нерухомее на парозе кухні. Пытаецца: што гэта так? Наташа робіць прыгожы жэст рукой і запрашае яго за стол.

— Што гэта? — яшчэ раз пытаецца грузін, і агрэсія нарастае.

— Свечкі, рамантычная вячэра... А што?

Грузін:

— У нас дома дзесяць гадоў святла не было...

## «БЫВШИЙ БЕЛАРУС»

У ліпені ў Оршы на пляжы з'явіўся джып з расійскімі нумарамі. У джыпа быў прычэп, на прычэпе быў катар. З джыпа выскачылі два хлопцы, пачалі адчапляць катар. Пасля з джыпа выйшаў мужчына. На ім былі акуляры ў за-

латой аправе, залаты ланцуг на шыі, пярсцёнкі. На ім былі ружова-фіялетавыя трусы-шорты з пальмамі і стракатая майка. Катар паставілі на ваду. Чалавек улез у катар і зрабіў некалькі заездаў па Дняпры насупраць пляжа.

— Хто гэта? — спытала я.

— Ясно кто, — адказала Наташа, — бывший белорус.

— А чаму ён катаецца на сваім катары тут?

— Наверное, его тут когда-то обидели.

**ВЫРАТАВАЛЬНІЦА**

Бачыла, як плынь ракі цягнула п'янага. Выратавальнікі хацелі яго ратаваць, а ён пасылаў іх на ўсе літары... Выратавальнікі на маторцы ад'язджалі, кідалі п'янага ў вадзе. А цётка на беразе абуралася, крычала, што трэба ратаваць. Высокая пасля дажджоў вада ўсё цягнула п'янага, далей і далей, аж пад самы мост. На трэці раз яго ўсё ж выцягнулі. А на беразе пад ліпамі выратаванага чакаў прыгожы аўтобус чырвонага колеру з надпісам «спецмедтэхніка» — з выцвярэзніка.

*2010 год*

# ЗДРАДА ЦЕЛА

Глядзець на птушак — шпакоў, сініц — і распавядаць пра сваё жыццё.

Сталая жанчына распавядае маладой. Дваццаць гадоў таму я марыла напісаць кнігу, у якой старая жанчына распавядала пра сваё жыццё маладой. Я ў сваім уяўленні была маладой, а старая жанчына распавядала мне пра сябе. Час прайшоў, і змяніліся ролі — цяпер я гляджу на птушак і распавядаю пра сябе Віёле — яна маладая.

Свабода — гэта калі ніхто не дурыць табе галаву. Адзінота — шлях да свабоды.

...Пад самымі вокнамі дома з'явілася магілка, выкладзеная па баках каменьчыкамі, з крыжам, зробленым з дзвюх галінак, перавязаных дротам. Нехта пахаваў коціка ці сабачку...

У цемры — увечары і ноччу — чуецца шоргат: гэта плывуць крыгі па ледзяной вадзе, ад ночы да ночы яны робяцца больш моцнымі і вялікімі — чапляюцца адна за адну — і начны шоргат узмацняецца

Крыг на Дняпры ўсё больш, яны вялікія і плывуць запаволена.

Яшчэ адна халодная ноч — і рака замерзне.

Чорныя вароны на снезе. Адчуванне, што новы год будзе нядобрым

Усе такія ўважлівыя адзін да аднаго ў першыя дні года, як па тонкім лёдзе, ніхто не хоча крыўдзіць нікога. Усё спадзяюцца на лепшы год. Можа, наша душэўная раўнавага дапаможа, каб ён быў сапраўды лепшым.

А ў Вільні ўсё ж цяплей.

Ішла зранку, спяшалася на сустрэчу, упала ў лужыну.

Змрочна так на вуліцы, цёмна. Ледзяное пекла. Як дажыць да вясны?

У цемры паслізнулася на лёдзе і ўпала з вышыні свайго росту спінай і галавой аб лёд. Так і ляжала — думала: не ўстаць.

Лёд крышыцца пад нагамі, як цукар, сцякае ручаінамі ўздоўж дарог — у ліўнёўкі.

Прадчуваю, як пойдзе лёд на Дняпры.

Адчуванне блізкіх зменаў ёсць: раней такога не было, але адчуванне нейкае — як на змену надвор'я, патлумачыць не магу, але яно ёсць, вісіць у паветры.

Можа, у гэтым годзе будзем назіраць сапраўдны крыгаход.

Мне сніўся іншасвет. І так ясна — быццам бы ў кіно — па кадрах. Спачатку сябра, які памёр. Ён сядзеў на белай мармуровай лаўцы, лаўка гэтая стаяла на вуліцы Леніна ў Мінску каля дома, дзе музей Броўкі. Пасля ён устаў, узяў мяне за руку. Рука ў яго была вельмі гарачая. І ў той жа момант проста на скрыжаванні ў асфальце ўзнік правал, мы спусціліся туды. Там было цёпла, але падаў снег. Вялікімі сняжынкамі. Снег таксама быў цёплы. І там быў шкляны купал — надбудова над яшчэ большым правалам. І былі дзверы. Мы зайшлі туды. Там гучала музыка. Але як толькі мы туды зайшлі, яна сцішылася. «Ну вось, — сказаў мой спадарожнік, — як толькі мы куды-небудзь прыйдзем, усё заканчваецца». А ўнутры гэтага купала ўніз ішоў правал, па сценах якога былі нішы. У іх знаходзіліся лічынкі вялікія, некаторы з заплюшчанымі вачыма, некаторыя крыху расплюшчаныя. Лічынкі былі спавітыя. Чалавекападобныя. Што было далей?

Мы стаялі на самым краі гэтай прорвы, у якой не было бачна дна. Нішы з лічынкамі сыходзілі ўніз па спіралі. Лічынкі былі розныя, але неяк адчувалася, што яны жывыя, проста ў розных стадыях.

А пасля нічога — я прачнулася. Прайшло шмат гадоў, а адчуванне рэальнасці ўбачанага не знікае. І тое, як снег падае, і бронзавая ручка дзвярэй ад памяшкання з празрыстым купалам. Быццам бы я ўсё гэта кранала і адчувала.

Ноччу туман над Дняпром, па берагах чорная вада і нешта ў ёй круціцца, плавае. І з даху цячэ.

Баюся вясновай сырой зямлі, у вадзе халоднай — нармальна, а зямля — іншае, у яе нетры, глыбіня, яна студзіць, кліча да магілы.

На турыстычных сайтах Беларусь называюць краем лясоў і азёраў. Тут сярод лясоў і азёраў жыве Віёла — у Нарачанскім краі. А прыехалі яны з Казахстана, дзе не было ні дрэваў, ні азёраў, толькі стэп з цюльпанамі.

Віёла — гэта імя «расліннае», перакладаецца з лацінскай мовы як «фіялка». Віёла працуе настаўніцай замежнай мовы ў школе, ёсць у яе на возеры любімае месца, сюды яна прыходзіць пасля ўрокаў.

Увечары на возеры. Возера ўвечары свеціцца. Возера — вялікая цёмна-сіняя плоская талерка з водблiскамі заходу сонца. Нябачныя птушкі, шумныя чараты і безуважлівае зманлівае святло з-пад вады. Віёла гаворыць пра свой ад’езд з Казахстана: «Мы жылі без святла, цяпла і вады. Электрычнасць давалі на 2–3 гадзіны ў суткі, звычайна ўначы. Расійскіх каналаў больш не было, казахскіх яшчэ не было, і тэлевізар ператварыўся ў тумбачку. Талоны, беспрацоўе, печкі-буржуйкі ў гарадскіх кватэрах, маразы да –30 і ваўкі, якія дайшлі з Урала і елі людзей штодзень».

Віёла распавядае, як прыехала ў Беларусь падлеткам разам з маці, братам, сястрой і бабуляй з Казахстана. Віёла мела сярод продкаў немцаў, інгушоў, украінцаў і рускіх — ніводнай кроплі беларускай крыві.

Па лясной дарозе Віёла ідзе да свайго вясковага дома і расказвае пра тое, як яны пераехалі з Казахстана ў школу ў Магілёве, пачала вывучаць беларускую мову (з радасцю,

яна хацела вывучыць мову краіны, якая прыняла іх сям'ю, якая падабалася ёй).

Беларускую мову Віёла старанна вывучала, але чамусьці нідзе не чула. Дзяўчынка выходзіла на вуліцы Магілёва, блукала па іх у пошуках мовы і не знаходзіла. Толькі аднойчы адна жанчына звярнулася да яе на «трасянцы», што надзвычай усцешыла дзяўчынку: «Вось яна, беларуская мова».

Віёла распавядае пра тое, якія пачуцці яе агарнулі ў Беларусі. Віёла адчула сябе «як кветка, якую перасадзілі на новую глебу» — расквітнела. Яна вельмі добра фіксавала ўсе адметнасці беларускага жыцця, а яе бабуля, прывезеная з Казахстана, казала, што «ў Беларусі сонца не з таго боку ўзыходзіць».

Віёла Ермакова на прыродзе рыхтуе сваю малодшую сястру да паступлення ў лінгвістычны інстытут. Яны складаюць дыялогі па-англійску пра навакольны край. Паміж сабой гавораць па-руску. З іх размовы выразна чуваць, што Віёла гаворыць на літаратурнай рускай мове, а яе малодшая сястра з выразным беларускім акцэнтам.

На аўтобусным прыпынку Віёла чакае вясковы аўтобус, які адвязе яе на працу ў Мядзель. Гэты аўтобус аб'язджае вёскі і забірае людзей на працу. Пры дарозе стаіць адзінокае дрэва...

Людзі ў аўтобусе гавораць пра клопаты, якімі поўніцца іх жыццё. Віёла выглядае сярод іх «нетутэйшай».

Познім вечарам Віёла ў вясковай хаце ўваходзіць у інтэрнэт, размяшчае ў сваім жывым дзённіку карцінку — дарога на працу, адзінокае дрэва — і робіць запіс: «Гэта мая краіна. Я тут жыву. А калі вы спытаеце, дзе мая краіна, то я адкажу, што яна ў тысячах кропак па ўсёй зямлі». Віёла піша: «Часам Лёс рыхтуе Чалавеку тое, з чым ён не ў сілах зміроцца. І тады чалавек кажа лёсу «не» і адмаўляецца прымаць непазбежнае. Але ад Лёсу яшчэ ніхто не сыходзіў, і ён застаецца настойлівай. Тады Чалавек кідаецца наўцёкі, бегам, усё далей і далей ад таго, што яму прызначана. А Лёс нясецца наўздагон. Ён бяжыць і бяжыць, і ў выніку апынаецца над безданню. Далей ходу няма. А ў спіну ўжо дыхае Лёс. Тады Чалавек паварочваецца да яго, глядзіць яму ў вочы і

разумее, што прыйдзецца перажыць усё, што яму падрыхтавана. Але Лёс таксама глядзіць у яго вочы і разумее, што прыйдзецца змірыцца з планамі чалавека».

Я з'ехала з Мінска. Але не магу яшчэ разабрацца, ці шкадую пра гэта. Шкадую пра Мінск ці пра сваё было жыццё, якога не вернеш. Ці назаўсёды я з'ехала? Думаю — наколькі літаратура адрозніваецца ад жыцця. Пісьменнікі, паэты... У творах настальгуюць па вёсцы, супрацьпастаўляюць яе «тлумнаму гораду», дзе і людзі не такія добрыя, і паветра не такое чыстае, — карацей, жыць вельмі кепска. Пры гэтым Горад — гэта заўсёды Мінск, не Бабруйск, не Гомель, не Орша. А хто з'ехаў з Мінска ў меншы горад, у вёску? Не ведаю нікога. Правінцыя — сінонім непаспяховасці.

Дзве гадзіны ночы. Парыж, гатэль на Rue de Turbigo, мансарда на восьмым паверсе... — гэта Віёла піша мне ліст. — Славутыя саборы з сусветным імем (я асабіста іх не ведаю) за акном Эйфелева вежа тырчыць далёка злева. Квітнеюць дрэвы і вазоны з раслінамі па гаўбцах.

Сёння мы пілі чылійскае ў гасцях у чылійца.

У маім нумары толькі французскія каналы і ТБ без сэнсу...

Гатэль — зона, вольная ад палення... Каб папаліць перад сном, трэба цягнуцца на сем паверхаў уніз або ў вузкім, як крыштальная труна, шкляным ліфце, або па вінтавой вельмі стромкай, пакрытай чырвоным плюшам лесвіцы. Я аддаю перавагу плюшавым сходам.

Круасан пакуль не з'едзены, але Нотр-Дам і штосьці мадэрнае з трубамі мне ўжо сустрэліся.

А яшчэ мы ехалі ў электрычцы і былі на ўсім пероне адзінай парай белых людзей. Парыж — вельмі шакаладны горад... Я пра жыхароў...

Тэкст, які мы пакуль напісалі, падобны на споведзь таксідэрміста.

У самым вышэйшым сэнсе. Бо ўсе музейныя работнікі — таксідэрмісты. Толькі робяць пудзілы не звяроў, а эпох.

Ці не атрымаецца з нашых гутарак жахалка ў карэйскім стылі на беларускай глебе? Адкуль такая цяга да містыкі на беларускай зямлі? Яна ў паветры. І на таталітарных праспектах, і ў вёсках. Дзесьці раптам прарвецца ў гутарках на п'янках у звычайнай кавярні, дзе *бухціць МТВ*: «Ці ёсць у Беларусі хтосьці, у каго няма знаёмай ведзьмы?»

Так, я не выключэнне — у мяне ёсць знаёмая ведзьма. Яе жыццё здавалася мне незвычайным і я пісала пра яе кароткія апавяданні.

Толькі зараз яна з'ехала ў Нямеччыну, а я выслала ёй свае апавяданні. А яна мне напісала. Вось такі ліст:

Дзіўна!!! Якія моманты адбываліся ў маім жыцці. А я забылася. І ўсё мне здавалася, што жыву неяк нецікава, нават няправільна. Дабры дзень мая *Паліанка (гэта яна мне такое імя новае прыдумала, каб мне шчасціла)*!!!! Твая назіральнасць мяне ўразіла! Ды і з якой лёгкасцю ты можашператварыць жыццёвую гісторыю ў пісьмовую форму (*во як людзі пачынаюць фармуляваць свае думкі ў Нямеччыне*).

Ты мяне вельмі-вельмі ўзрадавала!!!! У мяне ўсё добра!!! Свет і спакой у маёй душы, у маёй сям'і, у маёй хаце. Дачушка ходзіць у школу, тры разы на тыдзень у яе курсы па нямецкай мове. Раз на тыдзень ходзяць усім класам у басейн. З задавальненнем вучыцца. Яшчэ пару месяцаў будзе гаварыць. Цяпер ужо балбоча, аж галава кругам у прыемным сэнсе слова. Я ў траўні пачынаю вучобу ў Акадэміі *Вільнес* — масажу. Цяпер займаюся хатняй утульнасцю. Што прыносіць мне велізарнае задавальненне. Муж — гэты цуд, маё каханне. Ладзім з яго бацькамі. *Мэгі* прынялі як родную ўнучку. Песцяць, падарункамі закідваюць, і кожны раз я не магу слёз утрымаць. Пішы мне...»

Яна ведзьма? Пра гэта распавяду і цяпер, і пазней. Адзін негламурны гей казаў, што, калі можна было б, — ён спаліў бы яе на вогнішчы. І яшчэ ён убіў у зямлю чатыры асінавыя шчэпы.

Гляджу ў акно. Колеры. Малочна-белы, малочна-шэры, брудна-белы, брудна-шэры. Колеры суму, перад прозеленню тут з'явяцца ледзяныя крыгі, якія будуць ззяць на сонцы — крышталь.

Пакуль сядзела пад пляжным грыбком і чакала крыгаходу, твар загарэў і нават «перагарэў». Сонца, бліскучы лёд, вада. Твар гарыць і выглядае, як у першы дзень на марскім курорце.

Крануўся, нарэшце, пасля Дня Волі! Добра, аж палягчэла на душы, а то расло напружанне ўнутры :)))

Адпусціла! Ёсць, ёсць у мяне крыгаход, і сёння ён працягваецца — са Смаленска крыгі сплываюць.

Днепр падступіў пад самыя вокны. Глядзіш з акна — як мора. Чайкі кружацца.

Бачыла чаек, якія плылі на невялікай крызе, — стаміліся лётаць. Лебедзі-шыпуны — яны вырашылі адпачыць у нас, вяртаючыся з выраю. Іх усяго пяць. Два старыя і трое маладых, відаць, бацькі і дзеці. Яны ж ствараюць пару на ўсё жыццё і жывуць 25 гадоў. Ці гэта значыць, што 25 разоў лётаюць у вырай? На ноч лебедзі ўкладаюцца начаваць на крыгі, як пінгвіны. Удзень людзі кормяць іх з берагоў хлебам. Лебедзі вялікія і моцныя. У інтэрнэце напісана, што могуць пераламіць дзюбай руку чалавека. Лебедзі падплываюць, як толькі людзі пачынаюць кідаць хлеб у ваду. Бяруць хлеб і з рук. Але страшна. Сабакі іх таксама баяцца. Лебедзі шыпяць на сабак. Хутка яны палятуць з ракі на азёры і балоты. Гнёзды ў іх па тры метры. Узлятае лебедзь цяжка, але на вышыні ляціць, як самалёт.

А ў хаце, куды ні пайду, паўсюль трапляю ў павуцінне — не віртуальнае, не метафарычнае, а самае натуральнае — рэальнае

Ноччу ідзе дождж. Умываюся талай вадой і не ведаю, як гэта, — больш шкодна ці карысна. Але прыемна.

На прыродзе, блізка да зямлі страшна жыць — штодня бачыш шмат смерцяў: то птушка памірае, то на слімака наступіш. Куды ні глянеш, усё нехта некага ловіць і жарэ.

Ніколі не ведаеш, з кім побач жывеш. Пачалі перарабляць веранду, а там рэшткі цэлага горада з сотамі — ці то чмялі там жылі, ці то хто.

Чмялі... Гэты сотавы горад наогул пусты быў — яму шмат гадоў. Там даўно ніхто не жыў. Можа, вымерзлі ў 80-я. Таму мы нікога і не патурбавалі (і нас не пакусалі), калі вынеслі ўсю гэту радасць на сметнік.

Гнёзды і соты. Іншы свет — побач.

Ці можа адзін чалавек сапсаваць жыццё іншаму чалавеку? Ці ўсё ж такі кожны псуе жыццё сабе самастойна?

Красавік. Паплылі хмары. Я збірала каменне для саду — хмара наляцела, закрыла сонца.

Страшна.

Я у хаце схавалася і выйшла ў скайп, у скайпе бяспечна, але не заўсёды.

Бяспечней за ўсё — спаць.

Сны і ўспаміны — усё, што ў мяне ёсць.

Цырульніца падстрыгала мяне і распавядала, што цалкам задаволена сваім жыццём і не хоча ведаць, што будзе далей. Яна распавяла мне прыпавесць пра тое, што раней усе людзі ведалі, калі памруць. А пасля Бог спусціўся на Зямлю і ўбачыў мужыка, які рабіў агароджу з саломы, а на пытанне Бога, чаму ён так робіць, адказаў, што ведае: жыць засталося да лета, таму не варта будаваць нічога трывалага. З тых часоў людзі не ведаюць, колькі ім наканавана.

І яшчэ цырульніца распавяла пра хлопца, які за паслугі расплаціўся каменьчыкамі ды сухімі лістамі з клёнаў. Выцягнуў з кішэні замест грошай і расплаціўся. Было гэта восенню, калі пачынаюцца розныя абвастрэнні. Але ўсё адно ёсць у гэтым нешта казачнае — калі грошы ператвараюцца ў нейкія такія рэчы.

Цёмным і цёплым вечарам прыемна зайсці ў ювелірную краму — там так зіхцяць упрыгожанні. Выбраць, але не набыць. Цяжка прызвычаіцца, што дзень падоўжыўся, што на вуліцы светла, міжволі чакаеш цёмнага вечара, каб супакоіцца.

Была б машына часу, вярнулася б я ў 1993 год. Жыццё яркае. 91-ы — таксама. Неверагодны год.

Машына часу... Гадзіннік з зязюляй... Спачатку я думала, што гэта толькі прадмет інтэр'еру. Выскоквае галава птушкі з гадзінніка, крычыць — і добра. З урокаў біялогіі ведала, што зязюльчыны дзеці выкідаюць з гнёзд птушанят. Але неяк не ўяўляла. Вясной убачыла, што ў нас па двары валяюцца мёртвыя... нават цяжка сказаць хто — без поўсці, без пер'я, ці то мышы, ці то птушкі. Прайшоў час — і са шпакоўні стала высоўвацца галава з дзюбай, дакладна як у гадзінніку — высоўвацца і хавацца. А шпакі толькі паспявалі падносіць ежу.

Жахі прыроды. Была такая сяброўка... Куды б ні трапіла — адусюль пачынала ўсіх выціскаць — з кватэры, з працы, з любой прасторы. Барацьба за месца ў жыцці. Ку-ку.

Захопленая сваімі страхамі і перажываннямі, не заўважаю і не разумею, што адбываецца навокал, гавару не з іншымі, а сама з сабою.

Кнігу пачынала пісаць ужо даўно, калі ў музеі працавала, і некалькі разоў пачынала. Я прыдумала, што буду гаварыць ад імя немаладой, нават вельмі немаладой жанчыны, самотнай, як кажуць «нікому не патрэбнай», яна сядзіць ля акна, глядзіць на сінічак на кармушцы, узгадвае сваё жыццё, але нікому не распавядае, бо ніхто надта і не цікавіцца.

І вось прыходзіць ліст з музея, ад маладой яшчэ жанчыны, і пачынаецца перапіска. І так я гэта ўяўляла, так атрымлівалася ў мяне ў тых маіх сшытках, якія я спаліла ў лесе ў Дражні каля тралейбуснага дэпо ў 1994 годзе... Атрымлівалася апісанне жыцця той жанчыны, якое ўжо коціцца да свайго завяршэння, і паралельна тое, што робіць вось гэта маладзейшая асоба. Я пачынала гэта рабіць ад імя той, якая маладая.

Усё так і было, бо я працавала ў музеі, мы рабілі экспазіцыю, і ў мой абавязак уваходзіла перапісвацца з жанчынамі — іх было некалькі. Адна з іх — паэтка, якая жыла ў Амерыцы. Я для яе перапісвала яе вершы, гэта значыць знаходзіла іх у старых выданнях, перапісвала сваёй рукой,

паслала ёй туды, прасіла аўтограф. Яна перапісвала мне іх і дасылала, часам здзіўлялася, што «вось, а я і не памятаю такога верша, што такое было, пякла вершы як бліны». Так я здабывала аўтографы, трэба было спяшацца. Жыццё тых далёкіх жанчын заканчвалася.

— А тая частка рамана, якая па лістах сталай жанчыны, — пытаецца Віёла, — яна таксама была аўтабіяграфічная? Ці гэта ўжо па лістах?..

— Гэта была ўжо іншая лінія, якую я намалявала з іншай жанчыны, якая таксама была рэальная і з якой мы перапісваліся. Яна таксама жыла за мяжой, і яе гісторыя такая, што яна была вельмі добрым чалавекам. Яна кахала паэта, не кахаў яе, ён памёр рана вельмі, фактычна быў закатаваны ў высылцы, у ГУЛАГу... А яна ўсё жыццё захоўвала яго памяць. Жанчына дасягнула шмат чаго ў жыцці, у навуцы, стала вельмі паважанай, пражыла больш за 90 гадоў. Мы перапісваліся. Перапіску я пачала, а потым рэальнае жыццё маё станавілася ўсё больш цікавым, і я ў гэтай перапісцы рабілася больш стрыманай, працягвала атрымліваць гэтыя лісты і не заўсёды адказвала. А праз шмат гадоў я прыйшла ў музей, і мяне ўразіла такая рэч: я ўбачыла нашу перапіску проста за шклом музейным... А калі я працавала, то дакладна ведала, што з аднаго боку шкла музейнай вітрыны знаходзяцца людзі жывыя, а за шклом, пад шклом — людзі нежывыя, якія пайшлі з жыцця. І ўсе гэтыя вочы, што глядзяць на нас са старых фотаздымкаў, — вочы памерлых. У музеі гаварылі, што нельга доўга знаходзіцца на экспазіцыі, правёў экскурсію — і хутчэй назад, бо гэтыя вочы, якія на старых фотаздымках, вельмі такія выразныя, яны высмоктваюць сокі жыцця.

— Уся экспазіцыя — зона смерці? — пытаецца Віёла.

— Там людзі, якія ўжо не жывуць, а пры тым на цябе глядзяць. Нас папярэджвалі пра гэта. Шмат аповедаў ёсць пра гэта... Як актор, які, перад тым як выканаць ролю Янкі Купалы, узяў у музеі дазвол апрануць яго гарнітур. Ішоў у фонды вясёлы, хаця загадчыца фондаў папярэджвала, што не варта. І вось калі акцёр апрануў гарнітур Купалы...

А гарнітур быў поўны, таму што ў Купалы шмат адзення засталося... А пасля... штосьці з ім такое здарылася, ён змоўк і неяк так стала ўсім, хто ішоў з ім разам у фонды, нядобра. І вось пра музейнае шкло. Я прыйшла ў музей, убачыла там выставу, дзе было напісана, што (гэта рабілася ўжо маладзейшымі людзьмі) «лісты Людмілы Красоўскай ды П. Качатковай». Красоўская была жанчынай, якая мне пісала, а Качаткова — гэта я.

— Вы не ведалі пра яе смерць? — пытаецца Віёла.

— Я ведала пра яе смерць. Але бачыць сваю перапіску, сваё прозвішча вось там вось... Там фактычна стаяў працяжнік, які для мяне стаў выглядаць знакам роўнасці. А калі ўлічыць, што да таго часу я была ўжо не вельмі маладая, а цяпер прайшло яшчэ больш часу...

— І што?

— А тое, што атрымліваецца, што кніга будзе пісацца ў іншы бок. Змена роляў.. Я сяджу і гляджу на сінічак, якія рэальнае, ну а вы — тая маладая жанчына, якая са мной размаўляе.

— А чаму вы спалілі тыя сшыткі?

— Я тады спаліла шмат чаго. Гэта ў Дражні, у сметніцы, у лесе. Ну, не ў сметніку, у кантэйнеры... Там у мяне былі — вось яшчэ пра што я шкадую — дзённікі. Я запісвала, калі ў музеі працавала, шмат чаго з музейнага побыту і рэалій пачатку 90-х, калі і сцяг прымалі і герб, і хто каму што сказаў.

— Гэта што, было ахвярнае вогнішча?

— Вогнішча афекту, хутчэй... Таму што я ўжо не разбірала, дзе што, і паліла ўсё... Усё-ўсё-ўсё.. Усё напісанае мной, усё зробленае мной..

— А лісты з музея можна ўзяць?

— Можна, але там нічога такога няма. Як правіла, гэта былі мае пытанні, якія я фармулявала...

— А пра сябе вы не пісалі? Гэта былі пытанні-адказы?

— Гэта былі пытанні і адказы. Хоць потым, калі мне сталі пісаць «*паважаная*» і «*шаноўная*», а мне тады было 22–23–24 гады, у мяне мільганула думка: можа быць, чалавек думае, што я таксама не зусім маладая, што, можа быць, трэба сказаць, што я з вамі не на роўных, што я вось дык вось проста...

— А казалі? Пісалі?

— Не...

— А ў адказах жанчыны былі вельмі адкрытымі?

— Часам. Але не заўсёды. Якраз у тым выпадку былі стрыманыя лісты, толькі адказы на пытанні, якія я паставіла.

Пачну з таго, што я сяджу і гляджу на сінічак, якія прылятаюць. І не толькі сінічкі, нават дзятлы, і тоўстыя сойкі — вялізныя сінія птушкі шчасця...

— І вы сапраўды пачуваецеся самотна, з усімі гэтымі дзятламі і сойкамі? — пытаецца Віёла.

— Не зусім, але мусіць быць вобраз, які, мне падабаецца... Калі я думала пра тую кніжку, я ўяўляла жанчыну зусім самотную. І гэта быў рэальны вобраз-выява, я такіх жанчын шмат бачыла. І ў Мінску, калі мы прыходзілі забіраць экспанаты для музея, — гэта была жудасць, вядома. У старой жанчыны засталіся фотаздымкі, лісты, і яшчэ нейкія сведчанні жыцця. Мы прыходзілі і выпрошвалі, выдзіралі іх з альбомаў. А калі не паспявалі забраць, то хутчэй за ўсё яно і знікала.

Ехала ў цягніку. Па дарозе стары і малады гаварылі пра эхалоты. Стары тлумачыў, навошта яму эхалот. У рацэ водзяцца вялікія самы, адзін сом нават зацягнуў рыбака, які абматаў лёскай руку, пад корч. Сом застаўся жывы, а рыбак — не. На дне ракі шмат карчоў, паваленых дрэваў. Вадалазы, якія апускаюцца на дно, каб выцягнуць тапельцаў, бачаць пад карчамі вялізных замшэлых самоў і асцерагаюцца іх.

А я... Распавяду, як здабывала зімой пясок з дна ракі. Ён быў патрэбны для дрэнажу — для кветак. Я узяла вялікі сачок (дакладней, падсачнік для рыбы), абкруціла яго цэлафанавым пакетам, пайшла на заснежаны пляж, дзе купаюцца «маржы».

Усё навокал блішчэла ад сонца — снег пераліваўся, лёдзік ззяў.

Але да пяску ў вадзе было ўсё адно далёка — глыбока. Лягла на снег і стала вылоўліваць пясок. Ён не даваўся,

цэлафанавы мех, поўны вады, быў цяжкі і не даставаўся, я рабіла ў ім дзіркі, каб вада выцекла. Разам з вадою выцякаў і пясок. Рукі мерзлі, калені былі мокрыя. Але ўрэшце я набрала палову маленькага вядзерца пяску і нават не ўтапіла ў Дняпры фотаапарат, чаго больш за ўсё баялася.

Ляжала там на крызе, як цюлень, мужыкі пераходзілі рэчку, глядзелі на мяне няўцямна. Пыхцела і сапла. Балансавала на краі, каб не ўваліцца і не слізгануць у ваду.

Летам штодня праплываю каля кіламетра. Плыву па плыні пасярэдзіне ракі, бо баюся, каб не натрапіць ў вадзе на страшнага разлезлага тапельца. Як уявіш яго ў вадзе — жудасць. Але іх хутчэй да берага плынь прыбівае. І яшчэ — бліжэй да берага пада мною два разы праплылі аквалангісты — таксама непрыемна.

З дзяцінства ведала, што па траве нельга бегаць, бо там можа быць шкло. Цяпер шкла меней — пластык. Але і зараз даводзіцца прыбіраць з месцаў купання адбітыя ад бутэлек донцы і горлы, пастаўленыя вострай часткай угару — каб нехта невядомы парэзаўся. Ніколі гэтага не разумела. Але, колькі жыву, гэта было.

Часам усплываюць пытанні:

Як не стаць тым самым... куды людзі зліваюць свае эмоцыі?

Хто палюе на гарадскіх качак? Сёння кот знайшоў галаву ад качара...

Адкуль так шмат істэрычных мужчын?

Нарадзіцца і памерці ў адным і тым жа доме... Як мне здаецца, то лепей на апошнім паверсе шматпавярховага дома ў сацыяльным жытле. У маленькай кватэры. Пажадана ў Першамайскім раёне горада Мінска. Адарванай ад зямлі, прыроды і свайго мінулага.

І ўсё ж давялося вярнуцца ў дом, дзе нарадзілася, дзе ў шуфлядзе «славянскай шафы» 50-х гадоў ляжыць ружовы канверт, у якім мяне прынеслі з раддома. Пасля аднаразовага

выкарыстання канверт паклалі ў шафу — там ён і ляжыць. Стужкі, атлас... Там жа і паўзуны, кашулькі, сукеначкі. Не памятаю час, калі іх насіла, але памятаю, як апранала ва ўсё гэта цацачнага мішку — цвёрдага, набітага апілкамі, падарунак адной старой спадарыні, яе звалі так, як і мяне, — на той час рэдкае імя. Спадарыня даўно на могілках, у яе асабняку (а была яна жонкай заможнага доктара) — раённы аддзел народнай адукацыі.

Калі я вярнулася ў наш стары дом, каб жыць, ва ўсіх скрынях і шуфлядах, якія я разбірала, знаходзіла зблытаныя ніткі, мне трапляліся шмат, нейкія клубкі зблытаных нітак, хоць ніхто не вязаў, не шыў. Можа быць, спрабавалі... І гэтыя ніткі і цяпер. Я вось падумала, можа, іх спаліць... Можа, нейкія вузлы праблем развяжуцца, бо там столькі накручана ўсяго? У якую б скрыню я ні лезла, адтуль вывальваліся клубкі. Я падумала, можа, сфатаграфаваць клубок, выкласці ў ЖЧ?

Але лепш спаліць. А калі і выкласці ў ЖЧ — выдаліць потым малюначак, каб нідзе не заставалася.

Ніткі, яны яшчэ рознакаляровыя, іх можна выкарыстоўваць для зашывання розных рэчаў рознага колеру, можна адтуль выдзіраць іх і зашываць, цыраваць.

Але не хачу — набуду звычайную кітайскую скрынку, дзе будзе шмат рознакаляровых нітак. Вельмі ахайныя ніткі ў скрыначцы. Прадаюцца. Лепш, чым выдзіраць ніткі з сумніўных клубкоў. Неяк не па сабе, калі зблытаныя ніткі паўсюль... Трэба заняцца. Але не ведаю, я да старых нітак звыкла. Тыя ж самыя клубкі, бачыла і ў 6 гадоў, і ў 5, і ў 10.

— Яны ўжо настолькі старыя, — кажа мне Віёла, — што, напэўна, нават уяўляюць нейкую каштоўнасць, можа быць, адзін клубок у музей аддай. З усімі іголкамі, уплеценымі стужачкамі, усю гэтую кудзелю.

— Там усяго намяшана. Можа, іголкі нейкія ўсярэдзіне і сядзяць. А наконт новай скрыначкі з новымі рознакаляровымі ніткамі я падумаю.

— Набудзеце новыя ніткі, каб выгнаць д’ябла?

— Так, можна паспрабаваць.

Я спачатку вырашыла, што хачу спаліць клубок дашчэнту. Але невытлумачальнае ўнутранае пачуццё кажа: нельга. Чаму?

Штосьці падказвае: «Гэта памяць».

— А там ёсць нейкі адзін галоўны клубок? — пытаецца Віёла. — Я думала, там шмат маленькіх.

— Адзін вялікі галоўны, ён ляжаў у скрыначцы. Скрыначка вялікая, ён адтуль высоўваўся. Думаю — спалю, але ж нельга, я адтуль часам ніткі выдзіраю рознакаляровыя. Я куплю новыя ніткі рознакаляровыя. Не, усё адно нельга, гэта памяць.

— Якая памяць?

— Мая памяць.

— Ад гэтай памяці пазбаўляцца трэба, ад яе жахі ўсякія, праблемы тут сплецены. Ну давай спалім, гэта нават цікава, як яно гарэць будзе. У печцы.

Я кажу:

— У печцы не трэба, сэнсу няма. На скрыжаванні, — кажу сама сабе.

Потым думаю, трэба ж пайсці купіць новыя ніткі, якраз перад 8 Сакавіка.

Універмаг. Купіла ніткі, прыйшла, узяла клубкі, ужо цёмна было, прынесла на Днепр, паклала на пень ад спілаванай вярбы.

Вельмі вялікі пень.

Я падпаліла клубок. Думала, гарэць не будзе, трэба знайсці растваральнік. Растваральніка не знайшла. Пайшла паліць так. Паклала на кардонку, каб не на снег.

Яно так гарэла!

Адразу занялося і пачало гарэць, гарэла вельмі доўга і вельмі павольна, прычым рознакаляровымі агнямі пералівалася, страшна смярдзела.

А пасля ў цемры гукі з'явіліся — дзесьці варона сонная паляцела з суседняга дрэва, пырхнула.

А ніткі ў клубках доўга-доўга гарэлі, нават не ведаю, колькі я там прастаяла.

І пад канец, калі ўжо стала дагараць, агонь так стаў біцца па нітачках. А вецер з Дняпра паддзімае.. На гэтым клубку

ясна так намаляваліся вочы, нос і рот, і потым усё загасла, а на вуліцы запаліўся ліхтар у гэты момант.

— Згарэла?

— Згарэла!

— А яно ўначы само ў хату назад не прыпаўзе?

— Не, не прыпаўзе, — і я гэта так упэўнена сказала сама сабе. — Вецер з Дняпра павінен быў усё развеяць.

— Павінен, але гэта яшчэ ніхто не правяраў.

— Там такая купка заставалася. Я яшчэ стаяла і думала, што я буду адказваць суседзям, калі яны спытаюць, што палю. Як варыянт, «любоўныя лісты».

— А вы верыце, што гэта быў вядзьмарскі абрад? — пытаецца Віёла.

— Я веру...

— Аршанская вядзьмарка!

— Ну, пераканаўча ўсё выглядала.

Лёд, рака, дарога, дрэва.

Колеры — малочна-белы, малочна-шэры, брудна-белы, брудна-шэры, то бок такія пярлістыя адценні. Хутка з'явіцца тут чырвань і прозелень, бо ўсё кінецца ў рост.

Здаецца, трава толькі пачала расці, а ўжо час яе пакосу пачаўся — паўсюль гукі газонакасілак і пах зрэзанай травы. Паветра нерухомае. Белыя пялёсткі ў садзе на сцежках. А суседу жонка здраджвае, таму ён і ў цемры ходзіць з газонакасілкаю.

Там, дзе Аршыца ўпадае ў Днепр. Пах вады — ад дзвюх рэк і сажалкі каля касцёла. Ліхтары адбіваюцца ў вадзе. Адчуваецца, як усё ажывае. Паўсюль у паветры водар фіялак. Фіялетавы, фіялкавы колер. Зялёны.

А восень усё ж лепшая за вясну.

Вясной зямля сырая, сілы сыходзяць у зямлю, а дрэвы цягнуць сокі з зямлі і сілы з мяне. Вясной як ніколі адчуваеш сябе часткай прыроды, і гэта палохае.

Вясной — вясновыя жахі прыроды. Страшна ўначы выйсці ў двор, каб не раздушыць каго нагой. Трапіць пад нагу слімак — шчоўкне пацыр-дамок — шкада: не жыць слімаку без дома.

Увесну ўсе на ўсіх палююць. Вось такое абнаўленне жыцця. Уначы крыкі і стогны. Паляванне. Заснуць цяжка.

Паўночы ганяем суседскага ката ад шпакоўні. І шпак адзін не спіць — ахоўвае. Сваіх катоў чатыры, у адных суседзяў два кашакі, ніхто з шасці і не глядзіць у бок шпакоўні, а гэты Рыжы прыходзіць... Слоў няма. І каля кармушкі ўсю зіму сядзеў, праўда, не задавіў нікога.

Яшчэ людзі... Людзі, якія соўгаюцца па беразе.

Калі я была малая (яшчэ да школы), па беразе хадзіў педафіл. Ён быў вельмі заўважны — руды і тоўсты, у чорным пінжаку. На адвароце пінжака ў яго віселі ланцужкі рознага кошту — самы танны 80 капеек і вышэй. Ён прапаноўваў дзяўчынкам за дваццаць капеек скакаць «жабкай», пры гэтым быць абавязкова ў сукенцы ці спадніцы (не ў штанах), за ланцужок за 80 капеек трэба было схаваць ланцужок на целе і даць яму шукаць. Што трэба было рабіць за больш дарагія ланцужкі — нават не ўяўляю. Яго цікавілі дзяўчынкі да 9 гадоў. Ён сам так казаў, калі запрашаў на сустрэчы. Усе ведалі пра рудога педафіла. Аднойчы брат маёй сяброўкі, які вяртаўся з трэніроўкі па боксу, збіў яго пад ліпамі. Нам чамусьці здавалася, што педафіл — амерыканскі шпіён. Мы вырашылі спытаць у яго пашпарт, каб паказаў. Пасля гэтага педафіл нас пазбягаў. І ўсе пра яго ведалі. І штодня бачылі ў кампаніі дзяўчат з сем’яў з невялікім дастаткам і ўвагай. І пра ланцужкі ўсе ведалі пад пінжаком, і пра 20 капеек.

Сярод белага дня, дзьмухаўцоў і яркага сонца пацягнуўся за намі страшны таксікаман з цэлафанавым мяшком на галаве, перайшоў масток праз Аршыцу і стаў сунуцца за намі па беразе. Так сунуўся, сунуўся неадступна, аж жудасна стала. А пасля мне сказалі, што таксікаман сунецца заўсёды за

біялагічным аб'ектам, як нейкая фантастычная сутнасць, як прывід. А ўцякаць ад яго не варта, можа прачнуцца інстынкт паляўнічага.

Пахі і гукі... У Мінску на Ілімскай і на Ложынскай пахла сасновым лесам, у Гомелі на Савецкай — шакаладам і карамеллю, у Оршы на Караткевіча пахне вадой, травой, зямлёй.

Калі жыла ў Гомелі, па вечарах і начах у цемры чула, як гудуць тралейбусы на Савецкай і грукочуць цягнікі на чыгунцы. У Магілёве — машыны на вуліцы Крыленкі. У Оршы па начах чула чыгунку і маторкі на Дняпры, а напрыканцы 70-х самалёты, якія з Балбасава ляцелі на Афганістан. А ў Мінску ніколі не чула чыгунку, толькі метро пад падлогай — на перакрыжаванні вуліцы Леніна і праспекта — у той час Скарыны — станцыі «Купалаўская» і «Кастрычніцкая». На Уруччы чула таксама самалёты і верталёты з Баравой — але гэта не ўначы — удзень. А цяпер у Оршы ўначы яшчэ чую, як б'е гадзіннік на вежы адрэстаўраванага калегіума.

Уначы таксікаман нейкі чынам перамясціўся з берагоў Аршыцы на бераг Дняпра — удзень шоркаўся па беразе і працягвае шоркацца ўначы. Кажуць, што яны пасіўныя, але хто яго ведае, якія ён фільмы ў мозгу сваім глядзіць пасля клею. І ці адрознівае дзень ад ночы.

Калі я прыехала жыць ў Оршу, то думала напачатку, што людзі са мною размаўляюць, і спрабавала з імі гаварыць, ім нешта распавядаць. Прайшоў час, і я зразумела — ніхто ні з кім не гаворыць. Усе прамаўляюць маналогі, як на сцэне. Маналогі не мяняюцца, нішто не ўплывае на іх змест. Гэта цэльная форма. Застыглая, як метал на марозе. Яны нязменныя, як пасведчанні аб нараджэнні, якія ў любы момант можна выцягнуць і прадэманстраваць. Ніхто нікога не чуе. Ніхто не верыць нікому. Калі хочаш, каб цябе пачулі хоць крыху, пастарайся размаўляць з ім на яго мове — словы для гэтага трэба здабываць з маналогаў і складаць, як мазаіку, і патрэб-

най табе канфігурацыі. А калі будзеш проста маўчаць, гэта лепей за ўсё, ніхто ўсё адно не заўважыць, што ты маўчыш.

Знаёмы адвакат сказаў:

— Уяўляеш, я навучыўся не слухаць.

— Як у цябе атрымалася?..

— Вось так, доўга хацеў навучыцца і цяпер навучыўся.

— Зайздрошчу. А я ўсё навокал чую.

Люблю змрочных людзей. Маўклівых. Не люблю, калі адразу пачынаюць з табой жартаваць, смяяцца і распавядаць пра свой радавод — звычайна бабуля нейкага такога... высакароднага паходжання... накшталт «палячка».

Атрымала параду ад сяброўкі.

— Вось калі цела тваё перастае цябе слухацца, значыць, тваё «Я» ўцякло кудысьці. Трэба паклікаць яго.

— Як? Як яго клікаць?

— Проста згадаць, што ты ёсць. Сказаць свайму «Я»: «Я не забыла пра цябе, і даруй мне, калі і забыла. Прабач мне, я ўсім сэрцам люблю цябе».

Пад ліпамі, на беразе Дняпра пад поўняй гукаю сваё «Я». І прашу ў яго прабачэння.

Позна чытала, акно расчыненае, і раптам з цемры заляцеў і ўпаў на падушку важкі хрушч — такі вялікі, выпусціла назад — у цемру, давялося зачыніць акно, бо ён зноў ляцеў на святло.

Карцінкі. На сцяне будынка напісана «забі», а наступнае слова зафарбаванае, я побач заўсёды хадзіла, не канцэнтравалася на гэтым. У тым закрэсленым слове мала літараў для аднаго варыянту, які я стала падбіраць, для другога варыянту — літараў шмат. Я стаяла тупіла, потым усё-ткі зразумела: там было напісана «Забі негра!». Неграў няма, абсалютна, а надпіс ёсць, хоць і забруджана слова. А слова «забі» пакінулі. І яно ўпрыгожвае сабой горад, і кожны можа сабе падставіць штосьці ў меру сваёй распушчанасці. А літары — паўметровыя.

Бачыла па тэлевізары выступленне мастацкай самадзейнасці, прысвечанае Дню Перамогі ў інтэрнаце для састарэлых — дзяўчаты і хлопцы ў чорных капюшонах, якія закрываюць твары, выходзяць на сцэну са свечкамі ў руках і становяцца моўчкі ў кола. Толькі касы ў рукі ім не хапала...

І вось з'яўляецца дзяўчынка ў сінім паліто.

Я хачу пагаварыць пра дзяўчынку ў сінім паліто.

Мне тата зладзіў арэлі, потым іх дзядуля разбурыў... Таму што ўсе баяліся, што я загіну ў раннім дзяцінстве — раней часу. Звалюся з арэляў ці з дрэва, патану ці яшчэ штосьці са мной здарыцца... Але нейкі час арэлі былі. Як я іх любіла! А побач з арэлямі быў плот з дошак, а за дошкамі бераг Дняпра. І я там гушкалася на арэлях — за плотам. І вось з'яўляецца дзяўчынка ў сінім паліто. Гэтая дзяўчынка спачатку стаяла, мяне разглядала, потым стала са мной размаўляць, потым стала распавядаць пра жыццё сваё, хто каго б'е ў іх у сям'і і ўсё б'юць яе. Я ёй нават стала прыносіць цукеркі і перадаваць праз плот. Але сама да яе не выходзіла. А яна стала кожны дзень прыходзіць. Я ёй давала цукеркі, печыва. Яна мне распавядала страшныя гісторыі з жыцця. Я вісела на арэлях, а яна мне распавядала. Аднойчы прыйшла і сказала, што ў яе засіліўся бацька і што яна паедзе на грузавіку каля труны. Што будзе гэта — заўтра.. А ў нас дзіцячы сад быў па дарозе на могілкі. І кожнае пахаванне рухалася на могілкі паўз наш дзіцячы сад. І кожны дзень там вазілі нябожчыкаў. Калі везлі нябожчыка на адкрытым грузавіку, пакрытым кілімам, усё дзеці ў садзе крычалі «Пахаванне, пахаванне!».

Беглі, сядалі на плот і крычалі. Музыка, лапкі ад елкі пад нагамі, чырвоная труна. Грузавік. Дзеці хацелі праехаць на грузавіку з труной побач. А лепей — прыкінуцца мёртвым, і легчы ў труну, і праехаць у гэтай труне, а могілках устаць і сказаць... Што сказаць? Ну штосьці такое... Гэта вось... Ці даць сябе пахаваць?

А да гэтага бачыла адно вельмі прыгожае пахаванне. Усе беглі і крычалі «Хлопчыка крыгай раздушыла! Хлопчыка крыгай раздушыла!». І ехаў грузавік увесь у кветках. Вясна ранняя, і хлопчыка везлі прыгожага вельмі, побач з ім ся-

дзела прыгожая дзяўчынка. Гэта была мая сяброўка, якая вырасла і стала жыць з негламурным геем, але я яе тады яшчэ не ведала. І мне карціна спадабалася — было хораша вельмі. І калі дзяўчынка ў сінім паліто мне сказала, што яе тата павесіўся, я вырашыла пайсці паглядзець пахаванне. І ўбачыла сіні твар шыбеніка-самагубцы... Я нават не ведаю што... Але ляцела я з гары адтуль. І ўбегла ў дом, і хавалася за кніжнай паліцай, і мяне доўга выцягвалі, таму што я білася і білася, і з тых часоў баялася пахаванняў, усякіх. Ясна, што павешаны алкаголік выглядае не так, як хлопчык у кветках. Жах мой быў такі, што я як толькі чую гукі пахавальнага маршу, усё знікае.

Хіба віртуальнае жыццё перашкаджае рэальнаму? Яны наогул цяпер падзяляюцца? Можна правесці мяжу? Кнігі — таксама віртуальнае жыццё, мастацтва — віртуальнае жыццё.

Выбірала кнігу ў кнігарні і злавіла сябе на думцы, што шукаю такую, дзе б і аўтарам была жанчына, і распавядалася б пра жыццё жанчыны.

Памятаю 8 Сакавіка ў музеі (жаночы калектыў) — гэта страх, катаванні, адным тэлефануюць, другім — не. Адным цягнуць кветкі, другім — не. І прафсаюзныя чырвоныя гваздзікі — кожнай...

У Оршы ў мэблевых крамах дастаўкай мэблі чамусьці займаюцца пераважна жанчыны-кіроўцы на фургонах.

Вось і сёння купілі мы тумбу для абутку і чуем, што пра дастаўшчыка мэблі кажуць у жаночым родзе: «Она привезёт вам». Гэта ясна...

Прыходзім дахаты, тэлефануе:

— Баюся, я не магу да вас спусціцца (дом пад горкай)...

Пытаюся:

— Дзе вы?

— Я загружаюся...

Думаю — як ж ты яшчэ не прыехала, а ўжо баішся.

Прыехала, спыніла машыну на гары і сігналіць... Падняліся на гару. Я стала сварыцца з ёй за такую дастаўку, а яна з выклікам:

— Ну, давайте я на своём горбу вам её донесу до дома.

Што такое «женское счастье»? Калі яго жадаюць, часцей за ўсё дадаюць эпітэты «простое» альбо «большое». А мужчынскае шчасце бывае? Якое?

Сяброўка жыве з негламурным геем, які быццам бы не гей, бо яна ў існаванне геяў на сваёй вуліцы наогул не верыць.

А хочацца не быць адной, каб толькі нехта чакаў у хаце, калі з працы прыходзіць... А ён і не надта чакае — лётае па сваіх справах негламурных. Вельмі злосны, лаецца матам — гаворыць так. Прыніжае яе і абражае. Нідзе не працуе. Усіх сябровак называе ведзьмамі і ўбіў чатыры асінавыя калы — па кутах дома, каб не прыходзілі.

Прыйшла сяброўка са сваім негламурным геем. Яна хацела паглядзець дзверы, якія я ўсталявала, каб замовіць альбо не замовіць такія ж. І гэтага з сабой прывезла на машыне, відаць, у якасці эксперта ці што. Ён як пабачыў дзверы, дык адразу з расцяжкай такой прамовіў:

— Ой, тебеее такие двериии не надоооо... Это межкомнатныыыеееe.

А пасля сядзеў, крыў матам, махаў рукамі з пярсцёнкамі, распавядаў пра свае новыя камп'ютарныя гульні. Называў манітор «монікам». А я падавала каву. І штосьці мне ў гэтай гісторыі так не спадабалася.

Гей негламурны зрабіў сабе сапраўднае кубло ў лазні, там у яго стаіць бідон з яблычным самагонам уласнага вырабу, які ён называе «каньяком». На гэты каньяк ён запрашае гасцей. Прыйшоў да яго суседскі хлопец, ён напаіў яго, а пасля давай таньчыць голым. Суседскі хлопец ламіўся з лазні, як лось.

Сяброўка патэлефанавала задаволеная і вясёлым голасам (рэдкасць апошні часам) пацікавілася справамі.

— А ты?

— Удалося «спуліць» на заробкі...

— Куды?

— У Разань.
— Што там за заробкі?
— Сігналізацыю нейкую робяць.
— ?????
(Ведаю, што ў электрычнасці не разбіраецца.)
— Хоць адпачну.
Я падумала пра гея негламурнага, яму ж таксама не соладка — ён жыве ненатуральным жыццём. І яшчэ — яго ж гвалтуюць кожны дзень.

У спякотны дзень у цёмным хлеўчуку зваліўся мне на галаву крыж ад навагодняй ёлкі — цяпер будзе сіняк ля скроні.
Ці існуе Вышэйшы суд? Божае пакаранне? Пры жыцці?
Віёла мне сказала: «Хай цішыня стане адказам гэтаму бяздарнаму паяцу, быццам бы ён ужо памёр».
«Зло — якой бы велічыні яно ні было, бывае пакарана! Закон бумеранга дзейнічае заўсёды, без перапынку. Што пасееш, тое і пажнеш. Але любы напад — гэта крык пра дапамогу. Вельмі важна, як ты рэагуеш на пачутае. Можна вельмі доўга даводзіць дзятлу, што ён дзяцел. А можна і спытаць, якая дапамога яму патрэбна, што прыносіць яму столькі болю, што ён вырашыў прынесці боль іншым?» — такімі думкамі дзеліцца са мною сяброўка.

Лета.
Чэрвень — у садзе пахне язмін, свішчуць шпакі, вада ў рацэ цяплее з кожным днём.
Уначы — з 23 на 24 чэрвеня — пераплыла Днепр. Вада цёплая і чорная-чорная ў цемры. А на беразе ля крыніцы — светлякі, а ў небе зарніцы. І водар чэрвеньскіх траваў. У гэтую ноч адчуваеш, што жывы.
Вада цёплая, але высокая, плынь хуткая — нясе за сабою, цягне.
Жнівень. Вада празрыстая, чыстая — бачна, як плаваюць рыбы. Людзей мала. Найлепшы час на беразе. Найлепшая вада для купання.
Вецер, моцны вецер, выварочвае лісце ў вербаў — белыя хвалі ідуць па дрэвах. Трывожна: усё так хутка мяняецца гэтым летам, усё, што шмат гадоў стаяла на месцы, зрушы-

лася. Усё мяняецца — ад самых дробных дэталяў. Людзі, іх паводзіны, абставіны. І да чаго? Што яшчэ чакаць?

Непрычасаная прыгажуня — касмея — мокне пад дажджом.

Расіяне скупляюць прадукты — мяса, смятану. Паўсюль па Оршы машыны з расійскімі нумарамі. У краме прадавачка кажа:

— Па горадзе страшна праехаць, можна падумаць — мы жывём у Расіі.

Вось такі сон, што сустракаю чалавека, які памёр, і хачу зайсці да яго ў госці, а ён кажа, што яму трэба ісці, што зайдзі іншым разам...

Жыццё больш разнастайнае, чым можна падумаць.

Пад дажджом ішла ў краму, ля пяціпавярховай маласямейкі ляжала выкінутая шафа, ля разбітай шафы на мокрым асфальце фотаздымкі. Адзін чорна-белы здымак нагадаў мне кадр з кінафільма. На фотаздымку дзве дзяўчыны, вельмі падобныя адна да адной, як люстраныя адбіткі. Апранутыя аднолькава, з аднолькавымі фрызурамі. Сядзяць на панцырным ложку, за спіной кілім — «Тры асілкі», побач магнітола, кожная дзяўчына трымае ў руцэ плытку фірмы «Мелодыя». Сёстры. Ці настолькі быў падобны стыль пачатку 70-х. На фота надпіс: «Орша — 1972».

Я яго забрала.

Калі вярталася з крамы, убачыла ля шафы новыя фотаздымкі, што не заўважыла першы раз. Чорна-белае фота маладога мужчыны. Муж ці сын адной з жанчын з першага здымка? Не зразумець. Даты няма. І каляровы здымак — на могілках салдаты апускаюць труну ў магілу. Рудая гліна. Што з кім адбылося — не разабраць.

Лістапад. Мышы ідуць на зіму з дома, каты іх ловяць, у мышэй пысы, як хобаты, напэўна землярыйкі, а выглядаюць, як мутанты.

Чысціла сажалку перад зімою — там столькі казюр (гэта рачок такі, з якога пасля нараджаецца страказа (ці, як кажа мой шэф, стрылатка), казюра драпежная — два гады жыве на дне, перад тым як скінуць сваю абалонку, расправіць крылы і паляцець. Летам буду назіраць за пераўвасабленнем казюры ў стрылатку.

Паўночы на гары каля раддома палілі феерверкі. Выбух, неба ў агнях. Пасля брэх сабак. Так цяпер адзначаюць нараджэнне.

Дом наш стаіць унізе, ля ракі. А на гары, на вуліцы — радзільны дом. У дзяцінстве ён быў крыніцай страхаў, як і могілкі. Час ад часу бабуля казала: «Вось, пачаў дымець крэматорый», і хутка зрывала бялізну з вяровак. І тады з труб кацельні ішоў такі густы дым... Казалі, што там спальваюць дзяцей, якія нарадзіліся нежывымі. І больш таго, там спальваюць жанчын — ну, гэта мы самі ўжо, напэўна, дадумвалі. Хадзілі чуткі, што ёсць жанчыны, якія паміраюць, нараджаючы дзяцей. І што нават бачылі, як адну такую выносілі пад прасцінай. Поруч радзільні было вельмі страшна хадзіць, таму што здавалася, вось-вось панясуць яшчэ адну. І там яшчэ была пральня, мы, калі былі малыя, хадзілі туды, я прыдумала, што гэта месца, куды ўсе гэтыя трупы складаюць, мы зазіралі туды, і аднойчы ўбачылі кучу прасцін з крывёй.. Таму што гэта была пральня, куды звозілі бальнічную бялізну. Як мы напалохаліся тады, як уцякалі.

Апрача радзільнага дома на нашай вуліцы ёсць бровар, фабрыка глуханямых «Ніць», царква Святога Леаніда, пачатак дарог Беларусі (такое месца з адзнакамі — колькі да якога горада ехаць), дом, які належаў сям'і класіка беларускай літаратуры Уладзіміру Караткевічу і яшчэ пара дамоў.

Ліпы, пра якія пісаў Караткевіч: «Ліпы старыя ў бліскучых латах, як вартавыя, вартуюць сады».

Ліпы пасадзілі ў 1914 годзе, калі пачыналася Першая сусветная вайна, але калі іх саджалі, ніхто не ведаў, што вайна пачнецца. Садоўнік высадзіў у гонар Новага, 1914 года 14 ліп.

У лістападзе лісце, апалае з дрэваў, ужо зусім сухое. Жыцця ў ім няма нікольки. Сухое лісце засцілае панадворак і залятае ў дом. Сухі ліст на верандзе падобны на мёртвую мыш.

Прачнулася ад таго, што вецер рэзка адчыніў фортку, разам з ветрам у пакой заляцелі чорныя, мокрыя ліпавыя лісты. Вецер пачаўся з вечара, і ўсю ноч дом нагадваў карабель з ветразямі — цэлафан, якім забітыя вокны і дзверы мансарды (няма грошай, каб паставіць вокны і дзверы). Цэлафан надзьмуваўся, калаціўся, на Дняпры біліся хвалі аб бераг, складалася ўражанне, што мы плывём некуды разам з домам. На раніцы фортка рэзка адчынілася. Вецер заляцеў у хату разам з чорным лісцем. Я выйшла ў мокры, халодны сад і ўбачыла, што вецер паваліў плот. І нас нічога не аддзяляе ад ракі. Штосьці трывожнае такое. І вецер не сціхае. І чорнае лісце лётае па садзе. Мокрае. Толькі вельмі моцны вецер здолее ўзняць яго ў паветра — мокрае чорнае лісце мусіла ляжаць на зямлі і прыкрываць сабою кветкі на клумбах да вясны. Лісце прыбіраем увесну.

Колькі я памятаю, заўсёды з'яўляліся людзі, якія хадзілі і казалі, што трэба гэтыя ліпы спілаваць. Вось так гулялі па беразе і казалі: ліпы трэба спілаваць, бо дрэвы не даюць святла, ліпы зваляцца на дах, і пад імі нічога не расце — яны высмоктваюць сокі з зямлі. Апрача ворагаў у ліп была абаронца і захавальніца, якая кляла ўсіх, хто нешта робіць з ліпамі, хоць нешта робіць, нават не шкоднае для дрэваў, напрыклад, збірае ліпавыя кветкі ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня. Кляла і тых, хто жыве ў хаце пад ліпамі. Сівая цётка хадзіла па беразе і ўсім казала: «Гэта мае ліпы! Мой бацька саджаў».

Ліпы саджаў у 1914 годзе на беразе Дняпра садоўнік. Садоўнік працаваў на гаспадара бровара. Дома нашага не было — бераг Дняпра, і ўсё. Дома тут ніякага не было, гэтая зямля да рэвалюцыі належала бровару. Нават ніякіх слядоў культурных няма, калі капаць да глыбіні... Як Сыс

казаў, што ў яго немцы на гародзе закапаныя, то ў нас няма ніводнага. Нічога не закапана, пясок. Чысты пясок і гліна. Мы гаварылі пра гэты пясок з Сашам, які капаў нам яму для каналізацыі, я сказала «пляжны», ён сказаў «магільны». Я спытала чаму, ён сказаў: «Таму што ён так завецца». Гэта значыць магільны пясок і нічога больш. У садоўніка, які саджаў ліпы, была дачка, якая пасля Другой сусветнай, калі людзям раздавалі ўчасткі зямлі, захацела збудаваць дом пад ліпамі... Пасля вайны горад быў разбураны амаль увесь, цэнтр — вуліцы заставаліся, але дамы ў асноўным былі зруйнаваныя... Дзяльба зямлі, я слаба ўяўляю, як гэта адбывалася, але факт той, што дачка садоўніка заявіла: «Дайце нам вось гэта вось, бо гэта была нашая зямля». А якая «нашая зямля» магла быць у той савецкі час? І зямлю, ясна, далі іншым — сям'і камандзіра партызанскай штурмавой брыгады. Спачатку гнеў дачкі садоўніка накіраваўся на яго. Яна хадзіла вакол іх дома і кляла, хоць ёй далі месца для дома, я б сказала, нават лепшае. А яна ўсё адно хадзіла, сівая ўся, і ўсё кляла, кляла. А пасля чарга яе гневу дайшла да нас — дом збудавалі пад ліпамі. Я памятаю, калі я гуляла і яна падыходзіла да мяне і казала: «Гэта нашы ліпы, наша зямля». Старая і сівая... У яе была дачка Ада — прыгожая, хадзіла ў купальніку па беразе... Маці яе была зусім старая і памерла. Час ішоў, і неяк я зноў пабачыла на беразе старую, сівую жанчыну, якая хадзіла і казала: «Гэта нашы ліпы, наша зямля». Ада, якую я памятала прыгожай пані ў капелюшы — у горадзе, і модных купальніках — на беразе, ператварылася ў дакладную копію сваёй маці.

Самы цёмны тыдзень у годзе, пераспаць яго трэба, не выходзіць з дому. Пад коўдрай ляжаць.

Хочацца спаць. Снег хутка ляжа на зямлю. І лёд. Рака спакойная. Павольная. Зніклі хвалі.

Пад коўдру. Спаць паўдня. А па начах глядзець украінскія каналы, страшылкі пра «комах» — забойцаў і зомбі. Пра зомбі найбольш падобна на жыццё — быў блізкі табе чалавек, выйшаў з дома, там яго пакусалі зомбі. А ён жа выходзіў, каб дапамагчы сабе і табе. А зусім не для таго, каб яго пакусалі.

А іх (зомбі) ужо шмат развялося да таго часу, як ён выйшаў з дома, каб знайсці ежу для цябе (ці знайсці тых, хто жывы) — вы ж даўно ўжо разам хаваецеся ад зомбі. І вось яго кусаюць і ён рвецца да цябе ў выглядзе зомбі, хоча таксама пакусаць, просіць адчыніць дзверы, прыдумляе ўсялякія хітрыкі, і ўжо няма ні ежы, ні дапамогі, застаецца толькі... Зрабіць выбар. А хто сказаў, што наш выбар залежыць ад нас?..

Паглядзець пра зомбі і пад коўдру, спаць.

Мне сказалі, што ў гэты час, наадварот, трэба часцей выходзіць, штосьці рабіць, шмат рухацца на свежым, а цяпер ужо і марозным, паветры. А ў хаце, ці на працы, трэба шмат святла, у гэткія дні электрычнасць не трэба эканоміць. Зіме і цемені нас не перамагчы!:)

А я думаю, што лепей спаць.

Вось і Віёла кажа:

— Ужо двое сутак прачынаюся толькі, каб паесці і праверыць пошту.

— Гэта цяжкія дзеянні, трэба асцярожней.

— Цяжкія дзеянні — гэта якія?

— Устаць, праверыць пошту — гэта цяжка невыносна.

А па начах стары дом жыве сваім жыццём, стогне і грукае, як тыя зомбі. Нешта з ім адбываецца. Спакою няма.

Я так думаю, што ад дома, у якім нарадзіўся і жыў у дзяцінстве, трэба трымацца далей. З’ехаць куды-небудзь і заязджаць зрэдку, а яшчэ лепей у снах.

У такім доме адчуваеш сябе слімаком, які свой панцыр цягне на сабе ўсё жыццё. А нехта кажа: «Нічога не ведаю лепш за дзедаўскую сядзібу. Кожны каменьчык дапамагае».

А сяброўка з Варшавы гаворыць:

— Бачыш, бо ты там жывеш. А я жыву далёка ад роднай сялібы, і таксама ніяк не магу зручна ўлегчыся ў жыцці. То ў бок муляе, то ў галаву. Але сёння, скачучы па трэсканых плітах і чыркаючы дубчыкам па лужынах, я зразумела: лепш я тут здохну ад нудоты, чым дома ад агіды.

— Але ж у дарослым выглядзе ты і не жыла ў бабінай хаце?

— Адну бабіну хату мы разабралі і спалілі ў катле бацькоўскага дома, а другую прадалі мілай маладой сям’і.

Я маю на ўвазе маё родавае гняздо, дзе жывуць цяпер мае бацькі і іхныя коткі.

— Напэўна, так і трэба рабіць з бабінымі хатамі.

Прыехаў да нас у госці з начоўкай мастак і пытае:

— А што ў гэтым доме было?

— Людзі жылі.

— А якія, ты ведаеш?

— Ведаю (ці не ведаю?).

Ён яшчэ штосьці ў мяне пытае, думае, што гэта хата набытая. Не, яна пабудаваная. Чужых прывідаў тут няма. Хаця некаторыя госці нашага дома кажуць, што ёсць нейкая жаночая субстанцыя, якая ходзіць начамі ў садзе. Але, можа, гэты чужы прывід... Не наш, таму што пад домам толькі пясок, пясок, пясок, ніякага культурнага пласта. Яму пад каналізацыю капала, толькі пару цаглінаў старых знайшла, і ўсё... Цёмна-вішнёвыя, цвёрдыя, шырокія і пляскатыя цагліны.

— А якія-небудзь светлыя ўспаміны, акрамя трупаў і загубленых жыццяў, у вас ёсць? — пытаецца Віёла.

— Ёсць, але я не ўпэўненая, што гэты ўспамін можна назваць светлым. Галасы чула: гуляю на вуліцы, раптам чую, што мяне хтосьці кліча незнаёмым голасам. Бягу ў хату, а мяне ніхто не клікаў. Проста галасы, якія клікалі мяне.

— А цяпер не клічуць?

— Не. Цяпер бы я па-іншаму зрабіла — я паслухала б, адкуль голас.

— А вось вы прыйшлі б туды, а там дзяўчынка ў сінім паліто, якая не вырасла з тых часоў, — кажа Віёла...

— Ды ўжо ж...

Вось... Усё засыпала. Рака сонная, ціхая. Куст шыпшыны заснежаны і елачка. Так не хочацца зімы!

У мяне ў жыцці быў толькі адзіны талент. Ад прыроды, тое, чаму ніхто не вучыў, а яно само з першага разу атрымалася, і атрымалася добра, вельмі добра. Гэта бегаць на

лыжах. Толькі я гэты талент не развівала, нават не ведаю чаму. Тое, што дарма даецца, не цэніцца.

— А цяпер на лыжах бегаеце? — пытаецца Віёла.

— На лыжах? Не. Няма лыж.

— Іх жа нядоўга купіць. Такія зімы, такія снягі знікаюць, у вас талент знікае, а вы...

— Не ўпэўнена, што цяпер змагу на іх бегчы.

— А чаму не паспрабаваць? Хатняе заданне — купіць лыжы.

— Я пра гэта думаю кожную зіму, але потым мяне палохае гэты момант, калі ўжо цела не слухаецца. Як гэта? «*Здрада* цела» адбываецца.

*2011 год*

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 29

**Качаткова** Паліна

**Матылі**

Навелы

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алесь Пашкевіч
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Карэктура Алены Спрытніч

Падпісана да друку 10.07.2012. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 7,56. Ул.-выд. арк. 5,6.
Наклад 300 ас. Зак. 486.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.